# НАШ КРАЙ



№ 3 (30)

САКАВІК 1928

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎ...



# ПАДПІСЫВАЙЦЕСЯ

НА ДВУХМЕСЯЧНУЮ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ

# „УЗВЫШША"

НА 1928 ГОД (другі год выданьня)

**„УЗВЫШША"**
зьмяшчае романы, аповесьці, новэлі, поэмы, драмы, сатыру, беларуск. і іншакраёв. поэтаў і пісьменьнікаў.

**„УЗВЫШША"**
шырака высьвятляе пытаньне тэорыі, крытыкі і практыкі ўсіх галін пролетарскага мастацтва.

**„УЗВЫШША"**
друкуе рэцэнзіі і водгукі на новыя кнігі прыгожага пісьменства як беларускага, так і іншакраёвага.

**„УЗВЫШША"**
шырака інформуе аб мастацкім літаратурным жыцьці краін СССР і замежных.

**У „ЎЗВЫШШЫ"**
супрацоўнічаюць профэсары, крытыкі і тэорэтыкі мастацтва БССР, расійскія, украінскія і іншыя.

**„УЗВЫШША" БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ**
памерам ад 12 да 15 друкаваных аркушоў

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

На 1 год (6 нумароў) . . . 7 р. — к.
„ паўгода (3 нумары) . . . 4 р. — к.
Кошт асобн. нумару ў прадажы 1 р. 50 к.

За даплату 3 р. гадавыя падпісчыкі атрымаюць поўны комплект „Узвышша" за 1924 г. (6 нумароў)

[illegible]рас: Менск, Савецкая вуліца, № 63.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 3 (30) Сакавік 1928

ГОД ВЫДАНЬНЯ ЧАЦЬВЕРТЫ



ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1928

# Краязнаўчыя экскурсіі ў выхаваньні моладзі.

За хвалямі захапленьня экскурсіямі па гораду, у прыроду, прамысловыя прадпрыемствы з вучнямі розных тыпаў школ, з рабочай моладзьдзю і групамі рабочых, сярод некаторых кіраўнікоў экскурсій і часткі настаўніцтва пачала прыкмячацца некаторая незадаволенасьць гэтымі экскурсіямі і ў прыватнасьці экскурсіямі на прамысловыя прадпрыемствы. Выстаўляюцца такія пярэчаньні: кіраўніцтва прамысловымі прадпрыемствамі вельмі неахвотна дапускае групы экскурсантаў і не дае магчымасьці спыніцца колькі патрэбна часу на вывучэньні прадпрыемства; вельмі цяжка кіраваць групамі ў час экскурсіі і даваць належныя тлумачэньні; на экскурсіі затрачваецца вельмі многа часу, што не апраўдваецца вынікамі экскурсіі.

Згаджаючыся, што ўсе памянёныя перашкоды, бязумоўна, маюцца, мы ўсё-ж лічым ня толькі магчымым, але і зусім неабходным правядзеньне экскурсій з вучнёўскаю і наогул працоўнаю моладзьдзю як у прыроду (перашкод для чаго вельмі мала), так і на прадпрыемствы, бо карысьць ад экскурсій надзвычайна вялікая і ў сэнсе пашырэньня кругавіду экскурсантаў, набыцьця імі ведаў у розных галінах, і ў сэнсе комуністычнага выхаваньня, уразуменьня асноў соцыялістычнае гаспадаркі і соцыялістычнага будаўніцтва.

Ніякі падручнік, схэмы, дыяграмы, ніякае слова ня могуць даць таго вобразна-эмоцыянальнага ўяўленьня аб прыродзе, аб характары працы прадпрыемства, процэсе вытворчасьці, аб умовах працы рабочых, як гэта можа даць прадумана організаваная экскурсія. Можна прывесьці шэраг прыкладаў, калі вучнёўская моладзь і моладзь, якая ўжо скончыла школу, чытала альбо нават вывучала тыя ці іншыя пытаньні жыцьця прыроды, пытаньні гаспадарчага жыцьця, быту тых ці іншых груп насельніцтва, але яскравага прадстаўленьня аб гэтых пытаньнях ня мела да часоў экскурсіі, якая адчыняла ім вочы на зусім новыя бакі жыцьця. На экскурсіях нам вельмі часта прыходзіцца чуць такія прызнаньні экскурсантаў: „а я зусім ня так уяўляў сабе процэс выплаўкі чыгуну“, „я ня мысьліў, што праца на гуце такая цяжкая“ і г. д. І такія заявы прыходзіцца чуць ад тых, хто чуў, чытаў і нават вывучаў нашу прамысловасьць. Гэта зусім зразумела: трэба на месцы дасьледваць тыя ці іншыя зьявы жыцьця так, як яны ёсьць у запраўднасьці, каб мець належнае аб іх уяўленьне.

Экскурсіі на фабрыкі і заводы вельмі карысны і з таго пагляду, што яны высьвятляюць блізкую і цесную сувязь паміж прыроднымі багацьцямі краіны, характарам прамысловасьці і заняцьцямі насельніцтва данае мясцовасьці. Тут, на фактычных і конкрэтных прыкладах, можна паказаць залежнасьць разьвіцьця данага роду

вытворчасьці ад рынкаў збыту і запасаў сыравіны, значэньне транспортных сродкаў і г. д.

Прад намі ў сучасны момант стаяць вельмі вялікія і складаныя задачы: будаваць новую соцыялістычную гаспадарку, дапамагаць і прымаць актыўны ўдзел у індустрыялізацыі краіны, паднімаць культуру працоўных мас; і вось гэтыя практычна-экономічныя і культурныя запатрабаваньні ў значнай меры могуць знаходзіць адказ у вытворчых экскурсіях, якія будуць знаёміць з становішчам нашае прамысловае тэхнікі, з характарам нашай вытворчасьці і яе продукцыяй.

На экскурсіі на прадпрыемства мы павінны глядзець як на асаблівага роду пропаганду новых тэхнічных ведаў у моладзі, як на популярызацыю ідэі індустрыялізацыі, падняцьця і палепшаньня нашае вытворчасьці.

У сувязі з пастаноўкай пытаньня аб вялікай вартасьці экскурсій у прамысловыя прадпрыемствы з погляду іх практычна-грамадзкага значэньня, неабходна зрабіць некаторыя, на наш погляд вельмі сур'ёзныя, агаворкі: 1) экскурсіі на прамысловыя прадпрыемствы павінны праводзіцца вельмі прадумана, організавана, па строга вызначаным пляне; 2) прадпрыемства павінна пераважна вывучацца з боку організацыі вытворчасьці, організацыі працы і з боку экономічна-соцыяльнага значэньня данага прадпрыемства; 3) праца прадпрыемства павінна вывучацца ў яе дынаміцы. Экскурсіі павінны, па магчымасьці, насіць характар пасільна-сур'ёзнага вывучэньня пастаўленых пытаньняў. На экскурсіях у вытворчыя прадпрыемствы моладзь навучаецца цаніць народную маемасьць, прасякаецца павагай да самае працы, якая замяняе ўсё наша жыцьцё, заваёўвае прыроду, выкарыстоўвае сілы яе на служэньне чалавеку. Моцныя сталёвыя машыны, якія прыводзяць у рух станкі, робяць вялікае ўражаньне і паднімаюць настрой, вызываюць імкненьне вывучаць тэхніку, рабіць новыя дасягненьні, удасканальваць працу.

Строгая, разьмераная праца кожнага рабочага для свайго станка, пры машыне, праца, якая зьяўляецца толькі адным зьвяном у вялікай колектыўнай працы,—набывае асабліва важнае значэньне. Ні дзе не адчуваецца такая адказнасьць кожнага за працу, як на вялікім прамысловым прадпрыемстве. Правільна організаваная праца вялікае сям'і рабочых на прадпрыемстве, дзе ўсе зьвязаны нявідзімымі ніткамі, дзе воля людзей зьліваецца з воляй сталёвых машын і сіл прыроды, навучае нашу моладзь паважаць гэтую працу, знаходзіць у ёй сэнс, адчуваць адказнасьць перад колектывам.

Наша моладзь, незанятая на прадпрыемствах, вельмі мала ўяўляе сабе запраўдныя ўмовы працы рабочых, іх жыцьцё. І толькі ў час экскурсіі ў поўнай меры выяўляюцца звычайныя ўмовы працы. З боку вясковае моладзі нам прыходзілася чуць нападкі на рабочых, што яны мала працуюць (у параўнаньні з сялянамі) і шмат зарабляюць грошай, але, калі тыя-ж вясковыя хлапцы пабывалі на фабрыцы і пазнаёміліся з працай рабочых, дык нам прышлося чуць далёка не ранейшыя водзывы аб працы рабочых.

Экскурсіі на прадпрыемства, такім чынам, узмацоўваюць сувязь сялян з рабочымі, яднаюць іх у адну працоўную сям'ю.

Умовы працы і жыцьця рабочых у сучасным напомняць самі сабой і аб мінулых часох, часох капіталістычнай эксплёатацыі рабочых і аб гэроічнай барацьбе ў дні Кастрычніка, а адсюль будзе выцякаць задача неабходнасьці адзінага пролетарскага фронту ва ўсім сьвеце.

Строга організаваная праца на фабрыцы ці заводзе сама сабой накіроўвае думкі маладых экскурсантаў у бок неабходнасьці дысцы-

пліны і організаванасьці ва ўсякай масавай карысна-грамадзкай працы, дзе рабочыя самі будуюць сваё жыцьцё.

Нельга не адзначыць выхаваўчага значэньня і тых эмоцыянальных перажываньняў, якія выклікаюцца веліччу і грандыёзнасьцю сучаснае тэхнікі, грукатам і стукам машын, працай людзей. Гэтыя перажываньні паднімаюць настрой, завуць да творчай працы, да будаўніцтва новага жыцьця і ўзмацненьня новага ладу.

Нам здаецца, што гаварыць аб малай каштоўнасьці экскурсіі ня прыходзіцца. Адчуваецца асаблівая зацікаўленасьць экскурсіямі на прадпрыемства, што зусім адпавядае і агульна-грамадзкім задачам і настрою.

Экскурсіі: 1) выхоўваюць марксыцка-матар‘ялістычны сьветапогляд на ўсе зьявы акаляючага жыцьця прыроды і грамады; 2) пашыраюць веды экскурсантаў; 3) экскурсіі (на прадпрыемства) зьяўляюцца сродкам пропаганды і агітацыі падняцьця вытворчасьці, палепшаньня продукцыі гэтае вытворчасьці, узмацненьня тэмпу індустрыялізацыі краіны; 4) экскурсіі зьяўляюцца сродкам працоўнага выхаваньня моладзі ў напрамку колектывізму і пролетарскай солідарнасьці; 5) экскурсіі організуюць і шчыльна аб‘ядноўваюць моладзь і 6) экскурсіі маюць вялікае значэньне ў сэнсе выхаваньня настрою моладзі, разьвіцьця адчуваньня поэзіі творчай дзейнасьці чалавечага колектыву.

Такім чынам, прадуманая, правільна організаваная экскурсія заўсёды апраўдае і акупіць затрачаны на яе час. Перашкоды з боку адміністрацыі прамысловага прадпрыемства, пэўна, будуць (дзеля зусім зразумелых прычын), але і з адміністрацыяй можна ў большасьці дагаварыцца належным чынам, калі экскурсія будзе мець сур‘ёзныя задачы і будзе добра організавана.

Без асобых цяжкасьцяй можна праводзіць экскурсіі з організаванаю моладзьдзю (вучнёўскаю, комсамольцамі) і вельмі цяжка з моладзьдзю неорганізаванаю. На правядзеньне краязнаўчых экскурсій (і асабліва экскурсій на прадпрыемства) мы павінны зьвярнуць вялікую і сур‘ёзную ўвагу, дзеля чаго неабходна: 1) шырака популярызаваць сярод моладзі ідэю краязнаўчых экскурсій (мясцовых у першую чаргу); 2) краязнаўчым організацыям сумесна з органамі НКА прыняць меры да падрыхтоўкі кіраўнікоў экскурсій (якімі галоўным чынам будуць настаўнікі); 3) у кожным горадзе і кожным раёне неабходна распрацаваць маршруты экскурсій у прыроду, у мясцовую прамысловасьць (фабрыкі, заводы), у найбольш тыповыя вёскі і пасёлкі; 4) бібліотэкі папоўніць справачнікамі і літаратураю аб мясцовым краі; 5) організаваць мясцовыя краязнаўчыя музэі, якія характарызавалі-б свой край; 6) саюзным і комсамольскім організацыям удзяліць больш увагі экскурсіям і выдзеліць неабходныя мінімальныя сродкі на экскурсыйную справу.

*В. С.*

---

Мік. П. Сьмірноў.

# Асноўныя элемэнты біоклімату Беларусі.

У жыцьці організмаў кожнае краіны штогодна наглядаецца шэраг пэрыодычных зьмен. Дрэвы зеляне́юць, цьвітуць, даюць плады, скідаюць лісьцё; птушкі прылятаюць, выводзяць птушанят, адлятаюць у вырай і да т. п. Зьмена такога роду зьяў у розных мясцовасьцях праходзіць неаднолькава. Злучнасьць асаблівасьцяй, якія наглядаюцца ў ходзе пэрыодычна-зьменных зьяў у жыцьці організмаў, складае біо-

клімат данае мясцовасьці. Вывучэньне біоклімату зьяўляецца мэтай фэнолёгіі. Фэнолёгічныя нагляданьні, якія паказваюць час прыходу розных пэрыодычных зьяў у жывой прыродзе, на тэрыторыі Беларусі вядуцца ўжо досыць даўно. Найбольш значныя матар'ялы такога роду сабраны Т. Я. Главацкай, якая вядзе нагляданьні з 1895 г. да гэтага часу ў ваколіцах в. Ла́заравічы Быхаўскага р. Магіл. акр. Матар'ялы гэтыя з 1895 г. па 1921 год знаходзяцца ў архіве З. Н. Кайгарадава—у Зоолёгічным Музэі Акадэміі Навук у Ленінградзе, а за 1925—1927 г. г.—у архіве Расійскага Т-ва Аматараў Сьветазнаўства, куды наглядальніца Главацкая дасылае свае нагляданьні пасьля сьмерці Кайгарадава, корэспондэнтам якога яна была. На жаль, адсутнічаюць матар'ялы за 1922—1924 г.г. *); за 1900—1902 і 1904-1905 г. г. маюцца нагляданьні В. М. Шнітнікава над прылётам птушак у б. Пінскім павеце (Птицы Минской губ. М. 1907 г.); з 1920 па 1927 г.г. праводзіліся нагляданьні ў г. Магілеве В. І. Мярцалавым (архіў Р. Т. А. С.); з 1923 па 1927 г.г.—у г. Горках проф. П. Салаўёвым і некаторымі іншымі асобамі. Там-жа—у Горках—праводзілі свае нагляданьні над ростам дрэў у 1923 і 1924 г.г. проф. Марохін і ў 1926 г. проф. Мельнік. У мінулым годзе быў надрукаваны ў № 4 часопісу „Наш Край“ артыкул проф. Бурштэйна, у якім, паміж іншым, маюцца даныя аб цьвіценьні і дасьпяваньні пладоў шэрагу садовых дрэў у б. Лепельскім павеце з 1892 па 1924 год. Апрача таго, у гэтым-жа часопісу, у якасьці дадатку да № 8-9 за 1927 г., было надрукавана абагульненьне фэнолёгічных нагляданьняў па БССР з 1 студзеня па 1 ліпня 1927 г., у якім паказаны тэрміны надыходу зьяў прыроды ў 35 розных пунктах рэспублікі.

За апошнія тры гады сабраны таксама значныя матар'ялы па фэнолёгіі Беларусі Расійскім Т-вам Аматараў Сьветазнаўства; частка з іх апублікавана ў штогодных справаздачах і бюлетэнях Фэнолёгічнага Аддзелу гэтага т-ва, частка застаецца ў яго архіве ў неапрацаваным выглядзе. Нямала ўрывачных нагляданьняў, праведзеных на тэй-жа тэрыторыі, ёсьць у абагульненьнях, зьмешчаных з 1885 па 1895 г.г. А. П. Ваейкавым у „Записках Русск. Географ. О-ва“; маюцца таксама ненадрукаваныя матар'ялы ў архіве З. Н. Кайгарадава, апрача тых, аб якіх ужо памянута раней.

Матар'ялы гэтыя ў значнай долі выпадковы, сабраны іншы раз асобамі, незнаёмымі з мэтодамі фэнолёгічных нагляданьняў, дзеля чаго не заўсёды яны дакладныя, і толькі невялікую іх частку можна скарыстаць у мэтах пазнаньня біоклімату данае мясцовасьці.

Так,—параўнаньне дат зацьвітаньня яблыні і дасьпяваньня вішні ў хутары Фатынь, якія падаюцца ў артыкуле проф. Бурштэйна, з падобнымі-ж матар'яламі з іншых мясцовасьцяй—робяць іх маланадзейнымі, спозьненымі. Напрыклад, на дасьпяваньне пладоў вішні ў 1915 г. патрэбна было быццам—74 дні, калі звычайны тэрмін гэтага ад 40 да 55 дзён; сярэдняя дата зацьвітаньня яблыні вызначана на 23 мая, у той час калі ў Пскове і ў Холмскім пав. Пскоўск. губ. сярэдні тэрмін гэтае зьявы—20 мая. Буйным недахопам сабраных фэнолёгічных матар'ялаў зьяўляецца тое, што няма шматгадовых нагляданьняў над летнімі і васеньнімі зьявамі. У некаторых мясцовасьцях Беларусі, як напрыклад у Менскай і Бабруйскай акругах, сыстэматычных нагляданьняў да гэтага часу не праводзілася. Гэтыя недахопы матар'ялаў не дазваляюць у сучасны мамант з патрэбнаю поўнасьцю і дакладнасьцю высьветліць тыя элемэнты біоклімату, якія даюць яскравае

*) Частка гэтых матар'ялаў друкуецца дадаткам да нашага артыкулу.

ўяўленьне аб асаблівасьцях у зьмене жыцьцёвых зьяў у прыродзе Беларусі. Мы можам толькі вельмі прыблізна вызначыць, калі ў розных частках рэспублікі біосфэра абуджаецца ад зімовага сну, калі яе дзейнасьць дасягае сваёй вышэйшай напружанасьці, калі яна зноў пераходзіць у стан зімовага спакою. Толькі ў агульных рысах зараз можна паказаць на асаблівасьці ў ходзе розных сэзонаў, тых або іншых фаз разьвіцьця організмаў на тэрыторыі нашае краіны. Але ў сучасны момант заўважваецца вялікая зацікаўленасьць да правядзеньня фэнолёгічных нагляданьняў сярод сялянства, настаўніцтва і іншых колаў савецкай грамадзкасьці.

Каб гэтая зацікаўленасьць не загасла, каб яна дала каштоўныя вынікі, неабходна высьветліць, што ўжо зроблена ў гэтым напрамку, а галоўнае—паказаць кірунак, у якім павінны праводзіцца фэнолёгічныя нагляданьні, каб яны ня былі дарэмнай стратай часу і сіл,—як гэта было дагэтуль. Выходзячы з такіх меркаваньняў, мы і робім спробу паказаць, хаця прыблізна, тыя задачы, якія ў сучасны момант ставяцца кожнаму фэнолёгу, які жадае працаваць у гэтым напрамку.

Беларусь па сваім біоклімаце цалкам ляжыць у паласе з яскрава выяўленым кругабегам зімовага спакою біосфэры. Тутака расьліннасьць зусім спыняе сваю дзейнасьць на час зімы, каб у весну пачынаць новы цыкль разьвіцьця,—у супрацьлежнасьць тым краінам, дзе ня бывае запраўднай зімы і дзе значная частка расьлін ня спыняе процэсу ўсваеньня сонечнай энэргіі круглы год. Першай пэўнай адзнакай абуджэньня расьліннасьці ад зімовага сну ў нас можна лічыць дзень, калі пачынаецца рух соку ў клёна. Ён у Люгавічах Быхаўскага раёну быў адзначаны ў 1926 г. 9 сакавіка, а ў 1927 г.—17 сакавіка. Праз некалькі дзён пачынаецца рух соку ў бярозы, які тутака ў сярэднім—за 12 год нагляданьня—бывае 29 сакавіка. Раней гэтага зьяўляюцца першыя пералётныя птушкі: гракі 15 сакавіка, шпакі 20 сакавіка; першая песьня палявога жаўранка чуецца 18 сакавіка,—усе гэтыя даты бяруцца з нагляданьняў Т. Я. Главацкай. Але не ва ўсіх частках рэспублікі вясна пачынаецца ў адзін і той самы час. У агульных рысах кірунак, у якім пасоўваюцца зьявы на тэрыторыі рэспублікі ў розныя сэзоны, такі.

Пачатак вясны ў Беларусі ідзе з поўдня-захаду,—адсюль ляцяць першыя пералётныя птушкі, адсюль надыходзяць хвалі зацьвітаньня ляшчыны і алешыны. Іншы раз, як напрыклад у 1927 годзе, гэты кірунак бывае нават зусім заходнім. Так цягнецца да часу зацьвітаньня асіны і лотаці (Caltha palustris). Пасьля заходні ўплыў слабее і на яго месца высоўваецца паўднёвы: прылёт позьніх птушак—ластавак, груноў (стрыжоў) і інш. ідзе ўжо з поўдня на поўнач; ізоанты, г. зн. лініі адначасовага зацьвітаньня садовых дрэў прымаюць кірунак, наагул, аднолькавы з роўналежнікамі. Улетку іншы раз выяўляецца ўплыў паўднёва-ўсходні, і ізоанты летніх расьлін, жыта і ліпы, у іншыя гады ідуць з захад-поўдзень-захаду на ўсход-поўнач-усход. Васеньнія процэсы,—як адлёт птушак, афарбоўка лісьця дрэў і лістаападаньне знаходзяцца пад паўночна-ўсходнім уплывам, і напрамак іхняга ходу вызначаецца з поўнач-усходу на поўдзень-захад. Абуджэньне прыроды ад зімовага сну ў межах Беларусі пачынаецца раней усяго ў паўднёва-заходняй частцы. Летні рэжым спачатку вызначаецца на поўдні-ўсходзе, а васеньнія зьявы раней усяго выяўляюцца на поўначы-ўсходзе. У адпаведнасьці з агульным напрамкам веснавых і васеньніх процэсаў разьмяркоўваюцца і раёны з розным кругабегам дзейнасьці біосфэры. У сучасны момант мы яшчэ ня маем магчымасьці гэтыя раёны вызначыць зусім дакладна з тае прычыны, што фэнолёгічных нагляданьняў,

якія-б ахаплялі ўвесь гадавы круг жыцьця, у Беларусі да гэтага часу амаль што няма. Аднак-жа можна і цяпер ужо сказаць, што летняя дзейнасьць расьліннасьці менш за ўсё працягваецца ў частцы Віцебшчыны, якая мяжуецца са Смаленскай губэрняй, а даўжэй за ўсё яна ў Мазырскай акрузе. Так, у 1927 г. ад пачатку руху соку да канца лістападаньня ў бярозы ў Віцебскай акрузе прайшло 217—220 дзён, а ў Мазырскай акрузе 230—235 дзён; адпаведна з гэтым гусі пражылі ў гэтым-жа годзе ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі 210 дзён, а жураўлі—195 дзён; у паўднёва-заходняй-жа частцы першыя былі—220 дзён, а другія—205 дзён. Значыцца, усваеньне і перапрацоўка сонечнай энэргіі расьлінамі ў паўднёва-заходняй частцы рэспублікі цягнецца дзён на пятнаццаць даўжэй, як на поўнач-усходзе яе.

Час надыходу шэрагу асобных зьяў у розных частках Беларусі можна бачыць з наступнай табліцы, складзенай паводле тых матар'ялаў, якія ў нас ёсьць. Складзена табліца такім чынам: спачатку занесены на карту даты зацьвітаньня пералічаных расьлін ня толькі для Беларусі, але і для сумежных з ёю мясцовасьцяй. На аснове гэтых дат праводзіліся ізоанты, г. зн. лініі, паказваючыя, дзе даная зьява надыходзіла ў адзін і той-жа дзень. На падставе ўсіх гэтых ізоант вылічаны тыя даты, якія паказаны ў табліцы. Іншым спосабам табліцу скласьці было-б немагчыма з тае прычыны, што ў паказаных гарадох шматгадовых нагляданьняў не праводзілася.

| Гарады БССР. | Alnus incana Алешына шэрая | Corylus Avellana Ляшчына | Acer platanoides Клён | Prunus cerasus Вішня | Prunus Padus Чарэмха | Pirus Malus Яблыня | Caragana arborescens Акацыя жоўт. | Syringa vulgaris Бэз звыч. лілёв. | Sorbus aucuparia Рабіна | Secale cereale Жыта | Tilia cordata Ліпа |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Віцебск . . . . | 9/IV | 10/IV | 7/V | 13/V | 13/V | 18/V | 21/V | 22/V | 14/V | 11/VI | 8/VII |
| Менск . . . . | 4/IV | 29/III | — | 9/V | 11/V | 13/V | 16/V | 16/V | 22/V | 8/VI | 5/VII |
| Магілеў . . . . | 8/IV | 10/IV | 5/V | 12/V | 11/V | 16/V | 17/V | 20/V | 22/V | 9/VI | 4/VII |
| Мазыр . . . . | 2/IV | 31/III | 2/V | 8/V | 8/V | 12/V | 13/V | 16/V | 18/V | 4/VI | 30/VI |

Хаця гэтыя даты зьяўлюцца да вядомай ступені прыблізнымі і пасьля непасрэдных нагляданьняў магчыма крыху зьменяцца, але бадай што гэтыя зьмены ня будуць значнымі, бо зробленыя на іх падставе вывады добра адпавядаюць вынікам, атрыманым іншымі спосабамі, якія грунтуюцца на вывучэньні ходу зьяў на працягу апошніх трох год—1925-1927.

Сапастаўленьне гэтых дат з аднаго боку пацьвярджае тое, што ў нас сказана вышэй аб ходзе зьяў у розныя сэзоны: так, алешына зацьвітае ў Менску на 4 дні раней за Магілеў, а ліпа ў Магілеве на дзень раней за Менск і г. д. Апрача таго, сапастаўленьне гэтых дат дае магчымасьць высьветліць адзін з важнейшых элемэнтаў біокліматаў, а менавіта залежнасьць часу прыходу розных зьяў ад географічнай шырыні мясцовасьці. Мы зрабілі вылічэньне хуткасьці прасоўваньня шэрагу веснавых зьяў, пачынаючы з зацьвітаньня чарэмхі і канчаючы зацьвітаньнем рабіны, усьцяж градусаў даўжыні, г. зн. з поўдня на поўнач. Выявілася, што сярэдняе прасоўваньне другой паловы вясны,—калі нагляд̓аюцца памянёныя зьявы,—адбываецца тутака з хуткасьцю 59 клм.

у суткі; такім чынам для прасоўваньня з поўдня на поўнач на адзін градус патрэбна 1,9 дня. Гэтая хуткасьць крыху большая за сярэднюю для ўсёй Усходняй Эўропы—якая раўняецца прыблізна 43 клм.*). У розных частках рэспублікі гэтая хуткасьць неаднолькавая; найбольш за ўсе яна ў паўднёва-заходняй частцы, дзе прасоўваньне на адзін градус да поўначы цягняецца 1,3 дня; самае маруднае прасоўваньне вясны наглядаецца на поўнач-захадзе, дзе вясна праходзіць градус толькі праз 3,6 дня. Такім чынам, паводле тэмпу веснавых зьяў Беларусь можна падзяліць на тры часткі: паўднёвую,—дзе вясна праходзіць хутчэй за сярэдняе, паўночную,—дзе яна прасоўваецца павольней за сярэдняе, і цэнтральную,—дзе тэмп вясны набліжаецца да сярэдняга, пры гэтым у заходніх акругах рэжым вясны рэзка мяняецца па меры прасоўваньня на поўнач, а ў усходніх акругах застаецца больш аднастайным.

Дзеля таго, каб характарызаваць лета, мы выкарыстаем час ад пачатку цьвіценьня да пачатку жніва азімага жыта. Нагляданьні над гэтым пэрыядам, на жаль, яшчэ вельмі нязначныя—усяго толькі за 3 гады: 1925, 1926 і 1927. На падставе іх можна сказаць, што пасьпяваньне жыта на захадзе Беларусі праходзіць хутчэй, як на ўсходзе. У сярэднім за тры гады розьніца даходзіць да 5 дзён: на захадзе пэрыод пасьпяваньня жыта раўняўся прыблізна 35 дням, а ўздоўж усходняй мяжы ён раўняецца ўжо 40 дням. У параўнаньні з іншымі мясцовасьцямі Эўр.-Азіяцкага матэрыка працяжнасьць пасьпяваньня жыта ў Беларусі карацей за сярэднюю, бо многалетняя сярэдняя працяжнасьць гэтага пэрыоду для ўсяго матэрыка раўняецца 40-45 дням. Некаторыя даныя аб часе пасьпяваньня чарэшні, вішні, трускаўкі і маліны ёсьць у запісках Я. К. Мароза. Але, як мы ўжо казалі раней, даты, адзначаныя гэтым наглядальнікам, нам паказваюцца ня зусім пэўнымі і надзейнымі ў параўнаньні з іншымі падобнымі нагляданьнямі.

Восень характарызуецца працягам пэрыоду заміраньня лісьця розных дрэў, пачынаючы ад зьяўленьня афарбоўкі да канца лістаападаньня. Л. П. Шпакоў у в. Войтава Віцебск. акр. (20 клм. ад г. Віцебску на п.-у.) наглядаў усе галоўнейшыя фазы гэтага процэсу ў шэрагу дрэў на працягу 1925, 1926 і 1927 г. г. Частку табліц, якія ім дасланы ў фэнолёгічны аддзел Р. Т. А. С., тутака падаем:

| №№ па пар. | Назва расьлін | Пачатак зьмены афарбоўкі лісьця | | | Поўная зьмена афарбоўкі лісьця | | | Пачатак лістаападаньня | | | Канец лістаападаньня | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1925 | 1926 | 1927 | 1925 | 1926 | 1927 | 1925 | 1926 | 1927 | 1925 | 1926 | 1927 |
| 1 | Чарэмха . . . | 14/VIII | 20/VIII | 12/VIII | — | — | 15/VIII | 28/VIII | 4/IX | 15/VIII | 28/IX | 25/IX | 15/IX |
| 2 | Бяроза . . . | 15/VIII | 14/VIII | 20/VIII | — | — | 2/X | 13/IX | 27/VIII | 28/VIII | 10/X | 5/XI | 25/X |
| 3 | Ліпа . . . | 23/VIII | 2/IX | 2/IX | — | — | 25/IX | 28/VIII | 5/IX | 10/IX | 30/IX | 15/X | 24/X |
| 4 | Клён востраліст. | 2/IX | 3/IX | 18/IX | — | — | 1/X | 15/IX | 14/IX | 20/IX | 14/X | 8/X | 10/X |
| 5 | Рабіна . . . | 30/VIII | 28/VIII | 20/IX | — | — | 18/IX | 15/IX | 10/IX | 20/IX | 1/X | 20/X | 2/X |
| 6 | Асіна . . . | 28/VIII | 2/IX | 18/IX | — | — | 2/X | 14/IX | 26/IX | 20/IX | 15/X | 15/X | 16/X |
| 7 | Яблыня . . . | 14/VIII | 7/IX | 1/IX | — | — | 25/IX | 23/VIII | 9/IX | 10/IX | 28/IX | 15/X | 10/X |

*) Аб гэтым больш падрабязна глядзі ў нашым „Фенологическом очерке Ленинградской губ.“ Ленінгр. 1927 г. Стар. 275.

У фэнолёгічным бюлетэні, надрукаваным у № 10 „Известия Центр. Бюро Краеведения“ за 1927 г., намі былі пададзены некаторыя весткі аб ходзе васеньняга заміраньня лісьця ў розных мясцовасьцях Саюзу. Параўнаньне іх з датамі Шпакова паказвае, што гэты працэс у Войтаве ішоў шпарчэй за Ленінград, амаль што аднолькава з такім-жа працэсам у с. Долацкім Чарапавецк губ. і павольней, як у г. Карлінску ў Сярэдняй Азіі. Гэтае параўнаньне да вядомае ступені паказвае на характар восені параўнаўча з іншымі мясцовасьцямі. Калі-б і іншыя беларускія фэнолёгі правялі-б падобныя нагляданьні над усімі цыклямі разьвіцьця шэрагу расьлін, параўнаньне падобных радкоў дало-б магчымасьць выявіць асаблівасьці біоклімату розных частак нашае рэспублікі больш дакладна і дэтальна. Спадзяючыся на гэта, канчаем свой кароткі агляд Беларусі ў фэнолёгічным стасунку заклікам да ўсіх аматараў прыроды прыняць удзел у плянавым і сыстэматычным правядзеньні фэнолёгічных нагляданьняў, паводле праграм і інструкцый, выпрацаваных Расійскім Таварыствам Аматараў Сьветазнаўства [1]).

---

**Зьм. Даўгяла.**

# Стары Менск.

## I. Менск у XVII сталецьці.

XVII сталецьце пачалося для Менску пры няспрыяючых абставінах. У 1602-1603 г.г. Менск пацярпеў ад мору і хутка пасьля гэтага быў зьнішчаны пажарам. Цяжкае становішча яго ў першыя 30 год XVII ст. адзначана ў прывілеі ад 1 сакавіка 1633 г. Менск неаднакроць пацярпеў ад агню і мору. Ад пераходу войск конфэдэрацкіх і рэгулярных прышоў да заняпаду, і калі-б ня меў падтрыманьня з боку ўлады, то для Рэчы Паспалітай маглі-б вынікнуць вялікія шкоды. Аднак, паколькі Менск быў адміністрацыйным асяродкам і вайсковым апорным пунктам, то цэнтральны ўрад лічыў неабходным, каб ён меў пэўныя ўзмацненьні. Вось чаму цэнтральная ўлада выдала прапанову, паводле якой мяшчане і купцы, якія вялі гандаль мясцовымі таварамі, вызваляліся ад „старога мыту“ на менскай мытніцы і яе аддзяленьнях („прыкаморках“). Але на іх ускладзены абавязак асыпаць места валам, або абгарадзіць яго высокім парканам і пабудаваць брамы, пры дапамозе ўсіх менскіх жыхароў.

Якую экономічную базу Менск меў у той час? Папершае, відаць, як і раней, Менск заставаўся на вялікім гандлёвым шляху паміж Польшчай і Масквой. Праз Менск праяжджалі гандляры, ішоў транзітны гандаль. Накіроўваліся пасольствы з суседніх дзяржаў [2]). Гэты транзіт даваў, напэўна, заробак Менскім жыхаром. Падругое, дапамагаў падтрыманьню места ўнутраны гандаль гаспадарчымі продуктамі і гарэлкаю, чым менскія мяшчане шырака займаліся. Да гэтага-ж таксама трэба дадаць і ўдзел пэўнай колькасьці менскіх мяшчан у замежным

---

[1]) Увага ад рэдакцыі: Програмы гэтыя і інструкцыі перапрацаваны і прыстасаваны да беларускіх умоў і разасланы ва ўсе краязнаўчыя організацыі БССР.

[2]) М. Н. Карамзін адзначае, што ў 1606 г. маскоўскі пасол князь Валконскі, які ехаў ў Кракаў хутка пасьля забойства ў маскве першага самазванца, спаткаў у Менску неспадзяваныя адносіны. Падбухтораны Менскім кашталянам Янам Гарабурдай, натоўп зрабіў напад на гэтага маскоўскага пасла і абкідаў яго брудам, ня гледзячы на тое, што Валконскі меў ахову з боку прыставоў ад польскага двара. Відаць, у гэтым адбілася тая няпрыхільнасьць да справы Лжэдзьмітра і Мнішкаў, якая была ў Літоўска-Беларускай магнатэрыі таго часу і агульная варожасьць Беларускага грамадзянства да маскоўцаў.

гандлі. Ад пачатку 1616 г. (9 студзеня) ёсьць зьвестка, што менскія бурмістры знаходзіліся ў гэты час на ярмарцы ў Торне *). Адзначаны факт сьведчыць аб непасрэднай сувязі Менску з Прусіяй і аб тых уплывах, якія Торн мог мець на менскі гандаль і менскіх гандляроў і ў XVII сталецьці, як і ў часы глыбокай старажытнасьці.

Трэба, аднак, адзначыць, что менскі гандаль у гэты час перажываў нешта кепскае. Нават ярмаркі, якія былі зацьверджаны ў Менску Соймавай Канстытуцыяй у 1601 г., не замацаваліся і ярмарачнае пытаньне да 1630-ых гадоў было ў нявыразным становішчы. Толькі 2 сакавіка 1633 г., „з пагляду выгады ў набыцьці неабходных рэчаў шляхтай, паспольствам менскага ваяводзтва і прылеглых паветаў, а таксама для пажытку і паратаваньня менскіх мяшчан“, быў выданы асобны прывілей, паводле якога ў Менску былі вызначаны цэнтральным урадам іншыя тэрміны для пачатку ярмарак.

Паводле просьбы менскіх мяшчан цэнтральная ўлада прызначыла цяпер дзьве ярмаркі („на вечныя часы“) у Менску: а) на „дзень грамніц“ (2 лютага) і б) другі на 29 верасьня, паводле рымскага календару, кожная ярмарка па два тыдні, без усялякіх мыт і нават без агляду на мытніцах як экспорту, так і імпорту. Але па сканчэньні ярмаркі ўжо ніхто з наезных купцоў ня мог гандляваць у раздроб. На жаль, не захавалася зьвестак аб адбываньні гэтых ярмарак. Усё-ж факт пацьверджаньня гэтага прывілею ў далейшыя часы сьведчыць, што ярмаркі ў Менску з 1630-ых гадоў замацаваліся.

21 красавіка 1638 г. ад цэнтральнай улады быў выданы дазвол на два гандлі (таргі) у тыдзень: у сераду і пятніцу, згодна хадайніцтву места, калі ўсякі мог прыяжджаць з таварамі і імі гандляваць, што сьведчыць аб ажыўленьні гандлёвага Менску.

Цяпер спынімся на іншых гістарычных падзеях з мінуўшчыны Менску XVII ст., якія мелі, бязумоўна, уплыў на экономічны яго стан.

1) У 1640 годзе Менск вельмі пацярпеў ад пажару. Сгарэў рынак з крамамі і ратуша, і ў ёй усе магістратавыя кнігі.

2) Далей, калі ў 1654 г. адбылося аб'яднаньне Масквы з Украінай і пачалася ўзбройная барацьба з Польшай, Менск быў разбураны татарамі.

3) У 1654 г. на Варшаўскім Сойме была зацьверджана добрахвотная ўхвала менскіх мяшчан усіх юрыздык, а таксама яўрэяў і татар, каб сабраць па грошу ад кожнае капы каштоўнасьці нярухомае маемасьці на рэпарацыю зруйнаваных менскіх веж і брам. Няведама толькі, ці была выканана гэтая ўхвала.

4) У 1655 г. маскоўскія войскі, на чале з князем Фёдарам Юравічам Хварасьцініным, узялі Менск. 28 сьнежня 1655 году ў Менск прыехаў ротмістр Барыс Фразінаў і капітаны Мікіта і Цімафей Жэмчужнікавы. З гэтага часу ў Менску пачалася маскоўская окупацыя, якая цягнулася да 1661 г. Окупацыя зьнішчала Менск і яго мяшчан. Мяшчане, якія засталіся ўсяго ў ліку каля 150 асоб (іншыя паразьбегліся ў розныя бакі, нават у Торн), некалькі разоў пасылалі праз ваяводу чалабітную ў Маскву, пакуль дабіліся звальненьня ад ускладзеных падаткаў. У іх хадайніцтвах, мы знаходзім цікавае параўнаньне гандлю

---

*) Toruń, ням. Thorn, на правым беразе Віслы. Вядома, што яшчэ ў XIII ст. гэта быў галоўны рынак, адкуль ішла на Беларусь соль, а таксама ўвесь беларускі экспорт сьцягваўся ў Торн. Адсюль ішлі вялізныя караваны на Берасьце. Торн меў назову „каралёва Віслы“. У XV стал. тут была свая мынца, на якой выбіваліся грошы. У XVI ст. Торн меў у сваіх руках увесь польскі гандаль. Купцы з сярэдняй Эўропы тут сустракаліся з грэкамі, туркамі, армянамі, персамі. Ярмаркі на тры каралі („багаяўленьне“) цягнуцца чатыры дні і на „ўзьдзьвіжаньне“ (14 верасьня)—цэлы тыдзень. У XVI ст.—гэта асяродак протэстанцтва. Яшчэ ў 1594 г. тут была протэстанцкая гімназія.

ў Менску да окупацыі і ў час яе. „Как Менск был не разорен, тогда было купцов и торговых людей много. А ныне—скардзяцца менскія мяшчане—мы до конца разорены: не добудем и хлеба купить, помираем голодною смертью. Наши братья, которые кормятца торжишком,—души свои питают—винишко и пиво держат,—небольшие люди. Шинкуют. И с тых шинкарок велено имать пошлины помесечно, почему преже сего имали“.

Увесь гандаль, які грунтаваўся на збыту збожжа, супыніўся. З прычыны поўнага зьнішчэньня Менскага павету ня было прывозу для продажы. Увесь Менскі павет „козаки и черкасы так развоевали, што везти нечего“. Апрача гэтага вызначалася і яшчэ адна прычына гандлёвага крызысу ў гэты час. „У нас“—заяўлялі менскія мяшчане маскоўскай уладзе ў час окупацыі—„покупают солдаты хлеб и всякий харч и дают медные деньги, и медные тарели *) и четвертины. А у нас медных денег и медных тарелей и четвертин в их городах и в Менску не емлют и в уезде нихто. И на те медные деньги и тарели, и на четвертины ничего не продают. И в Менск за тыми медными деньгами, и за медными тарели и за четвертинами нихто ничего на продажю не везет“. З прычыны вызначанага становішча менскія мяшчане зноў клапаціліся перад маскоўскім урадам, каб з іх „не имать пошлин, покамест устроим свои домишки и сами поживимся“. І вось 27 чэрвеня 1656 г. спагнаньне падаткаў з гандляроў, менскіх мяшчан, было адхілена да ўказу.

Пры такіх умовах дабрабыт гораду ня мог хутка палепшыцца, тым больш, што ў Менскім павеце сяляне „паказачыліся“ (узбунтаваліся), яны адмаўляліся ад абавязкаў у адносінах да паноў, рабавалі двары, забівалі паноў. Апошнія таксама з свайго боку імсьціліся сялянам. Гаспадарка ў разбураным вайною месьце і павеце зусім заняпала.

5) У 1661 г. Менск зноў увайшоў у склад Рэчы Паспалітай Літоўска-Польскай. Варшаўскі Сойм 1661 г. зафіксаваў той стан Менску, у якім ён вышаў з Маскоўскае окупацыі. „Места Менскае зьнесена да асновы“, або, кажучы больш зразумела,—разбурана дашчэнту, „і мяшчане зубажалі“. Сойм вызваліў мяшчан з усялякіх падаткаў, стацый, выдаваньня хлеба і інш. на пэўную колькасьць гадоў. З гэтага часу, паводле соймавай пастановы, у Менску праз кожныя два гады пачалі адбывацца судовыя пасяджэньні Галоўнага Літоўскага Трыбуналу, кожны раз у працягу 22 тыдняў. Гэта падвысіла значэньне Менску для Беларусі на адну ступень з Вільняй і Наваградкам. Менск стаў адгэтуль местам з вышэйшай судовай інстанцыяй у ўсходняй Беларусі.

6) Ня гледзячы на зруйнаваньне ў часы маскоўскае вайны і на новыя пажары, з якіх асабліва шкоднымі былі пажары 1668 і 1679 г.г., мы сустракаем у XVII стал. у Менску шэраг каменных будынкаў—цэрквы, дварцы магнатаў і прыватнаўласьнікаў розных профэсій. Нязначная колькасьць гэтых гмахаў захавалася і да нашага часу, але ўсё-ж гэта сьведчыць аб значным экономічным разьвіцьці яго ў XVII сталецьці.

У гэтым упэўняюць нас навочныя даведвальнікі Менску ў канцы XVII ст., масковец Талстой і немец Корб.

*) Талер—срэбная монэта, буйная; у пачатку XVI стал. адзін талер каштаваў 30 срэбных грошаў, і быў тое самае, што флорен, або злоты. З працягам часу курс талеру пачаў падвышацца. І ужо ў 1650 г. талер каштаваў 3 злотых, а ў часы Яна Сабескага (1674—1696) 6 злотых. У часы Маскоўскай окупацыі маскоўцы пусьцілі свае медныя грошы, як: деньгі, талеры і „четьвертины“.

У запісках маскоўскага стольніка Пётры Андрэевіча Талстога, які ў 1697 годзе праехаў праз Беларусь у Варшаву, пад 13 красавіка (ст. ст.) маюцца наступныя зьвесткі аб Менску, дзе ён пражыў два дні. „Город Минск—маетность короля Польского—имеет около себя вал земляной; в нем живет староста пан Завиша. В мою бытность в Минске он не был, а был в то время в своей маетности. Дом его в Минске в замке, строение деревянное, великое, низкое и брусяное. В Минске же есть дом великий с каменным строением пана Глебовича; стоит пусто, жителей в нем никого нет. Гор. Минск меньше Могилева многим. Строения каменного в Минске не мало. В Минске есть много домов каменных, и в рядах, где торгуют,—лавок каменных и товаров есть немало. Скрозь Минск течет река Виславица (г. зн. *Сьвіслач*) невеликая, на ней есть мельница о четырех камнях и чрез ту реку мост изрядный деревянный“.

Ня менш цікавы кароткія заўвагі аб Менску ў падарожы Яна Корба, сакратара пасольства ад нямецкага цэсара да Маскоўскага цара Пятра I, якое (пасольства) тры дні (20—22 сакавіка 1700 г.) праводзіла ў Менску, застанавіўшыся на адпачынак. Праз Менск гэтае пасольства зварочвалася і дамоў з Масквы (17—19 жніўня таго-ж 1700 году). Корб піша: „каля трох гадоў перад нашым прыездам выбухнуў пажар, які прывёў гэты багаты і слынны горад у такую сьлязьлівую беднасьць, што даўней цьвітучы гандаль цяпер тутака ледзь тлее. З вялікай колькасьці купцоў засталося двох, якія ледзьве зарабляюць на ўбогае жыцьцё“.

Адсюль можна ўстанавіць, што пасьля праезду Талстога (1697 г.) Менск да сакавіка 1700 г. яшчэ пагарэў.

Экономічнае становішча Менску ў канцы XVII ст. можна бачыць з наступнага параўнаньня фурманковага падатку, які быў вызначаны ад гарадоў Беларусі ў 1699 г.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Вільня | . . . 2000 | злот. |
| 2. Магілеў | . . . 1800 | „ |
| 3. Коўна | . . . 755 | „ |
| 4. Віцебск | . . . 655 | „ |
| 5. Менск | . . . 500 | „ |
| 6. Наваградак | . . . 365 | „ |
| 7. Пінск | . . . 250 | „ |

Менск займае 5 месца па гэтым сьпісу і плоціць у чатыры разы менш за Вільню і ў два разы больш за Пінск.

## II. Менск у XVIII сталецьці.

У першае дзесяцігодзьдзе XVIII ст. няспрыяюча адбілася на экономічным становішчы м. Менску т. зв. „Паўночная вайна“. Некалькі разоў ён цярпеў ад пераходу расійцаў (1706—1708, 1710 г.) і швэдаў (1708 г.), бо павінен быў здавальняць находнікаў провіянтам і контрыбуцыяй *).

*) У канцы 1706 г. у Менск увайшлі маскоўскія войскі. На чале іх быў Пётр I. Памяшканьне (каменны дом), якое ён заняў па Юраўскай (цяпер Комуністычнай) вуліцы, захоўваецца да нашых дзён. Тут у Менску быў і Мазэпа, выказаўшы сваю надзвычайную прыхільнасьць да езуітаў. Расійскія войскі праходзілі праз Менск некалькі разоў.

У 1708 г. у Менску зьявіліся валохі, якія ледзь не захапілі ў палон жонку Меншыкава.

18 мая 1708 г. Менск заняў Карл XII, які меў адсюль прайсьці праз Сьмілавічы, Ігумен, Бялынічы, Галоўчын. Швэды абклалі Менск цяжкай контрыбуцыяй.

У 1710 г. зноў увайшлі ў Менск расійцы, прычым 16 сакавіка правадыры маскоўскіх войск—Шэрамецьеў, Гюнтэн, Брус, Гольтц, Валконскі і інш. былі ў езуітаў на ўрачыстасьці.

Да гэтага ў 1708 г. прайшла пошасьць на насельніцтва і, затым, пажар зьнішчыў значную частку мескіх будынкаў.

Усё-ж два фактары экономічна падтрымалі Менск. а) Тутака існавалі контрактовыя ярмаркі, якія давалі мажлівасьць цэхам збываць іх продукцыю. Апрача гэтага б) тут адбываліся пасяджэньні Галоўнага Літоўскага Трыбуналу, якія прыцягвалі з розных краін усходняе Беларусі значную колькасьць шляхты і іншых станаў грамадзян.

Але экономічны стан насельніцтва быў дрэнны. Да гэтага мяшчане вельмі цярпелі ад шляхты. Заняпалы стан менскага жыхарства вызначыўся вельмі рэзка ў пачатку 40-ых гадоў XVIII сталецьця.

Вось што мы знаходзім аб гэтым у каралеўскім рэскрыпце ад 22 лістапада 1744 г.

„Спусташэньне, заняпад і зруйнаваньне Менску праз няпрыяцельскія находы, рабаваньні, жаўнерскія пераходы і пастоі і спагнаньне провіянту ўзімку,—у апошнія часы павялічыліся праз неаднакратныя пажары, пошасьці і голад і іншыя злыбеды і давялі гэтае места да поўнага зруйнаваньня. Яго насельніцтва паразьбягалася па іншых гарадох і куткох. Людзі, якія былі заможнымі, дайшлі да беднасьці і сталі амаль жабракамі і старцамі“. Насельніцтва церпіць ад уціску шляхты і замку: імі парушаюцца правы мяшчан на спакойнае ўладаньне маемасьцю і карыстаньне сваімі грамадзкімі правамі, дзеля чаго цантральная ўлада зварочваецца з наступным рэскрыптам:

1) Вялікімі ўласнымі выдаткамі ўбогія людзі мяшчане менскія, дзеля парадку і выгады сваіх меставых майдэборскіх судоў, вымуравалі ратушу. Апошняя праз розныя рэволюцыі ў айчызьне і пажары была дашчэнту (w niwecz) разбурана і амаль даведзена да руіны. Цяпер гэтая ратуша, у другі раз, уласным стараньнем войта Менскага Станіслава Буржынскага, у большай частцы рэстаўравана. Кароль прапануе, каб пасяджэньні галоўнага Літоўскага Трыбуналу не адбываліся ў ратушы, але там, дзе ім належала, згодна звычаю і практыцы,—у Менскім Замку. У замку-ж, таксама, або на замкавай юрыздыцы павінны адбывацца суды земскія і гродзкія і ўсялякія соймікі (элекцыйныя, пасольскія, рэляцыйныя і грамнічныя).

2) Трыбунал, суды земскія, гродзкія і каптуровыя не павінны чыніць ніякіх уціскаў, перашкод, крыўд, шкод у судох Майдэборскіх Менскіх, або прыцягваць менскіх мяшчан да сваіх судоў і ўскладаць спагнаньня як самі, так і праз свае выканаўчыя органы, або абцяжарваць мяшчан, рабаваць іх, забіраць дамы магістратавага ўраду на памяшканьне для сябе, але павінны аслабаняць іх ад усялякіх пастояў, па прыкладу м. Вільні. Зьверх гэтага, маючы сабе вызначаныя памяшканьні, урадавыя асобы: а) не павінны забіраць для сябе іншых „прыпісных“, б) у ўбогіх людзей—мяшчан не павінны забіраць хлябоў праз трыбунальскіх і замковых жаўнераў, або забіраць мяшчан пад варту ці ў турму і в) не павінны ўваходзіць у розныя вырашэньні менскіх мяшчанскіх урадаў па ўсіх справах і выпадках, адсылаючы мяшчан да іх Майдэборскага Менскага суду.

Відаць, экономічнае становішча менскіх мяшчан было запраўды вельмі дрэнным у XVIII стал. Нават, калі параўнаць апошні рэскрыпт з аднолькавымі рэскрыптамі, якія выданы тэй-жа ўладай 10 мая 1607 году і 10 красавіка 1672 году, то яшчэ больш высьветліцца, што ў XVIII сталецьці экономічнае становішча менскіх мяшчан не палепшылася ў параўнаньні з XVII стал.

У 1762 годзе вялізны пажар зьнішчыў Менск. Тады пагарэлі архіўныя фонды б. Галоўнага Трыбуналу і судоў гродзкага і земскага, або як чытаем у тагочасным докумэнце: „книги вечистые, каптуровые,

поточные, реестры и протоколы Менскаго земскаго суда з 1641 до 1710 г. Трибунальные вечистые Менской каденцыи з 1641 по 1759 г. і трыбунальные поточные той же кадэнцыи з 1661 по 1761 г. і много разных деловых бумаг". Праз 14 год пажар зноў зьнішчыў Менск (1776 г.) і пасьля гэтага пажару трыбунальны суд быў перанесены ў Горадню.

Канцом старажытных часоў для Менску мы лічым далучэньне яго, паводле другога падзелу Польшчы (27 сакавіка) 1793 году, да Расійскай Імпэрыі.

Менск 3 мая 1793 абвешчаны губэрскім горадам, якім і стаў фактычна 22 жніўня 1795 г., з якога часу былі організаваны губэрскія ўрадавыя ўстановы: „Наместническое Управление", „Казенная Палата" „Палата Гражданского Суда", „Совестный Суд", „Приказ общественного призрения", „Верхний земский суд", „Губернский магистрат" і „Верхняя расправа"; адчынены: „Минская почтовая контора", „Соляные запасные магазины", „Главное училище". Для кіраваньня гарадзкімі справамі застаўся „Гарадзкі Магістрат", компэтэнцыя якога ахапляла менскіх мяшчан, і затым рамесьнікаў усіх нацый (і ў тым ліку рамесьнікаў татар і яўрэяў). Яўрэі Менскага і Ігуменскага павету належалі таксама да Менскага „Гарадзкога Магістрату".

Дадамо толькі адну падрабязнасьць. У 1794 г. жыхароў у Менску налічвалася ўсяго 1216 асоб мужчын. (Пінск 1303. Мозыр 929). Такая зьвестка падаецца першым генэрал-губэрнатарам Туталміным пасьля далучэньня Менску да Расійскае дзяржавы. Здаецца, што гэта падрабязьнасьць сьведчыць аб тым, што Менск у 1794 г. быў нязначным местам па колькасьці насельніцтва. Вызначаная лічба паказвае, што, пры самых сьмелых прыпушчэньнях, у Менску ў канцы XVIII сталецьця ня было больш за дзесяць тысяч жыхароў.

### III. Менскія цэхі.

Адным з самых важных і цікавых пытаньняў экономічнага жыцьця старога Менску трэба лічыць рабочае пытаньне. Продукцыяй сваіх рук рабочыя ня толькі самі існавалі, але дадавалі месту належны гарадзкі выгляд, узбагачалі гаспадарку места і дапамаглі культурнаму росквіту яго і г. д.

Становішча рамесьнікаў і іх організацыя вызначана ў агульных рысах прывілеем Менску на майдэборскае права (21 верасьня 1498 г.).

У „выроку" (судовая пастанова) в. князя Аляксандра 17 жніўня 1499 г. па Менскай справе мы сустракаем у першы раз фактычны успамін аб рамесных спэцыяльнасьцях у Менску. Тутака сказана, што „злотнікі, краўцы, кушняры, кавалі, чабатары" і іншыя рамесьнікі, якія жылі пад прысудам места і карысталіся правам майдэрборскім, пачалі аддаваць ў ратушу сваю продукцыю (нарогі, сярпы, сякеры, клямкі і інш. рэчы, якія яны да таго часу аддавалі ў гаспадарчы двор. Вялікі князь у парушэньне прывілею на майдэборскае права ўхваліў, аднак, каб з ліку рамесьнікаў было вылучана 15 двароў рамесьнікаў, якія былі прымацаваны да замку. Адсюль мы бачым, што рабочае пытаньне ў Менску ў XV сталецьці ня вышла з пэрыоду фэўдальнае гаспадаркі. Усе рамесьнікі былі падпарадкаваны гаспадарскаму двару (замку) і давалі яму натурай продукты сваёй працы. Вызваленьне рамесьнікаў ад сувязі з замкам, якая вызначана прывілеем на майдэборскае права, так балюча адбілася на экономічным стане замку, што намесьнік узьняў пытаньне аб зьмене гэтае вольнасьці. І вось Цэнтральная ўлада выдала компромісную ўхвалу і пакінула прымацаваных да замку

15 двароў рамесьнікаў. Апрача гэтага замак зацікаўлены тым, каб пры ім заставалася і пасьля наданьня Менску майдэборскага права тая частка насельніцтва, якая ня жыла пад гарадзкой юрыздыкцыяй. Вялікі князь пакінуў за юрыздыкцыяй замку (і свайго намесьніка) усіх людзей, якія-б пажадалі пайсьці пад яго прысуд. Мала гэтага. Паводле вызначанай ухвалы вялікага князя 1499 г. мяшчане павінны быць у поўнай паслухмянасьці намесьніку „ў нашых (гаспадарскіх) справах“. як і „самых нас“. Для тых, хто ішоў-бы супроць,—быў вызначаны штраф у суме 200 рублёў літоўскіх грошай.

Такім чынам, майдэборскае права ўсё-ж адарвала мяшчан ад замку і нянясло гаспадарскаму двару значную матар‘яльную страту. Гарадзкі капітал павінен быў выклікаць пашырэньне рамесьніцкае продукцыі ў Менску. Аднак да канца XVI сталецьця менскія рабочыя ня мелі сьціслай організацыі, якімі ў Старым менску зьявіліся цэхі.

А) Першымі згуртаваліся ў паасобны цэх менскія рамесьнікі па мэталёвай працы, якія 2 сьнежня 1591 г. ўнесьлі ў актавыя кнігі менскага магістрату статут або парадак свайго цэху. Прышоўшы да ратушы, яны заявілі, што да гэтага часу цэх іхняга рамяства ня быў зацьверджаны, дзеля чаго паміж імі вынікалі непаразуменьні і быў вялікі непарадак. Выйсьцем з гэтага яны лічылі стварэньне супольнага „брацтва“, па прыкладу Вільні. Для запісу ў кнігі яны прынесьлі копію статуту віленскага цэху мэталістых, нават за пячаткай апошняга. Злотнікі толькі зрабілі заяву, што яны, з прычыны малае лічбы майстроў гэтага рамяства, далучаюцца да агульнага цэху мэталістых і будуць мець брацтва, сходы і адну агульную скрынку, але маюць кіравацца статутам Віленскага злотніцкага цэху.

Разгляд статуту высьвятляе, што ў гэтым цэху аб‘ядналіся наступныя спэцыяльнасьці: *злотніцкая, кавальская, катлярская, сьлясарская, пабрайцарская* (рабілі цуглі, шпоры, страмёны), *пушкарская, мечніцкая, нажэўная.* Адносна *гадзіншчыкаў і меднікаў* асобных артыкулаў няма. Але, прымаючы пад увагу, што майстры гэтых дзьвюх спэцыяльнасьцяй (гадзіншчыкі і меднікі) зьяўляліся 2 сьнежня 1591 году перад магістратам трэба лічыць, што і гэтыя спэцыялістыя, бязумоўна, існавалі ў Менску ў канцы XVI ст., толькі іх была такая нязначная колькасьць, што яны не зафіксаваны афіцыйна, хаця ўвайшлі ў названы цэх, які аб‘яднаў, такім чынам, дзесяць рамёстваў па мэталі.

Гэты статут быў зацьверджаны вял. князем Жыгімонтам III 20-га сьнежня 1592 г. „К оздобе і розмноженю“ места Менскага было дазволена злотнікам, кавалём, катляром, сьлесарам, гадзіншчыкам, мечнікам і нажэўнікам, якія жылі ў Менску, аб‘яднацца ў адзін цэх, адзін сход і пад адзін статут. Пад гэты парадак падлягалі ўсе рамесьнікі, якой-бы яны ня былі юрыздыкцыі: майдэборскай, замковай, княскай, ваяводзкай, старасьцінай і інш., якія толькі жылі ў Менску. Гэтаму цэху дазволена мець сваю пячатку, сьцяг, бубен і ўсялякае ўзбраеньне да абароны месца. Цэхавы дом вызваляўся ад усялякіх стацый, падаткаў. Рамесьнікі гэтага цэху падлягалі ў сваіх справах уладзе менскага магістрату.

Праз 43 гады (1635 г., сакавіка 14) прывілей гэты быў пацьверджаны Ўладыславам IV, прычым далучаны да гэтага цэху новыя рамесьнікі—мэталістыя ліцейшчыкі (конвісары—выліваўшыя пасуду з цыны), гравіравальшчыкі (рэзчыкі), шыхтэры, (выраблялі з медзі тонкія ніці, мішуру, шмукляры) шапнікі і гаплічнікі (вырэзвалі гузікі). Цяперка гэты цэх атрымаў дазвол, каб два разы ў год—на „вялікдзень“ і „ражство“, рускія сьвяты, мець „канон“ (свабодны шынк мёдам) па адным тыдні для сычэньня мёдаў, без усялякага падатку. Затым праз 29 год (у

1664 г., чэрвеня 18) Ян Казімір зацьвердзіў гэты апошні прывілей, прычым былі вылучаны з азначанага цэху злотнікі і шапнікі. На гэты раз дадаецца яшчэ новы артыкул у статут цэху, якім забаронена, каб набытыя ў іншых месцах тавары і вырабы прадаваць без апавяшчэньня і згоды сяброў цэху. Два „каноны“ ўстанаўляюцца ўжо двухтыднёвыя, па дзесяць камяней (камень—літоўскі пуд) і даецца дазвол пабудаваць дзьве крамы, за ведамам магістрату, для продажы сваіх звычайных тавараў.

Б) Другое месца займае цэх *краўцоў*. Яны склалі свой статут 10 сьнежня 1591 г., які 20 лістапада 1592 г. зацьверджаны каралём у першы раз і затым пацьверджаны 15 красавіка 1636 г. Краўцы атрымалі цяпер права прадаваць на адведзеным месцы свае вырабы.

В) У 1609 г. 23 лютага атрымалі зацьверджаньне свайго цэхавага статуту менскія *шаўцы*. У іх статуце, паміж іншым, заўважваецца, што сходкі шаўцоў устанаўляюцца праз кожныя два тыдні для нарады аб цэхавых справах і розных выпадках.

Г) 1616, мая 31, менскія *злотнікі* атрымалі каралеўскае зацьверджаньне свайго парадку, свайго, асобнага ад іншых мэталістых, злотніцкага цэху. У статуце ўсяго 8 артыкулаў, якімі нормуецца жыцьцё гэтага цэху і суадносіны паміж майстрамі, іх таварышамі (падмайстрамі) і вучнямі. Маюць значную грамадзкую каштоўнасьць арт. VI і VII гэтага статуту. Першым (VI) на старшых цэху ўскладаецца абавязак абвяшчаць усіх майстроў—злотнікаў—аб выпадках крадзежу золата і срэбра. Злотнікі ня толькі не павінны былі купляць крадзенага, але павінны былі затрымліваць падазроныя рэчы і пры гэтым высьвятляць: адкуль яны ўзяты. Калі-б які злотнік тры разы быў злоўлены ў тым, што набыў крадзенае, то траціў сваё месца ў цэху, і ня меў ужо права працаваць у гэтым рамястве. Артыкулам VII рашуча вызначаецца, што кожны злотнік мае права трымаць ня больш двух таварышоў і трох вучняў, і што яму забаронена перавабліваць да сябе больш здольных таварышоў ад іншых злотнікаў. Цэнтральным урадам у 1609 г. быў унесены дадатак да гэтага статуту ў наступных параграфах: а) пакутна ніхто ня меў права займацца злотніцкім рамяством; б) ніхто з злотнікаў ня меў права, таксама як і купцы і яўрэі, прывозіць у Менск на продаж залатыя і срэбныя рэчы і прадаваць асабліва пад час Трыбуналу і іншых зьездаў; в) злотнікам дазволена мець сваю цэхавую пячатку, сьцяг, бубен і ўсякае ўзбраеньне для абароны і аздобы Менску, прычым пад гэтым сьцягам злотнікаў дазволена станавіцца ўсім іншым рамесьнікам, якія ня маюць сваіх сьцягаў; г) дом цэху, дзе знаходзіцца скрынка з прывілеямі і адбываюцца сходы, вызваляецца ад усялякіх пастояў.

Вызначаны прывілей быў пацьверджаны цэнтральным урадам 29 чэрвеня 1634 г., 7 мая 1664 году і 25 чэрвеня 1672 г.

Д) *Рымары* аб'ядналіся ў цэх 21 мая 1622 г. Статут іх быў зацьверджаны 29 чэрвеня 1634 г. У гэты цэх уваходзілі: рымары, седляры, пасьнікі, мяхоўнікі, (выробшчыкі футры). Прывілей забараніў купцом з іншых гарадоў прывозіць для продажы рымарскія тавары ў Менск або займацца рамяством тутака на юрыздыках не майдэборскіх. У 1666 годзе заўважваецца цікавая падрабязнасьць жыцьця рамесьнікаў гэтага цэху. З агульнага ліку іх пад гарадзкой юрыздыкцыяй жыў толькі адзін рамесьнік-рымар, а іншыя сядзелі на зямлі замкавай, або іншых уладароў. У 1681 г. прыкмячаецца дыфэрэнцыяцыя ў гэтым цэху—ад сяздельнікаў адрозьніваюцца гафтары (вышывальнікі, пазументшчыкі).

Е) 27 лютага 1635 г. атрыманы прывілей цэхам менскіх *цырулікаў* (цырульнікаў). Цырулікі ня мелі права займацца сваім рамяством і вывешваць мядніцы (відаць, спэцыяльная эмблема рамяства) бяз запісу ў цэх і бяз рэкомэндацыі доктара. Цэхавыя цырулікі мелі права езьдзіць і па мястэчках. Паводле прывілею ўсяго магло быць у Менску сем майстроў-цырулікаў. Зварочвае ўвагу артыкул 3-і: „лазебнікаў, яўрэяў, арыанаў і людзей простага стану вясковых ня маюць браць цырулікі ані да якой рады так паважнай, як і бягучай і таксама браць іх дзяцей у навуку. Аднак, адносна вясковых дзяцей гэта застаецца на волі майстра, на падставе прысягі добрасумленных людзей". Займаліся цырулікі лячэньнем хворых, гатаваньнем лякарстваў, і таксама галеньнем, стрыжкаю і пусканьнем крыві. Цырулікі павінны былі апранацца ў спэцыяльныя плашчы.

Ж) *Ганчары, муляры і цесьлі* (плотнікі) атрымалі пацьверджаньне свайго статуту 21 красавіка 1636 г. У гэтым статуце сустракаемся з падзелам рамесьнікаў гэтых спэцыяльнасьцяй па вызнаньні (рымскага альбо грэцкага), дзеля чаго абавязкі „старшых" ускладаюцца на шасьцёх асоб—палова аднаго і палова другога вызнаньня—на адзін год. Чужаземцы—палякі, валохі, немцы і інш.—працавалі ў гэтых рамёствах толькі пад умовай запісу ў цэх. Прывозныя гаршкі з Лагойску альбо з іншых мястэчак і вёсак дазвалялася прадаваць толькі адзін раз у год, на ярмарцы (у 9-ю пятніцу). Заўважваюцца ў гэтым статуце дзьве асобнасьці: 1) муляры павінны былі ўмець рысаваць скляпеньне і выканаць працу згодна рысунку, 2) ніякі рамесьнік не павінен набіраць больш, як дзьве работы. Калі-ж ён узяў-бы трэцюю і ня здаў-бы яе беспрацоўнаму, то падлягаў штрафу. Заняпаўшаму матар'яльна і хвораму выдавалася дапамога з брацкае скрынкі. Да моцна захварэўшага сябра цэху цэхавыя старшыні ставілі найлепшага таварыша падмайстра.

Цэх ганчароў і муляроў сваю выключную монаполію ў Менску захоўвае і пасьля далучэньня да Расіі *).

З) 1744 г., 22 лістапада зацьверджаны новы цэх у м. Менску—рамёстваў *саладоўніцкага, піваварнага, мёдасытніцкага, віньніцкага, воскабойніцкага, браварніцкага і вадавознага.* Гэтыя рамесьнікі былі аб'яднаны ў адзіны цэх „па прыкладу іншых мест". Цэхаваму парадку падлягалі ня толькі мяшчане ратушнай юрыздыкцыі, але і тыя, якія былі пад юрыздыкамі-замковай, духоўнымі, манастырскімі, панскімі, шляхецкімі, а таксама і рамесьнікі, ня меўшыя аселасьці, якія знаходзіліся ў розных кутках павету і працавалі ў броварох. Склаўшы на-

---

*) Мы сустрэлі, напр., указ Менскага Губ. Праўленьня ад 23 верасьня 1797 г. каб ніхто, неналежачы да цэху, не займаўся вырабам і гандлем ганчарных і мулярскіх вырабаў.

28 мая 1808 г. выдадзены Губ. Праўленьнем зноў указ аб забароне продажы кафляў, гаршкоў і іншых рэчаў ганчарскага рамяства. Пры гэтым было ўстаноўлена губэрскай уладай, што ўжо на працягу некалькіх гадоў розныя наезныя гандляры, асабліва яўрэі, купляюць па-за межамі Менску гэтыя тавары агулам і затым іх прадаюць у Менску, чаму рамесьнікі не толькі падаткаў аплаціць ня маюць з чаго, але і пазбаўлены спосабаў жыцьця. Продаж гэтых тавараў не супыняўся. У сакавіку 1812 г. менскі магістрат разглядаў зноў падобную скаргу і заклікаў да свайго суду дзесяць менскіх гандляроў з яўрэяў да адказнасьці. Зрабіў толькі адно: пацьвердзіў § 3 статуту ганчарска-мулярскага цэху, паводле якога старшыні цэхавыя павінны пільнаваць, каб ніхто няцэхавы не займаўся гандлем ганчарска-мулярскіх вырабаў. 12 красавіка 1812 г. гэты наказ быў пацьверджаны менскім магістратам. У 1812 г. менскія ганчары і муляры скардзіліся, што яны ня здужаюць плаціць падаткаў. Пры гэтым галоўную прычыну свайго матар'яльнага заняпаду яны вызначалі ў тым, што ня толькі фурманы, але і перакупшчыкі, якія не належаць да ганчарнага цэху, прадаюць прывозныя ганчарскія вырабы, а „наш цэх свайго тавару ня мае можнасьці прадаць".

лежны статут і абраўшы старшыню, рамесьнікі павінны былі назіраць „каб ніхто з цэхавых брацьцяў ня меў прыватнага памяшканьня ў броварох у яўрэяў, але каб жылі аседла пад юрыздыкай менскага ратуша, не займаліся гультайствам і п'янствам, пільна трымаліся свайго рамяства і выраблялі піва, гарэлку, мяды, солады,—добрыя, не фальшаваныя, выбівалі воск без фальшаваньня і ня чынілі людзям ашуканства". Пры гэтым у прывілеі зроблена наступная заўвага: „Яўрэі, якія жывуць у м. Менску, ня маюць права чым-небудзь перашкаджаць цэхавым, і ў сваіх броварох або чужых не выробляць аніякіх: гарэлкі, піва, мёду, соладу, ані выбіваць воску самі сваімі асобамі, але маюць ужываць да гэтых прац цэхавых асоб, пад страхам конфіскацыі гэтых вырабаў працы ў скарб або на ратуш".

У канцы нарысу па рабочым пытаньні ў Старым Менску трэба адзначыць, што да XVIII сталецьця меставыя цэхавыя організацыі вельмі старанна адмяжоўваліся ад яўрэяў. Толькі ўжо ад 1722 г. маецца прывілей, якім бясправаўнае становішча рамесьнікаў яўрэяў у Менску зьнішчана, як відаць з наступных выразаў прывілею Аўгуста II:

„Дазваляем, каб у Менску яўрэі займаліся рознымі рамёствамі: рымарскім, кушнэрскім, парыкмахерскім, цырульніцкім, шклярскім, злотніцкім, шмуклярскім, ліцейным і іншымі без усялякіх перашкод з боку розных цэхаў. Прапануем, каб з іх не спаганялі ніякіх лішніх цэхавых складанак і гэтым лістом выймаем і звальняем іх ад гэтага". Усе тавары, як зробленыя сваёй працай, таксама і адкуль-небудзь набытыя, яўрэі ад гэтага часу маюць права прадаваць у крамах, пры дамох, альбо носячы па дамох, імі гандляваць, вывешваць мядніцы і іншыя рамесныя адзнакі каля ўласных дамоў і на „табліцах" (відаць існавалі шыльды з малюнкамі).

---

**Ал. Шлюбскі.**

# Другі год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу.

Ужо два гады як Інстытут Беларускае Культуры пачаў сыстэматычнае зьбіраньне фольклёрнага матар'ялу пры дапамозе беларускіх краязнаўчых організацый.

Вынікі першага году зьбіраньня матар'ялу разгледжаны ў нашым артыкуле „Год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу" („Наш Край". 1927, №№ 1-2); агляд-жа сабранага ў 1926-27 акадэмічным годзе даецца ў гэтым артыкуле. Катэдра Этнографіі Інстытуту Беларскае Культуры не знаходзіць патрэбным на гэты раз разглядаць недахопы ў запісах кожнага зьбіральніка, бо прышлося-б мясцамі паўтарацца; Катэдра Этнографіі ў даным выпадку хоча зьвярнуць увагу на найлепшыя зборы фольклёрнага матар'ялу, якія атрыманы ад многіх краязнаўцаў, зразумела, з роўналежным адзначэньнем усіх асоб, якія прыслалі ў Інстытут Беларускае Культуры тыя ці іншыя этнографічныя матар'ялы і запісы.

I.

### Аршанская акруга.

Дзейнасьць Аршанскага Акруговага Краязнаўчага Таварыства, што да зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу ў параўнаньні з першым годам, значна ажывілася. Апрача Горацкага і Ляднянскага раёнаў, адкуль над-

сылаліся матар'ялы ў мінулым годзе—за разгляданы час маем значны лік матар'ялаў, прысланых з ніжэйпералічаных раёнаў:

*Аршанскі раён*—запісы прысланы Л. Шафраноўскай, М. Хвёдаравай і М. Градзюшкай. Усяго ў Аршанскім раёне запісана 144 тэксты розных адмен народнай творчасьці.

*Багушэўскі раён*—у раёне вяліся запісы выключна вучнямі Багушэўскай сямігодкі: М. і Г. Аўфяронак, А. і Б. Белашабскія, М. Бельчыкаў, В. Бржазоўская, Я. Бондарава, Ю. Букалёнак, Б. Бялкоўскі, А. і Б. Галаўнёвы, М. Габрынец, К. Дзягілеў, П. і М. Машэра, М. Платонаў, Пачатоўскі, Е. Стасенька, А. Стук, Султанаў, М. Філіпёнак, С. Шарц, С. Шабека, Л. Шлык, Б. Шман, Я. Шастакоў, П. Яленец, П. Янгенка, запісалі разам 632 тэксты розных адмен народнае творчасьці. Апрача таго некаторыя запісы былі надасланы П. Кузьняцовай і З. Матусэвіч. Усяго ў Багушэўскім раёне запісана 690 тэкстаў.

*Горацкі р.*—найлепшыя запісы Горацкага раёну належаць Ц. Котаву і Д. Маркаву. Апрача гэтага матар'ялы надаслалі А. Садоўнікава (апісала хрэзьбінскія звычаі), І. Іскраў і Б. Федарэнка. Усяго ў Горацкім раёне запісана 108 тэкстаў.

*Дрыбінскі р.*—прыслана В. Канцовым 14 запісаў.

*Дубровенскі р.*—запісы казак і легенд і замоў прыслалі: Жураўкоў, Л. Казлоў, Я. Ратманаў, Я. Родны, Я. Халько і П. Шабаноў—усяго прыслана 40 запісаў.

*Копыскі р.*—прыслана 22 запісы.

*Коханаўскі р.*—М. Харытановіч і А. Савельеў прыслалі 7 запісаў.

*Круглянскі р.* Ніжэй пералічанымі вучнямі Круглянскай сямігадовай школы сабрана 1025 запісаў розных адмен народнай творчасьці— А. Асецкай, А. Балабуевым, В. Бакштаевай, М. Балонкіным, В. Верасаевай, В. Гарыновіч М. і Д. Галыга, Б. Грэбштэйн, А. Гурцовай, Р. Гіршынай, Дзергачовай, Л. Дземчынай, Н. Елянеўскай, В. Захарэнка, С., Л. і Ф. Крол, Х. Клібанавай, А. Кусьпіц, Кандрашавым, Я. Кулікавай, В. Кусьпіц, Я. Крэмэр, М. Крывіцкай, Г. Каліньнікавай, А. Канцавым, Р. Ліпстэр, Я. Лапіцкім, А. Ляпковіч, С. і І. Лур'е, А. Міхайлавай, Я. Мінчуковым, Ц. Меркінай, І. Меліхан, Я. Мохавым, М. Плахоцкім, Г. Піетушковым, Х. Пэўзнэрам, М. Патапавым, А. Радзьковым. Р. Гачавым, З. Рубінштэйнам, Т. Савініч, Р. Хмялеўскім, М. Халадковым, М. Чахоўскім, А. Шафраноўскім, Ю. Шалюты, В. Шупень, Л. Фрыдлянд, С. Ярковым, М. Яворскай; апрача таго прысланы запісы Буцяновай, І. Гіршынай, Н. Кагановым, Р. Ліўшыным, З. Савіцкай, П. Садоўнічай, Т. Пушной і М. Цішуравай. Усяго ў Круглянскім раёне запісана 1235 тэкстаў розных адмен народнай творчасьці.

*Ляднянскі р.* У зьбіраньні фольклёрных матар'ялаў прымалі ўдзел наступныя асобы: Марыля Грамыка (запісана 87 тэкстаў), Т. і Д. Арцюховы, А. Галадкоўская, Ф. Гусінцаў, А. Глушанкова, Ф. Дмітрукіна, Я. Дзяткоў, С. Івановіч, П. Каралёў, А. Кулакоўскі, В. Казьянава, Ю. Лычкоўскі, В. і С. Макаёвы, А. Панулін, Д. Паўлава, П. Пятухоў, Д. Ю. і І. Смыкавы, М. Татарская, П. і Н. Тоўсьцікавы, Т. Шайкоў (сьпісаў амаль што некалькі расійскіх лубочных песеньнікаў. Зусім дарэмная нікому непатрэбная трата часу), Т. Шайкоў, В. Шэндлер, І. Шаманкоў, А. Ціханаў. Усяго ў Ляднянскім раёне запісана 779 тэкстаў.

*Талачынскі р.*—матар'ял запісвалі наступныя асобы: І. Зюзькевіч, М. Краўцоў, Г. Лісоўская, Д. Шымкоў, Шэўнева. Усяго ў Талачынскім раёне запісана 99 тэкстаў розных адмен народнае творчасьці.

*Чарэйскі р.*—Емельянаў даў больш 100 каштоўных запісаў, апрача яго матар'ялы прысланы А. Шылькоўскай. Усяго ў Чарэйскім раёне зроблена 109 запісаў.

## Бабруйская акруга.

Як у мінулым годзе, так і ў гэтым найбольш цікавасьці да збору фольклёрнага матар'ялу ў Бабруйскай акрузе выяўляе *Асіпавіцкі раён*. Праўда, зьбіральніцкая дзейнасьць Асіпавіцкага Раённага Таварыства Краязнаўства ў апошні год разьвівалася хуткім тэмпам з прычыны ўзорнага апісаньня гэтага раёну. У зьбіраньні фольклёрнага матар'ялу прынялі ўдзел наступныя асобы: В. Хэлмоўскі (даў 190 запісаў), Альховік, Андрыевіч, Комар, А. Нілівайка, А. Немцаў, А. Пауловіч, А. Папок, Пастушонак, П. Тамковіч, Я. Трус і К. Цьвірка; некаторыя запісы ня маюць адзначэньня прозьвішча зьбіральнікаў. Наогул на гэты раён прыпадае 807 запісаў розных адмен народнае творчасьці.

*Бабруйскі р.*—запісы А. Клімовіча; усяго толькі 10 запісаў розных адмен народнае творчасьці.

*Буда-Кашалёўскі р.*—у раёне зроблена 59 запісаў.

*Гарадзецкі р.*—прысланы запісы Я. Цьвярдоўскага (даў 58 цікавых запісаў), Я. Надчачаеў (запісаў 3 казкі), А. Дзямідаў (даў 54 запісы) і М. Кунцэвіч. Наогул з раёну прыслана 126 запісаў.

*Жлобінскі р.*—прысланы запісі З. Богуша, Іванькова, К. Шатоўскага, М. Шыфрына. Усяго 77 запісаў.

*Любанскі р.*—прыслаў матар'ялы А. Кірык (з народнымі мэлёдыямі) і Н. Лутовіч. Усяго 21 запіс.

*Парыцкі р.* даў (без азначэньня прозьвішча зьбіральнікаў) 15 запісаў.

*Слуцкі р.*—А. Ерашэвіч прыслаў 58 цікавых народных песень.

*Стара-Дароскі р.*—прысланы 7 запісаў.

*Старобінскі р.*—прысланы запісы Я. Магілеўца (42 тэксты), А. Кулакоўскага і Л. Скрабы. Усяго раён даў 78 запісаў.

*Сьвіслацкі р.*—даў 15 запісаў.

*Чырвона-Слабодзкі р.*—М. Мамчыц даў 22 запісы.

## Віцебская акруга.

Зьбіральніцкая дзейнасьць Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства ў параўнаньні з першым годам, калі фольклёрны матар'ял прысылаўся толькі з Межынскага і Чашніцкага раёнаў, крыху пасунулася наперад.

У 1927 г. Мік. Касьпяровіч перадаў у Камісію даволі значны па колькасьці матар'ял на 473 аркушох розных памераў, які быў сабраны ў *Бешанкавіцкім, Сеньненскім* і *Чашніцкім* раёнах настаўнікамі і вучнямі вясковых школ. У зборы матар'ялу прынялі ўдзел наступныя настаўнікі: Н. Адэльская, А. Сянкевіч, К. Чыжакова і М. Ялутава, і вучні: Агата і Андрэй Абляцовы, А. Баброў, А. Барадаўка, М. Бурэц, В. Вайцёнак, Д. Вікторчык, Н. Воранава, Я. Воранаў, Г. Воўкава, Г. Грудзінская, С. Гальбрайх, П. Гарбачэўскі, А. Гарбачэўскі, С. Жаўнеровіч, У. Жылінская, Н. Залатарэвіч, В. Ігнатовіч, М. Іваноў, А. Карбоўскі, А. Кухта, Карнакоў, М., Г. П. і Т. Краска, К. Казёл, М. Корбан, З. Карповіч, В. Каршукова, А. Кавалёв, М. Кавалевскі, Н., А. і Г. Кулак, А. Класэвіч, Н. Кажарская, З. і Я. Карпусёнкі, А. Лазарэвіч, З. Лядзінскі, Р. Матор, С. Марцыноўская, Л. Муха, З. Макоўская, У і М. Насыр, К. Пятрова, Н. Папко, Х., В. і М. Пясецкія, П. Пятух, М. Паўтарыха, П. Печань, У. Рыбачонак, Р. Росьлік, В. Рамашка, А. Радзюк, У. Радкевіч, М. Сахвонава, А. Сакалоўскі, М. П. Скабіцкія, Я. Скрыбнеўскі, Р. Трысьніцкі, А. Хадарэнка, А. Хацкевіч, О. Чарткова, В. Чыжык, А. і Я. Шасьціткі, А. Шчукан, Марыля, Люба і Лянід Шыпуля, Э. Шапіра, Б. Шкітка і М. Юдовін.

З запісаў пералічаных асоб лепшымі зьяўляюцца: а) матар‘ялы настаўніцы Ангяліны Сянкевіч, якая дала 96 тэкстаў народных песень; недахопам зьяўляецца адсутнасьць пры песьнях іх клясыфікуючых назоў; б) матар‘ялы настаўніцы Н. Адэльскай, якая дала 72 запісы; тут трэба адзначыць, што ў канцы 1927 г. Н. Адэльскай прыслана ў ІБК яшчэ восемнаццаць сшыткаў з фольклёрным матар‘ялам.

Апрача адзначанага з Чашніцкага р. атрыманы запісы фольклёрнага матар‘ялу ад М. Козел (174 добра запісаных песьні) і 738 запісаў ад ніжэйпералічаных вучняў Чашніцкай школы: З. Бараноўскі, Л. Галуза, А. Гандар, Р. Гольман, Л. Гурэвіч, М. Гарбадзель, З. Дыкман, І. Даўгапольскі, П. і І. Казакевічы, Р. і Ф. Капусьціны, Б. Кіркін, А. Краўчанка, Г. Кулакоўскі, Л. Мароз, С. Магільніцкая, А. Мікульская, Н. і К. Папок, Я. Папкоў, Н. Пазьняк, М. Пляхневіч, П. Семянкоў, Цікцын, К. Хацкевіч, М. Чарноў і Я. Шасьцітка.

Такім чынам у Бешанкавіцкім раёне ў мінулы год быў зроблен 601 запіс розных адмен народнай творчасьці, а ў Чашніцкім раёне было зроблена 1813 запісаў.

*Высачанскі р.*—запісы прысылаў А. Нікіпараў; у раёне зроблена 33 запісы.

*Лязьнянскі р.*—Арлоў і Зелянкоў прыслалі 35 запісаў.

*Межынскі р.*—матар‘ялы прыслалі: Г. Гарбаценка, Б. Гуркаў, І. Дразьдзецкі, І. Нікамашчанка і П. Мач. Наогул трэба адзначыць, што інтэнсыўнасьць Межынскага раёну ў справе зьбіраньня фольклёрнага матар‘ялу ў параўнаньні з мінулым годам дужа зьменшылася; на працягу 1927 году Межынскі раён даў усяго толькі 313 запісаў.

*Сіроцінскі р.*—запісы прыслалі М. Дубаў і П. Сьнітка (апошні запісаў 100 нумароў розных адмен народ. творч.) усяго Сіроцінскі раён даў 106 запісаў.

## Гомельская акруга.

Справа зьбіраньня фольклёрнага матар‘ялу ў Гомельскай акрузе абсолютна не наладжана. Матар‘ялы прысланы з трох раёнаў трыма асобамі.

*Васілевіцкі р.*—Я. Дзядкоў прыслаў 30 запісаў.

*Уваравіцкі р.*—С. Салдаценкаў прыслаў 5 запісаў.

*Чырвона-Будзкі р.*—Л. Высоцкі запісаў 34 песьні і даў апісаньне некаторых звычаяў. Беларускія народныя песьні запісаны без заховы фонэтычных асаблівасьцяй.

## Магілеўская акруга.

Некаторае ажыўленьне ў зьбіральніцкай дзейнасьці прыкмячаецца і ў Магілеўскай акрузе, хаця трэба агаварыцца, што з прычыны ліквідацыі Калінінскае акругі яна павялічана амаль што ў два разы. Фольклёрныя запісы атрыманы з наступных раёнаў Магілеўскае акругі:

*Быхаўскі р.*—Найлепшымі запісамі ня толькі Быхаўскага раёну, але наогул усёй Магілеўскай акругі зьяўляюцца запісы Аўгена Галадкоўскга, якім запісана 248 вясельных, 66 веснавых і купальскіх; 60 жніўных песень; працу па зьбіраньні народных песень Галадкоўскі вядзе правільна, не раскідваючыся, сыстэматычна, пераходзячы ад аднэй адмены народнай творчасьці да другой; пры такім мэтодзе запісваньня, які вычэрпвае цалкам паасобныя адмены народнай творчасьці, для іншых зьбіральнікаў у тэй мясцовасьці працы ўжо ня будзе. Апрача А. Галадкоўскага з Быхаўскага р. прыслалі запісы Я. Замаро, П. Кула-

жын і М. Носараў. Усяго ў гэтым раёне запісаны 401 тэкст розных адмен народн. творчасьці.

*Журавіцкі р.*—Ф. Ткачоў прыслаў 4 запісы.

*Кармянскі р.*—вучні Кармянскай сямігодкі (прозьвішчы не адзначаны) запісалі каля 150 тэкстаў; запісы не прарэдагаваны кіраўнікамі школьнага краязнаўчага гуртка і дзеля гэтага ў некаторых выпадках значнасьць іх невялікая; некалькі запісаў прыслана Х. Ткачовым. Наогул у Кармянскім раёне запісана 153 тэксты розных адмен народнае творчасьці.

*Касьцюковіцкі р.*—Найлепшымі гэтага раёну зьяўляюцца запісы Т. Мікалаева, ён даў 1) 50 песень з запісанымі да іх мэлёдыямі, 2) дасканалае апісаньне вясельля з вялікай колькасьцю песень, 3) апісаньні быту, будоўлі, забабон і некаторых звычаяў вясковага насельніцтва. Значную колькасьць песень дала К. Памазава (118 запісаў). Усяго ў Касьцюковіцкім раёне запісана 218 тэкстаў народн. песень.

*Клімавіцкі р.*—прысланы запісы наступных асоб: Т. Аўраменка, С. Будагоўскага, К. Ксяндзовай і Паўлавіцкага (апошнія два далі непатрэбныя запісы песень, запазычаных з расійскіх песеньнікаў). Усяго ў Клімавіцкім р. запісана 35 народн. песень.

*Магілеўскі р.*—М. Мацьвяёнкам прыслана 1 песьня. Цікавыя матар'ялы прысланы курсантам Магілеўскай Савецкай партыйнай школы К. Новікавым; рукапіс мае 75 запісаў розных адмен народн. творчасьці, прычым частка матар'ялу адносіцца да Бабруйскае акругі.

*Чавускі р.*—без азначэньня прозьвішча зьбіральніка з гэтага раёну прыслана 43 народн. песьні.

*Чырвонапольскі р.*—В. Дабравольскі прыслаў 2 песьні.

*Хоцімскі р.*—Дзейнасьць Хоцімскага р., які ў мінулым годзе даў больш 2.000 запісаў розных адмен народн. творчасьці, чамусьці панізілася ў дзесяць раз; на працягу ўсяго 1927 году раён даў усяго толькі 210 запісаў. Удзел у зьбіраньні прынялі наступныя асобы: Р. Аўдакіменка, Э. Гольдзіна, Н. Гаўрылава, Б. Ганчароў, Х. Латкіна, Г. Міхальчонкава, Б. Раманенка. М. Радчанка, Е. Эпштэйн, В. Шчэрба.

## **Мазырская акруга.**

Дзейнасьць Мазырскага Акруговага Таварыства Краязнаўства ў зьбіраньні народнай творчасьці значна пасунулася наперад у параўнаньні з папярэднім годам; Мазырская акруга зьяўляецца адзінай акругай у сучаснай Беларусі, дзе зьбіраньне вуснай народнай творчасьці абхапіла ўсе раёны акругі. Кіраўнік Мазырскага Акруговага Таварыства Краязнаўства *Крукоўскі* прыцягнуў да зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу шмат асоб, пераважна настаўнікаў: Н. Бухарэвіч, Ю. Былінскі, А. Буйвал, Л. Валадковіч, М. Ваймблат, А. Вецік, Валатоўскі, І. Дзерактарэнка, П. Драпеза, Р. Еружэнаў, А. Жудра, Жукоўскі, З. Касьянчык, А. Караса, П. Кашпей (даў шэраг нотных запісаў), Казак, Л. Кацман, М. Кузьняцова, Н. Кункевіч, Кавалёў, Т. Кулакоў, М. Лебедзеў, П. Ляшчынскі, Маркуль, А. Міхайлоўскі, Перашыўка, Р. Паўлаў, В. Раманоўская, В. Радзівонаў, Я. Рудакоўскі, Селька, Э. Слабоднік, М. Серада, М. Чаўнавік, С. Шаўковіч, Шурпач, Б. Шустэрман, М. і С. Шыбут; на тэрыторыі ўсёй акругі яны сабралі 518 запісаў розных адмен народнай творчасьці. Зьвяртае на сябе ўвагу і тая надзвычайная акуратнасьць, з якой собраны матар'ял. прысылаецца ў ІБК; у той час, калі некаторыя краязнаўчыя організацыі прысылаюць Інстытуту Беларускае Культуры запісы на брудных запэцканых, адкульсьці выдраных кавалках паперы — Мазырскае Акруговае Таварыства Краязнаўства

ўвесь прысланы матар‘ял бяз зьмены ў запісах, перапісвае ў асобныя вялікія апраўленыя сшыткі, якія зьвязаны паміж сабой агульнай нумэрацыяй; да кожнага сшытку даецца а) зьмест з прывядзеньнем першага радку песьні, б) падзел матар‘ялу на раёны, і толькі пасьля гэтай папярэдняй працы па ўпарадкаваньні матар‘ялу ён прысылаецца ў Інстытут Беларускае Культуры. Некаторым выключэньнем зьяўляецца 92 тэксты песень, запісаных Маркулем, якія ня маюць усіх патрэбных этнографічных зьвестак, можа гэта тлумачыцца тым, што запісы належаць яшчэ канцу XIX і пачатку XX ст.

Апрача матар‘ялаў, сабраных вышэйпералічанымі асобамі, прысланы матар‘ял непасрэдна з некаторых раёнаў.

*Жыткавіцкі р.*—Г. Брэгман дала апісаньне вясельля і 72 цікавыя тэксты народных песень, Т. Люцьвіновіч запісала больш 50 песень і Я. Зьмітрапіц сабраў 28 песень. Усяго ў Жыткавіцкім р. запісана 165 тэкстаў розных адмен народнай творчасьці.

*Каленкавіцкі р.*—М. Говар запісаў 50 тэкстаў. Усяго ў гэтым раёне запісана 56 тэкстаў розных адмен народ. творчасьці.

*Каралінскі р.*—некаторыя запісы, паміж іншым, прысланы А. Прохаравым; усяго ў гэтым раёне запісана 80 тэкстаў.

*Тураўскі р.*—запісы прыслалі М. Квіцінскі, Меклін, Радзівонаў, Шабельнік і Шаўковіч. Усяго ў раёне запісана 69 тэкстаў, што ў параўнаньні з мінулым годам зьяўляецца зьмяншэньнем зьбіральніцкай дзейнасьці раёну ў 5-6 раз.

*Азарыцкі р.*—120 запісаў.
*Капаткевіцкі р.*—32 запісы.
*Лельчыцкі р.*—78 запісаў.
*Нараўлянскі р.*—14 запісаў.
*Петрыкаўскі* р.—3 запісы.
*Слабодзкі р.*—100 запісаў.

## Менская акруга.

Дзейнасьць краязнаўчых організацый Менскай акругі і часткі б. Барысаўскай значна ажывілася ў параўнаньні з першым годам.

*Астрашыцка-Гарадзецкі р.*—матар‘ялы прысланы М. Яфімцам (даў 50 запісаў песень, у тым ліку шмат цікавых валачобных песень), К. Мэттай (слухач Менскага Польскага Пэдагогічнага Тэхнікуму даў шэраг матар‘ялаў беларускага фольклёру) і М. Яфіменка (запісаў 30 тэкстаў песень). Усяго ў гэтым раёне запісаны 101 тэкст розных адмен народнай творчасьці.

*Барысаўскі р.*—запісы вуснай народнай творчасьці ў Барысаўскім р. вёў адзін толькі настаўнік Пётра Самцэвіч, але трэба адзначыць, вёў з значным посьпехам; ім сабрана 316 тэкстаў розных адмен народнай творчасьці.

*Бегомльскі р.*—запісы прысланы Т. Кучынскім (45 тэкстаў), А. Судніковічам і некаторымі іншым асобамі, якія не адзначылі сваіх прозьвішчаў. Усяго ў раёне запісана 86 тэкстаў.

*Грозаўскі р.*—Н. Вішнеўскай у мяст. Пясочным запісана 125 песень; запісы цікавы тым, што яны запісаны ад аднэй асобы. Рэпэртуарам песеньніц нашы збіральнікі пакуль што зусім ня цікавіліся, на што ім варта зьвярнуць увагу; тут важна ня толькі дакладны перапіс усіх твораў, якія ведае песеньніца, але важна нават адно пералічэньне таго, што ведае даная асоба (пры пералічэньні рэпэртуару пішуцца толькі першыя два радкі песьні, а ў адносінах казачнікаў даецца толькі зьмест казак).

*Капыльскі р.*—запісы прысланы Э. Булатам, Л. Баўдзеем, В. Гецам, З. Змачынскім, В. і С. Малюковічамі і Я. Сікорскім. Усяго ў Капыльскім раёне запісана 47 тэкстаў народн. песень.

*Койданаўскі р.*—адзіным зьбіральнікам вуснай народнай творчасьці ў Койданаўскім р. зьяўляецца Кастусь Вашына, які на працягу 1927 году запісаў 693 тэксты розных адмен народнай творчасьці; такой вялізнай лічбы народных твораў, сабраных у адным раёне пакуль што, апрача К. Вашыны, за два апашнія гады, ня даў ніводзін збіральнік; трэба адзначыць, што ўсе запісы Вашыны адзначаюцца фонэтычнай дакладнасьцю, прычым на кожным слове ім ставіцца націск, што, апрача Вашыны, ніхто ня робіць. Аб сур'ёзнай зацікаўленасьці К. Вашыны зьбіраньнем народнай творчасьці сьведчаць некаторыя выняткі з яго ліста ў Інстытут Беларускае Культуры: „я паставіў сабе мэту,—піша ён, ня даць марна загінуць ніводнаму слову народных твораў нашай вёскі"; аб умовах запісаў чытаем далей: „цяпер—вясна. Абсыхае зямля і хутка пойдзем на поле. Тады мая зьбіральніцкая праца пойдзе гусіным крокам, бо ня будзе часу. Нават цяпер адчуваецца недахват часу, бо кароткія вечары (самы выгадны час дзеля запісаў), а ў дзень, як мне, гэтак і казальнікам і казальніцам хватае працы на дварэ і ў хаце. За вясеньні і летні час я думаю прыгатаваць чарнавых запісаў, каб у зімні вольны час перапісаць іх гэтак, як Вам патрэбна".

*Лагойскі р.*—запісы прыслалі К. Берасьневіч і С. Кімкурны. У раёне запісана 190 тэкстаў розных адмен народн. твораў.

*Плешчаніцкі р.*—запісы прыслалі У. Арыніч (больш 100 запісаў), А. Дзяшковіч, К. Пятручок, І. Тарасэвіч і Н. Хацкевіч, прычым тры апошніх асобы далі апісаньне быту, вопраткі, ежы і вясельных звычаяў сялян Плешчаніцкага р.; Крайскі краязаўчы гурток запісаў 174 загадкі. А ўсяго ў раёне запісана 335 тэкстаў розных відаў народ. творчасьці.

*Пухавіцкі р.*—А. Бонч-Асмалоўская прыслала апісаньне Купальскіх сьвяткаваньняў, а А. Захарэвіч (слухач Менскага Польскага Пэдагогічнага Тэхнікуму) даў шэраг запісаў беларускіх песень. Усяго ў раёне запісана 26 тэкстаў народн. песень.

*Самахвалавіцкі р.*—запісы прыслалі У. Гарачка, М. Клімовіч і У. Шаўлюкевіч. Усяго ў раёне запісана 38 тэкстаў песень.

*Смалявіцкі р.*—запісы прыслалі А. Бабіцкі, С. Лапуцька, Л. Самовіч, А. Скуратовіч, Я. Пятроўскі (запісаў 79 песень), В. Юшкевіч. Усяго ў раёне запісана 123 тэксты розных адмен народ. творчасьці.

*Сьмілавіцкі р.*—некалькі запісаў прыслана У. Яўхімавым.

*Узьдзенскі р.*—у гэтым раёне запісана 23 беларускіх песьні слухачкай Менскага Польскага Пэдагогічнага Тэхнікуму Л. Берасьневіч.

*Чэрвенскі р.*—запісы прыслалі Г. Вінаградаў (запісаў 142 тэксты), С. Ганчарык (117 прыпевак), П. Канапелька, С. Ждановіч і П. Невяроўскі (апошнія два, слухачы Менскага Польскага Пэдагогічнага Тэхнікуму, далі шэраг цікавых фольклёрных запісаў), Ц. Шпакоў і П. Шары (запісаў 170 песень). Усяго ў Чэрвенскім раёне запісана 542 тэксты розных адмен народ. творчасьці.

*Шацкі р.*—запісы прыслалі А. Нямковіч, У. Сяліцкі, і І. Шпак. Усяго ў раёне запісана 49 тэкстаў народ. твораў.

### Полацкая акруга.

Нарэшце некаторае ажыўленьне наглядаецца і ў Полацкай акрузе. Найлепшыя запісы гэтай акругі належаць *Расонскаму раёну,* у якім настаўніца Каем Блюма запісала 362 песьні. Далей матар'ял атрыманы з ніжэйпералічаных раёнаў:

*Асьвейскі р.*—Я. Гнядоўскі запісаў 4 песьні.

*Валынецкі р.*—запісы прыслалі М. Хадкевіч (каля 100 запісаў) і іншыя асобы, якія не адзначылі свайго прозьвішча. Усяго ў раёне запісаны 131 тэкст розных адмен народ. творчасьці.

*Вульскі р.*—вучнямі Вобальскай школы сялянскай моладзі П. Афанасьсевым, Я. Гарбуновым, А. Герцык, А. Канапелькай, А. Несьцярэнкам, М. Панковым, Я. Піскуновым, Садкоўскай, А. Хвядура, Е. Храмцовым сабрана 387 тэкстаў розных адмен народ. творчасьці; апрача пералічаных асоб матар'ялы прыслалі І. Грачухін, Е. Журко і некаторыя іншыя асобы, якія не адзначылі свайго прозьвішча. Усяго ў раёне сабрана 535 тэкстаў розных адмен народ. творчасьці.

*Вушацкі р.*—запісы прыслалі В. Быкаў (запісаў 100 загадак), А. Дзешус, В. Капцелаў, Я. Палонскі, Н. Пяпёлка, В. Сьпіцэвіч, М. Хідэкіль. Усяго ў раёне запісана 179 тэкстаў розных адмен народ. творчасьці.

Апрача вышэйазначанага фольклёрнага матар'ялу шэраг асоб прыслаў запісы, зьвязаныя тэрыторыяльна з беларускімі этнографічнымі абшарамі, якія знаходзяцца за межамі БССР, так 1) *А. Баркоўскі* прыслаў шэраг запісаў народнай творчасьці з Краслаўкі (Латгалія ў сучаснай Латвіі); 2) *К. Буры* прыслаў шэраг вясельных песень, якія запісаны ў мястэчку Пагар былое Чарнігаўскае губэрні; 3) *Т. Ліцьвіновіч* запісаў шэраг беларускіх загадак ад уцекачоў былое Горадзенскае губэрні; 4) *А. Палладзьдзеў*, жывучы ў Гомлі, запісаў ад уцекачоў б. Пінскага павету 176 песень; 5) *І. Шпак* запісаў шэраг песень ад уцекачоў б. Наваградзкага павету.

II.

На грунце ўсяго разгледжанага з даволі значнага ліку мясцовых зьбіральнікаў этнографічнага матар'ялу можна выдзеліць невялічкую групу з шасьці асоб, якая вызначаецца з агульнай масы зьбіральнікаў з аднаго боку лікам надасланага матар'ялу, а з другога боку—яго якасьцю, которая часамі адказвае амаль што ўсім навукова-этнографічным запатрабаваньням, якія вымагаюцца ў стасунку да запісаў тэкстаў вуснай народнай творчасьці. Прозьвішчы гэтых асоб наступныя:

1. *К. Вашына*, які ў Койданаўскім раёне запісаў 693 тэксты розных адмен народ. творчасьці.

2. *А. Галадкоўскі*, які ў Быхаўскім раёне запісаў 374 тэксты.

3. *Каем Блюма*, якая ў Расонскім раёне запісала 362 тэксты.

4. *Крукоўскі*—старшыня Мазырскага Акруговага Таварыства Краязнаўства, які ўцягнуўшы ў зьбіраньне этнографічнага матар'ялу ўсе раёны сваёй акругі, наладзіў справу запісваньня тэкстаў народнае творчасьці лепш усіх іншых акруг БССР.

5. *Т. Мікалаеў*, які ў Касьцюковіцкім раёне запісаў каля 70 песень з нотамі і даў апісаньні народнага вясельля, быту, будоўлі, забабонаў і некаторых звычаяў.

6. *Пётра Самцэвіч*, які ў Барысаўскім раёне запісаў 316 тэкстаў.

III.

Робячы падагульненьне пройдзенага мясцовымі краязнаўцамі на працягу 1926-27 акад. году зьбіральніцкага шляху, бачым значнае павялічэньне агульнай зацікаўленасьці зьбіраньнем помнікаў вуснай народ-

най творчасьці ў параўнаньні з папярэднім годам, што відаць з наступных параўнальных лічбаў:

| | Замовы | Прыказкі | Загадкі | Калядныя п. | Масьленічныя п. | Веснавыя п. | Русальныя (Траецк.) п. | Купальскія п. | Песьні працы | Хрэсьбінскія (і дзіцячыя) п. | Вясельныя п. | Хаўтурн. прычытаньні | Бытавыя п. | Прыпеўкі | Духоўныя вершы | Казкі, апавяданьні і легенды | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік запісаў за 1925-26 акадэмічны год . . . | 163 | 452 | 680 | 180 | 47 | 242 | 9 | 103 | 355 | 112 | 1480 | 1 | 1.167 | 3.427 | 3 | 144 | 8.565 |
| Лік запісаў за 1926-27 акадэмічны год . . . | 255 | 1.653 | 1.666 | 177 | 114 | 309 | 13 | 193 | 502 | 147 | 1.976 | 7 | 1.720 | 4.521 | 5 | 201 | 13.459 |

Апрача пералічаных тэкстаў прыслана 487 прыкмет, запісана 98 песень з мэлёдыямі, дадзены 2 апісаньні калядных звычаяў, 1—веснавых зв., 2—купальскіх зв., 1—хрэсьбінскіх зв., 5—вясельных зв., 1—хаўтырных зв. і шэраг матар'ялу аб народных леках, гульнях і наогул быце.

Паводле ліку сабранага матар'ялу першае месца займае Аршанскае Акруг. Таварыства і апошняе—Гомельскае; наогул трэба адзначыць, што ўсе акругі, за выключэньнем Мазырскай, маюць шэраг раёнаў, у якіх на працягу двух год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу не запісана ніводнай песьні, на што акруговым і раённым таварыствам краязнаўства, бясспрэчна, трэба зьвярнуць увагу. Сабраны матар'ял паміж акругамі разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Аршанская | акруга | 3247 | запісаў. |
| Віцебская | „ | 2901 | „ |
| Менская | „ | 2196 | „ |
| Бабруйская | „ | 1387 | „ |
| Мазырская | „ | 1235 | „ |
| Полацкая | „ | 1211 | „ |
| Магілеўская | „ | 1092 | „ |
| Гомельская | „ | 69 | „ |

прычым 121 тэкст ня мае адзначэньня месц запісаў.

Датычна мэтодолёгічнага боку прыходзіцца адзначыць, што заўвагі, зробленыя ў мінулым годзе, у большасьці выпадкаў *ня выкарыстаны,* як у выбары матар'ялу для запісваньня, так і ў самых мэтодах запісваньня. Адзначу адну найбольш непажаданую зьяву; у зьбіраньні фольклёрнага матар'ялу прымаюць даволі значны ўдзел вучні, якія дужа часта з прычыны сваёй непадрыхтаванасьці робяць або вельмі кепскія, або зусім непатрэбныя запісы; так, напр., з некалькіх школ прысланы цэлыя сшыткі расійскіх песень, запазычаных з лубачных песеньнікаў; падобныя запісы—дарэмная трата часу; прычым кіраўнікі школьных краязнаўчых гурткоў, не азнаёміўшыся з тым, што запісана вучнямі, увесь гэты матар'ял шлюць у Інстытут Беларускае Культуры; аб запісах малапісьменных вучняў, якія навучыліся толькі выводзіць літары—не гавару, бо зразумела, што яны ня маюць абсолютна ніякай вартасьці. Кіраўнікам школьных краязнаўчых гурткоў, атрыманы ад вучняў матар'ял, трэба разглядаць і на гэтых вучнёўскіх запісах паказваць іх памылкі і даваць належныя тлумачэньні, каб з часам выхаваць у іх сур'ёзную зацікаўленасьць як да краязнаўства наогул, таксама і да падгатоўкі граматнага запісваньня этнографічных матар'ялаў.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**Мікіцінскі, Р. Пяцэвіч і П. Ажэўскі.**

## Падарож па Случчыне *).

(*Матар'ялы краязнаўчай экскурсіі Слуцкага Краязнаўчага Таварыства, якая адбылася ў 1927 годзе на працягу часу з 6—21 ліпня*).

### Возера Князь і ваколіцы.

На паўднёвай мяжы Старобінскага Раёну Бабруйскае акругі і паўночнай мяжы Мазырскай акругі, сярод вялікіх Палескіх балот, распаложана вялізнае возера, якое мае назву „Князь-Жыд“. У старадаўныя гады яно бязумоўна займала значна большы прастор. Згодна гіпотэзы Эгіхвальда, Князь-возера нібы зьяўляецца рэшткаю Герадотава мора. Калі паглядзець на сучасную топографію мясцовасьці, то можна заўважыць, што пашырэньне яго было магчымым больш усяго на поўдзень, паўночны захад і захад аж да ракі Случы, з якой яно мусіць злучалася. Грэцкі гісторык Гэрадот успамінае, што народ будзіны, або вудзіны жывуць над вялікім возерам (морам), у якое ўліваюцца 4 вялікіх ракі: Оар, Сюргіз, Лік і Танаж. Лічуць, што першая з іх Оар—Гарынь, Сюргіз—Стыр, Лік—Случ.

Гадоў 50 таму назад сяляне вёскі Рог, капаючы карчы на лучыну ў моцна забалочаным лесе, які завецца „Камароў Мох“, знайшлі вялікіх памераў судзіну старажытных часоў. Гэтая судзіна была гружана сольлю, прычым адзін з сялян нават умудрыўся набраць гэтае солі. Верхнюю частку борта гэтае судзіны сяляне пашчапалі. Праз нейкі час яны мелі намер зноў адшукаць яе, але, дзякуючы дажджліваму часу году, не змаглі дабрацца да яе. У сучасны момант выявіць месца знаходжаньня значна цяжэй, бо ўсё пазарасло вялікім мохам вышыні да 1 арш. Гадоў 15-18 таму назад, калі абшарнік Манжалей праводзіў канаву праз вурочышча Булялёва, былі знойдзены 3 лодкі звычайнай велічыні, у невялікай адлегласьці адна ад аднэй. Калі іх адкапалі і далі высахнуць, то ад датыканьня да іх рукой яны рассыпаліся ў парахно.

Дзяды кажуць, што ад самага возера і амаль што аж да Дамановічаў, праз Камар-Мох і Булялёва праходзіла шырокая рэчка ці вузкае возера. У сучасны момант уся гэтая мясцовасьць так пазарастала, што нават сям-там косяць. Камар-Мох знаходзіцца недалёка

---

*) Гл. „Наш Край“ № 2 (29) 1928 г.

ад вёскі Рог у паўднёвым напрамку і ня больш як 3-4 вярсты ад возера ў паўночна-заходнім кірунку. Гэтыя знахадкі лепш за ўсё пацьвярджаюць наяўнасьць судаходзтва ў значнай адлегласьці ад сучасных межаў возера. Застанаўліваючыся на самай назьве возера „Князь-Жыд“, трэба адзначыць, што гэтая назва мае за сабой даўнасьць ня болей як гадоў 400. У старажытных докумэнтах, якія адносяцца да гісторыі Слуцкага Княства XVI-XVII стагодзьзяў, амаль што не сустракаецца гэтая назва. Апошняя ўзьнікла мусіць у палове XVI ст., а калі і раней, то ў афіцыяльных паперах ня ўжывалася. Усюды сустракаецца назва „Жыцкае возера“, што, бязумоўна, гаворыць за яго старажыт-



Возера Князь-Жыд. Збоку Пухавіч.

насьць. Гэтая назва, мусіць, стварылася ад слова „жыць—жыцьцё“, а апошняя назва „Князь-Жыд“ шчыльна зьвязана з народнымі паданьнямі, якія дагэтуль жывуць сярод акаляючага насельніцтва. Гэтае паданьне мае некалькі варыянтаў, з якіх адно гаворыць аб тым, што нейкі князь ажаніўся з яўрэйкаю, і вось разгневаныя гэтым яго родзічы пабудавалі на возеры для маладажонаў замак, у якім іх і зьмясьцілі. У час вясновай паводкі замак затапіла вадой, дзе яны і загінулі. Адгэтуль з тых часоў і пачало возера называцца „Князь-Жыд“.

Другі варыянт, які перадаў Пухавіцкі поп Ялісей Пануры, зводзіцца к таму, што князь меў каханку-яўрэйку, вельмі прыгожую. Каб зрабіць ёй прыемнасьць, ён збудаваў у паўночнай частцы возера на высьпе замак, але вясеньні ледаход яго зьнёс, і яна там загінула, адсюль і назва „Жыд“.

А вось яшчэ адно паданьне, якое мы чулі ад Пухавіцкага яўрэя Озэра Мэйлаха, які гаварыў, што гэтае возера атрымала назву „жыдоўскага“ даўно, дзеля таго, што ў ім вадзілася толькі кашэрная рыба. З працягам часу назва „Жыдоўскае“ скарацілася ў назву „Жыд“. Наколькі гэта праўда, цяжка сказаць таму, што рыба ў возеры водзіцца

ня толькі кашэрная, але і трафная (мянтузы, уюны). Няма ніякіх падстаў сказаць, што раней іх ня было тут.

Як-бы ў пацьвярджэньні першых варыянтаў і дагэтуль у паўночнай частцы возера недалёка ад Дзякавіч знаходзіцца няглыбокае месца, якое носіць назву „Замак“. На гэтым месцы і дагэтуль знаходзяцца рэшткі паляў а таксама і цэглы старажытнае формы Гэтае месца невялікае, зарасло яно чаротам, але знайсьці яго могуць толькі вопытныя рыбакі. Возера Князь з XIV ст. увашло ў межы Слуцкага

## Возера Князь і яго ваколіцы.

княства і першымі яго князямі Ольгердава племя—Алелькавічамі было замацавана за Слуцкім Трайчанскім праваслаўным манастыром. Слуцкі Князь Юры Юр'евіч у 1566 г. пацьвердзіў правы, даныя яго продкамі.

Запраўдную велічыню возера цяжка выявіць. Паводле апошніх досьледаў проф. Туткоўскага, плошча яго мае 42 кв. вяр., прычым у даўжыню 13,5 в., а ў шырыню—5,2 вярсты. Ня гледзячы на вялікую плошчу, возера не вызначаецца сваёй глыбінёй. Найглыбейшыя месцы дасягаюць да 3-х сажняў і завуцца сярод рыбакоў „вірамі“. Адносна віроў прыходзіцца наглядаць цікавае зьявішча. Вір праходзіць праз усё возера з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад нязначнай, па шырыні параўнальна з возерам, істужкай. Чалавек нават мала сьвядомы, едучы праз вір, можа заўважыць нейкую зьмену на паверхні—нязвычайную рухлівасьць вады. Нават калі на ўсім возеры на

глядаецца цішыня, на віры неспакой. Князьвазёрскі настаўнік М. Казьлякевіч казаў, што вір зьяўляецца нібы карытам нейкай быўшай ракі, і што гэтае карыта прабіваецца праз нейкі прастор у Камаровым Імху.

Дно возера па сваім грунце ня ўсюды аднолькава. У паўночнай частцы тарфяное, памясцоваму „кал“, у паўднёвай—пяшчанае. Вада жаўтаватага колеру і някепская на смак. Возера вельмі рыбнае. У ім водзіцца шмат шчупакоў, карасёў, акунёў, ліноў, ляшчоў, язёў, плотак, яршоў, уюноў, малькоў і мянтузоў. Ракі сустракаюцца ў вялікім ліку ў паўднёвых берагох. Рыбакі казалі, што шчупакі пападаюцца да пуда вагою. Бывалі выпадкі, што карасі пападаліся да 8 ф., ляшчы да 12 ф.

Замярзае возера ў канцы кастрычніка або ў пачатку лістапада. Ускрываецца ў канцы сакавіка. Паўднёвы, паўднёва-заходні і паўднёва-ўсходні берагі прадстаўляюць вялікія балоты, мясцовасьць тут адносіцца да безвалуннай вобласьці. На поўначы паласа балот значна вужэй, на якой сустракаюцца валунныя адкладзіны, хаця берагі і нявысокія.

У возера ўпадае на ўсходнім яго кутку адна невялічкая рэчка Дзямянка, але значная па сваёй глыбіні. Вялізарныя балоты і лясы, якія абкружаюць возера з усіх бакоў, даюць прытулак зьвяром і птушкам. Ваўкі водзяцца ў вялікім ліку. Сустракаюцца невялікіх разьмераў мядзьведзі ў Кузьміцкіх лясох. У гэтым-жа раёне зьявіліся рысі. Дзікіх коз шмат. Ласі сустракаюцца даволі рэдка сярод балот, паросшых лазой. Да вайны яны былі звычайным зьявішчам. Затым ідуць куніцы, лісы, зайцы, белкі, гарнастайкі, тхары. Дзікі сустракаюцца ў Кузьміцкіх лясох. Сярод птаства трэба назваць: цаплі, жураўлі (па большасьці ў Булялёўскіх лясох), затым буслы, і, як рэдкае зьявішча—чорныя буслы—у самых глухіх лясных закутках. Дзікія гусі трапляюцца каля Кузьмічоў. Далей дзікія качкі, крукі, чайкі, (кнігі) курачкі, каршуны, дзікія галубы, глушцы, цецярукі, курапаткі, перапёлкі і шмат дробных птушак пад агульнаю назваю „верабейкі“. Возера з берагоў парасло чаротам, ад чаго шмат траціць яго агульны выгляд. Яго нельга добра разглядзець. Як у самым возеры, так і вакол яго сустракаюцца чарапахі, але набыць іх не ўдалося, дзякуючы каароткаму там прабываньню.

Абсьледваўшы больш-менш Князь-возера і яго ваколіцы, мы 16 ліпня раніцаю адправіліся ў вёску Дзякавічы. Дарога ішла спачатку мяшаным лесам, а потым сасновым. Сярод лесу ўсюды сустракаюцца хутары. На адным з хутароў мы ўбачылі, як бабы зажыналі жыта, чаго каля Слуцку яшчэ не рабілі. Вярстах у 5 ад вёскі Князь-Вазёрскай, у тым месцы, дзе разыходзяцца дарогі: адна направа ў Дзякавічы, а другая ўлева на Пагібельку, стаіць стары цікавы дуб, які ў рост чалавека разыходзіцца на дзьве часткі, а потым прыблізна цераз аршын зноў зрастаецца ў адно дрэва, зрабіўшы у сабе як-бы вакно. Недалёка ад дуба ў самым куце сярод дарог знаходзяцца 5 курганоў. Большы з іх мае 55—60 шагоў у акружнасьці і $2^1/_2$ ар. вышыні. Ад курганоў прыблізна ў вярсьце знаходзяцца пры самай дарозе з левага яе боку ў $^1/_2$ вярсьце ад засьценка Пагібелькі 2 кругавідныя валы з выхадамі на дарогу. Знаходзяцца яны ў адлегласьці адзін ад другога ў 15—20 кроках. Разьмер большага з іх па грэбні валу мае 100—110 крокаў, меншага—75. У большым валу сьцены дасягаюць 4 арш. вышыні. У меншым—2-3 арш. Абодвы парасьлі бярозамі, соснамі і дубамі ўзросту да сотні гадоў. Адны кажуць, што гэта ёсьць астаткі старых „акопаў“, а іншыя называюць іх „печышчамі“, дзе палілі вугаль і дабывалі смалу. Пры большым з іх прыкметны 3 невялікіх курганы; процi курганоў па другі бок дарогі зразу пачынаецца мох.

Магчыма, што гэта былі астаткі даўнейшых „гарадкоў“, якім потым карысталіся дзеля выжыганьня вугалю.

Ад курганоў мы павярнулі да Дзякавічаў. Ехалі лесам, дзе зрэдка бачылі кусты „азалеі понтыйскай“, якая памясцоваму завецца „божае дрэўка“. Расьліна кустаабразная, у вышыню каля мэтру. У гэты час яна адцьвіла і былі відны зялёныя стручкі. Па дарозе на палянках усюды сустракалі кабет, якія палолі проса. Вёска Дзякавічы надта старажытная. У ёй ёсьць шмат тыповых палескіх будынкаў, але ў апошнія часы пабудованы і новыя не ў палескім стылі. У вёсцы многа азяродаў і буслоў. Амаль кожны гаспадар мае некалькі пар азяродаў з буслямі, якія сядзяць у гнёздах на нявысокіх палескіх будынках, адкуль можна рукой дастаць яйцы з гнязда. Буслы так зрадніліся, што зусім не баяцца людзей. У сяле ёсьць старасьвецкія могілкі, ад якіх амаль няма ніякага знаку, апрача вялізарных тоўстых дубоў і 2-3 старэнькіх крыжыкаў. У вёсцы ёсьць пошта, сельсавет, школа і фэльчарскі пункт. Усе яны зьмяшчаюцца на быўшым валасным двары. Коопэратыў знаходзіцца сярод вёскі.

### Лесапільны завод.

З Дзякавіч пайшлі ў Пасталы, каб пабачыць лесапільны завод, адзін з лепшых па абсталяваньні ў БССР. Дарога ішла па тракце на Пагост. За Дзякавічамі пачынаюцца прыгожыя лясы, дзе сустракаецца шмат дубоў і грабаў. Ёсьць нават цэлыя дубовыя гаі. У гэтых лясох, як і наогул вакол Князь-возера, сустракаецца вельмі многа сівиваронак. Каб папасьці ў Пасталы, прышлося зьвярнуть з тракту ўправа іісьці па вузкай лясной дарожцы каля 2 вёрст. А 8-ай гадзіне ў вечары дабраліся да Пасталоў і спыніліся ў школе.

Лесапільны завод у Пасталох, пад назваю „Труд“, зьяўляецца праўдзівым культурным гарадком сярод глухога лесу. Пры заводзе ёсьць 2 пасёлкі: адзін для рабочых, другі для адміністрацыі і культурных установ (кіно, пошта, летні сад, сталоўка, коопэратыў, клюб і інш.). Завод пабудованы ў 1912 г. немцамі Нейбургамі. Ёсьць 5 станкоў простастаўных і адзін паземны—самы модны і магутны. Рэжуць на ім самыя тоўстыя дубы (на тонкую фанеру) прытым так гладка, што і габляваць ня трэба. Простастаўныя станкі рэжуць дошкі рознай таўшчыні. Апрача гэтага ёсьць бачарнае аддзяленьне з цыліндрычнымі машынамі для апрацоўкі клёпак. Акрамя цыліндрычных піл ёсьць у бачарным аддзяленьні яшчэ тры станкі: на адным з іх прыдаецца форма клёпкам, на другім заразаюць уторы і на трэцім—доньні. За бачарным аддзяленьнем ідзе паркетнае аддзяленьне, дзе прыгатаўляюць матар'ял для паркету. Продукцыя заводу: дошкі, брусы, матар'ял для ўпакоўкі яблык, махоркі, памідор і г. д., а таксама бандарная і паркетная. Пры заводзе ёсьць млын, які працуе электрычнай энэргіяй. Катлы і машыны заводу знаходзяцца ў каменным аднапавярховым будынку, а самыя станкі з аддзяленьнямі ў дзеравяным, прычым гэты будынак ня мае ніводнае бэлькі і ключа,—усе пабудованы з тонкіх досак, якія пераплятаюцца паміж сабою ў складаную сетку па нямецкім узоры. Надахопам заводу зьяўляецца тое, што падача ў станкі ў ім адбываецца ручная, а не мэханічная. У заводзе ёсьць некалькі цыркулярак для абрэзваньня дошчак, прычым цыркуляркі знаходзяцца на панадворку, бо ў заводзе цесна. Завод мае 2 рухавікі. Адзін з іх запасны, а на другім працуюць. Рухавікі магутныя. Паводле слоў дырэктара, сілы хапае ня толькі на цяперашнія машыны, але можа ён абслужыць і яшчэ некалькі станкоў. Рухавікі нямецкія, Гофманаўскай фірмы. Рабочых на заводзе штатных 120 чалавек, але на

сэзонныя работы прызываюцца людзі з акаляючых вёсак іншы раз да 1000 чалавек (вырубка і выраз матар‘ялаў). Норма выпрацоўкі на заводзе 125% даваеннага часу. Рабочыя працуюць па норме. На рабочага ў сярэднім патрабуецца 47 куб. футаў дрэва. Сярэдняя аплата за норму—55 руб., але рабочыя выганяюць да 80—90 руб. „На заводзе ажно рэмні трашчаць“, па выразу рабочага, з якім мы вялі гутарку. Ад заводу ідзе жалезная дарога (ветка) на разьезд Старушку (між Жыткавічамі і Мазыром). Па ёй ходзяць толькі таварныя вагоны. Для пасажырскіх зносін ёсьць ваганетка з конскай цягай. На ёй дастаўляюць пошту, езьдзяць рабочыя. Для пасажырскага руху заводаўпраўленьне набыла матор, але ён аказаўся слабым. Завод працуе паводле плянаў Лесбелу, пад кіраўніцтвам якога ён і знаходзіцца. Завод у поўнай іспраўнасьці. Рабочыя заводу ганарацца тым, што ў час разрухі яны зьбераглі завод у цэласьці.

Асьвятленьне ўсюды электрычнае. У пасёлку ёсьць двухкамплектная школа. Дроў такая маса, што рабочыя ня хочуць браць з заводу адбросаў, прыгодных для апалу, іх прыходзіцца паліць або гаціць імі грэблі і балота. Заводзкае жыцьцё выклікае ўтварэньне розных організацый і ёсьць моцная парт‘ячэйка, комсамольская і піонэрская організацыі. Сярод партыйцаў праводзіцца ваенізацыя; мы самі зьяўляліся сьведкамі як вярталіся з ваеннага абучэньня рабочыя, расьпяваючы песьні, а дзятва тут-жа бегла за імі, страляючы з пугачоў.

## Хутары і пасёлкі.

18 ліпня ў дзьве гадзіны дня, закусіўшы ў рабочай сталоўцы, мы накіраваліся далей у дарогу ў напрамку на Буды. Прыблізна ў 1-1½ вярсты ад заводу за лесам знаходзіцца новы пасёлак—Чырвоны Кастрычнік. Пасёлак ужо адбудаваны. Выгляд мае прыемны. З гэтага пасёлку відаць ужо і самыя Буды, былы маёнтак Дзякавічы—генэрала Манжалея, зяця вядомага Вітгінштэйна. Гэта быў спачатку саўхоз, які дрэнна вёў гаспадарку, чаму цяпер і расформаваны. Сад маёнтку, прыблізна ў 5 дзесяцін, зданы ў арэнду прыватнай асобе за 311 руб. у год. Сад абсаджаны з бакоў белай акацыяй. У ім сустракаюцца італьлянскія арэхі, морва, лісьцьвеньніца і інш. дрэвы. Ёсьць шмат ягадных кустоў, асабліва смародзіны. Арандатары ня маюць садоўніка і не клапоцяцца аб упарадкаваньні саду. На шляху з Дамановіч у Кузьмічы ёсьць пры Будах невялікі коопэратыў, які бойка гандлюе.

З Будаў увесь час ідзе мяшаны лес. Пападаюцца вельмі часта прыгожыя мясьціны. На Кузьміцкіх хутарох мы зьвярнулі ўлева ў напрамку на Сосны па так званай „новай дарозе“. Дарога спачатку ідзе вярсты тры праз палі і разоры, а з хутара Зальніча пашла цераз лес і тарфяныя балоты. Тут канечны пункт пабудовы новай дарогі ў гэтым годзе. Гаспадар гэтага хутара Хвёдар Гаўрыленя вельмі нездаволены, што каля яго пакапалі зямлю і што хата яго застаецца пры самым шляху. Ад хутара Зальніча дарога спачатку пралажана праз забалочаны лес аж да пасёлка і ўрочышча Сосны.

Не даходзячы Соснаў у лесе ў новавырытых канавах абапал дарогі часта сустракаецца чысты белы кварцавы пясок і прыкметны сьляды балотнай руды і охры. Урочышча Сосны знаходзіцца на высьпе сярод балот. Тут знаходзіцца праўленьне мэліорацыйных будаўнічых работ. Ёсьць кантора, дзе жыве галоўны інжынэр Гняўкоў. Пры канторы збудаваны баракі для рабочых, сталовая пад паветкай, лазьня, якая працуе 4 разы ў тыдзень, лазарэт на 6 ложкаў і фэльчарскі пункт,

дзе працуюць 2 фэльчары. Апрача гэтага ёсьць продуктовая база, дзе рабочыя могуць дастаць усё неабходнае.

Для адміністрацыі збудавалі асобны дом. Інжынэр Гняўкоў прыняў нас надзвычайна прыхільна. Ён загадаў адвесьці нам пад начлег лазарэт, адпусьціць продуктаў і запрасіў нас у лазьню. У нашу бытнасьць мэліорацыйныя работы былі спынены за несваечасовай дастаўкай зямлячарпальных машын, якія стаялі на Ўрэччы, і з прычыны пачатку касьбы. На земляных мэліорацыйных работах працуе, апрача мясцовага насельніцтва, шмат украінцаў, спэцыяльна для гэтага нанятых. Там мы бачылі рабочых з Кіеўскай губ., якія прыехалі для падвозу пяску з сваімі коньмі і калёсамі (бяз шын).



Саматужны дзягцярны завод. (Стара-Юркаўскія хутары Любаньскага раёну).

З Соснага мы пайшлі 19 ліпня ў напрамку на Любань, але для скарачэньня дарогі на Юркаўскіх хутарох передумалі і пайшлі на Закольнае і Пагост.

Ад Соснага да ўрочышча Сёмага (яно-ж Сяльцо) увесь час, на працягу каля 10 вёрст, цягнуцца балоты, рэдка перарэзаныя невялічкімі астраўкамі мяшанага лесу. Краявід чыста палескага характару,— вельмі прыемны. Мінуўшы Сёмае мы застанавіліся на Стара-Юркаўскіх хутарох, дзе думалі закусіць і дастаць продуктаў у коопэратыве. Але там нічога не нашлі. Тут-жа каля коопэратыва ёсьць шпігінарны саматужны завод, які мае вялікі запас карчоў для перагонкі. Недалёка ад шпігінарні ў лесе знаходзіцца саматужная дзягцярня селяніна Чакупа. Цяпер дзягцярня не працуе з-за адсутнасьці спрыяючых умоў для здабычы сыравіны.

Юркавіцкія хутары цягнуцца аж да Шыпілавіч на працягу 6 вёрст. Хутары наогул багатыя. Сустракаюцца будовы з жалезнымі дахамі. Зямля тут ураджайная, гаспадарка вядзецца культурна. Як прыклад, можна прывесьці аднаго хутараніна (суседа Адзярыхі), які атрымаў прэмію ў 50 руб. і сэпаратар за культурнае вядзеньне гаспадаркі.

Пры хутары гаспадара Адзярыхі цягнецца вялікі Юркавіцкі канал, вырыты ў часы экспэдыцыі ген. Жылінскага. Праз канал, пры хутары адбудаваны новы прыгожы мост. За мостам адразу пачынаецца Шыпілаўскі лес, дзе сустракаецца граб, ясень, клён і дуб. Лес вельмі прыгожы.

Падыходзячы да Шыпілавічаў, мы пры вёсцы, на высокім пяшчаным бархане, заўважылі цэлы шэраг курганоў, лікам каля 20 штук. Курганы цягнуцца градою пад Обчын і маюць прыблізна каля 3 арш. вышыні і 35-40 арш. у акружнасьці. Некаторыя з іх разрыты, але большасьць захавалася ў цэласьці. Каля падгор'я Бархана забалочаны хмызьняк і лугі. Тут-жа пры вёсцы Шыпілавічы канчаецца Обчынскі канал працягам каля 9 вёрст. Канал зьяўляецца стокам вады з Вобчынскіх балот у раку Арэсу. Канал вырыты Вобчынскім сельскагаспадарчым т-вам.

З Шыпілавіч накіраваліся ў Вобчын. Дарога ішла па пасецы вёрст 4. На пасецы распаложаны новыя хутары—Чырвоны Кастрычнік. Хутары яшчэ слаба забудаваныя. Вёска Вобчын расьселена на пасёлкі і хутары, усяго лікам да 24. Вёска была вельмі вялікая. У самай вёсцы зьвяртае на сябе ўвагу новаадбудаваная школа, высокая, сьветлая, з цынкавым дахам. Супроць школы, на высокай гары, з якой відаць далёка ваколіцы (Любань, Урэчча і інш.), знаходзяцца Вобчынскія могілкі, паросшыя старымі дрэвамі, між якімі вызначаюцца плакучыя бярозы. На могілках ёсьць старасьвецкая драўляная царква цікавай архітэктуры. Пры царкве ёсьць званіца, дзе маюцца вуніяцкія званы. На адным з іх можна разабраць дату 1772 г.

Па дарозе з Вобчына на Рачэнь, сярод палёў справа і зьлева пры ваколіцы Зазмуж'і (багатая заселяная шляхтай ваколіца) знаходзіцца шэраг курганоў лікам больш 20. Пры ўезьдзе ў Рачэнь справа відаць было невялікае балотнае Рачэньскае возера, абсьледваць якое за позьнім часам нам ня ўдалася. Тут-жа пры дарозе стаіць паравы млын, які не працаваў за адсутнасьцю сыравіны. Вёска мае 250 двароў, вельмі доўгая і гразкая. Нават у наш прыезд, калі было вельмі суха, у вёсцы яшчэ былі гразкія лужыны. У вёсцы ёсьць два магільнікі. Адны з іх старасьвецкія, на курганох, паросшых вялізарнымі дрэвамі, дубамі і ліпамі. Ёсьць ліпы, якія маюць 11 крокаў у акружнасьці. У адным з старых дубоў ёсьць уросшы камень, надпісі на якім прачытаць нельга, бо яна ўрасла ў дуб, а відаць толькі крыж.

У вёсцы будуецца новая школа, але да гэтага часу пабудована толькі частка фундаманту. Да гэтага часу школа зьмяшчаецца ў наёмных сялянскіх будынках. У вёсцы заўважылі асаблівасьць у гаворцы.

Іменьнікі назоўныя ў множным ліку канчаюцца на „э"—валэ, братэ, а дзеяслоў (інфінітыў) на „і"—араці, касіці і г. д. У суседніх вёсках гэтага не прыкмячалася. Зьлева ад вёскі ў 3-х вярстах ёсьць высокая гара Порзіца, з якой відаць Любань, Урэчча, Пасталы і інш. мясцовасьці.

У Рачэні прышлося начаваць. Спалі ў старшыні сельсавету, бацька якога памятуе Шыпку і Плеўну. Стары цікавіцца палітыкай і кітайскімі падзеямі. Моладзь, асабліва комсамольцы, празвалі яго „Гаміньданам". Гэты стары кажа, што ўся шкода для нас выходзіць ад „Англічанкі" і што яна будзе баламуціць, пакуль яе ня зьнішчаць.

19 ліпня з Рачэні накіраваліся на мястэчка Пагост. Прышлося праходзіць праз вёску Закальнае, якая знаходзіцца ў 3-х вярстах ад Рачэні. Звычаі ў людзей гэтае вёскі вельмі самабытныя. Так нам прыходзілася наглядаць, як жнуць жыта. На поле выяжджае ўся вёска і

кожны стараецца забраць да дому ўсё, што нажалі за дзень. Калі-ж гэтага не зрабіць, то праз ноч нічога ня знойдзеш (пакрадуць). Хто мае калёсы на жалезных восях, той сьпіць на іх, або ўцягвае іх у сенцы, бо ўсё роўна ўкрадуць. Ад іх пацярпелі і мы. Ня ўсьпела наша экскурсія аглядзецца, як з воза, сярод белага дня пры вялікім ліку людзей, былі ўкрадзены куртка і паліто. Прыкладам зьверства і разбойніцтва ў іх зьяўляецца той факт, што яны ў 1920 г. забілі свайго настаўніка Пратасэвіча, Вікенція, які выступаў у абарону Савецкай улады.

У вёсцы ёсьць школа, пабудаваная пры земстве. Мае 2 клясныя добрыя пакоі і дзьве добрыя кватэры. На дварэ цамэнтны калодзеж глыбінёю каля 12 саж. У школе мы засталі летнюю пляцоўку з 20 дзяцьмі. З Закальнага да Пагоста 15 вёрст. Дарога ідзе цераз Цясоўскія хутары па высокім суглiністым узгорку. Краявід тут ужо чыста Слуцкі. Лясоў няма. У Пагост прыбылі вечарам і застанавіліся ў школе, дзе настаўнік Ігнатовіч дапамог нам знайсьці памяшканьне.

20 ліпня не пасьпелі мы прачнуцца, як да нас зьявіліся сябры сельсавету для праверкі нашых докумэнтаў, ня гледзячы на тое, што ўсе ўдзельнікі экскурсіі былі вядомы пагосцкаму жыхарству. Знайшоўшы докумэнты ў парадку, яны саромліва ўсё-такі казалі, каб мы зайшлі ў сельсавет для налажэньня „візы“. Калі-ж сябра экскурсіі Пяцэвіч зьявіўся туды, то старшыня сельсавету, прачытаўшы ўсе докумэнты, зьвярнуўся да сядзеўшых абапал яго сяброў сельсавету з запытаньнем ці можна палажыць „візу“. І толькі атрымаўшы згоду іх, напісаў „яўлен 20 ліпня 1927 г.“ і прылажыў пячатку сельсавету. Легалізаваўшыся такім чынам, мы рашылі абгледзець як самае мястэчка, так і саўхоз Пагост. Самае мястэчка Пагост распалажана на рацэ Случы і мае выгляд звычайнага беларускага мястэчка, мае адну брукаваную вуліцу. У мястэчку ёсьць сямігодка, якая зьмяшчаецца ў двух каменных будынках: адно ў цэнтры для трох малодшых груп і другое вярсты дзьве ад мястэчка, у былым валасным праўленьні,— для старэйшых груп. Ёсьць коопэратыў. Апрача гэтых устаноў у мястэчку ёсьць больніца, школа-прымітыўка з выкладаньнем на яўрэйскай мове і нардом.

Саўхоз Пагост зьяўляецца прамысловым саўхозам, чым адрозьніваецца ад іншых, якія нам прышлося бачыць. У ім ёсьць паравы млын і адбудоўваецца вялізны бровар. Вядзецца сталая малочная гаспадарка, маецца сыраварня для вырабу галяндэрскіх сыраў. Ёсьць кузьні і іншыя майстэрні для рамонту сельска-гаспадарчых прылад. Садоўніцтва ў саўхозе ў заняпадзе, парк апушчаны. У парку знаходзіцца цікавы гатунак бярозы з выразнымі лістамі. Ёсьць адзічэлыя персікавыя і абрыкосавыя дрэвы, якія не даюць ніякіх пладоў.

Па дарозе з Пагосту ў Слуцак праходзілі праз вёску Пагост. Пры вёсцы з левага боку ёсьць цікавыя могілкі, пабудаваныя па курганох. Край могілак паўз дарогу значна раскапаны і размыты вадою. У прамоінах пападаюцца чалавечыя косьці і чарапкі ад гаршкоў, якія ў старадаўнія часы ўжываліся пры пахаваньні. Самая вёска нядаўна пагарэла, цяпер хаты там новыя і прыгожыя. Ёсьць цікавая разьба на вокнах і стрэхах. Палі ў вёсцы значна ўзвышаныя. На палёх сустракаюцца валуны і шмат чырвонай гліны. Сяляне сеюць шмат пшаніцы, якая тут добра родзіць.

Далей праходзілі праз вёскі Малы і Вялікі Быкаў. Вёскі бедныя, будоўля старажытная. Ёсьць клеці, у якіх столь зроблена з бярвеньняў і мае сводчатую форму. Цяпер такіх кляцей ня робяць. У Вялікім Быкаве будуецца школа, але праца ідзе так павольна, што цяжка сказаць, калі яна будзе скончана. Ад Быкава да сяла Цараўцаў на пра-

цягу 8 вёрст ідзе дарога па ўзвышанай раўніне. На палёх сустракаюцца невялічкія вазёры, якія зьяўляюцца месцам прытулку балотных птушак. Тут мы бачылі буслоў, жураўлёў, пігаліц і інш. У Цараўцы забраліся па заходзе сонца і мелі невялічкі адпачынак на школьным ганку. Частаваў хлебам і малаком настаўнік Караневіч. Вёску Цараўцы праяжджалі змрокам і зрабіць якія-небудзь досьледы ня мелі магчымасьці. Пры выезьдзе з Цараўцаў у напрамку на Кляпчаны праходзілі каля вялікіх курганоў у ліку 5-6 штук. Агледзець іх, а тым болей абмерыць іх, нельга было дзеля позьняга часу.

Выбраўшыся на старую дарогу каля вёскі Журава, па якой мы праяжджалі выходзячы на экскурсію, 20 ліпня а 12 гадзіне ў ночы дабраліся да Слуцку.

---

**І. Мацьвяёнак.**

# З гісторыі партызаншчыны на Магілеўшчыне.

I.

Сялянства Беларусі ў 1917-1918 г. г. стварыла адважныя і магутныя партызанскія атрады дзеля змаганьня супроць сваіх адвечных прыгнятацеляў-паноў. У гэтыя атрады (Чырвонай гвардыі) уступала галоўным чынам бядняцкая моладзь. Часьцей—напярэдадні надыходу белапалякаў на Савецкую бацькаўшчыну з вёскі ішла ў партызанскія атрады большасьць бядняцка-серадняцкай моладзі. А былі выпадкі бадай што пагалоўнага ўступленьня яе ў Чырвоныя атрады. У такіх вёсках сяляне-бацькі самі пасылалі сваіх сыноў запісвацца ў партызаны, і ўсімі сродкамі і магчымасьцямі дапамагалі ім матар'яльна і моральна.

Нямала такіх гэроічных вёсак стварыў на Беларусі Кастрычнік. Да іх ліку трэба аднесьці вёскі Нова-Быхаў і Лазаравічы (на Магілеўшчыне), якія Акрвыканком к дню дзесяцігодзьдзя Чырвонай арміі вызначыў як заслужыўшых нагароду. Уступіўшы бадай поўнасьцю ў Чырвоную гвардыю, яны пасьля склалі значную частку аднаго з найбольш гэроічных—152 стралковага палка, які прайшоў на польскім фронце ўсе этапы грамадзянскай вайны.

Партызанскі рух у Прыдняпроўі, па ўсім яго працягу, пачаўся з гэтых вёсак. Таму на гэтым варта спыніцца больш падрабязна.

У пачатку лютага 1918 г. польскія войскі Доўбар-Мусьніцкага, якія стаялі ў Быхаўшчыне, Рагачэўшчыне і Бабруйшчыне, аб'ядналіся пад Жлобінам і павялі наступ па лініі між чыгункай Рагачэў-Быхаў і Дняпром. Супроць цэлага корпусу чырвоныя змаглі выслаць пад Рагачэў толькі адзін латыскі полк, эскадрон кавалерыі, атрад Чырвонай гвардыі чалавек з 300, з якіх 200 чал. было матросаў, рэшткі нейкага Сібірскага (Сымбірскага?) палка, які праяжджаў праз Рагачэў з фронту ўглыб Расіі, і броняцягнік з 2-х вагонаў з байцамі-матросамі. Гэтых сіл было мала. І таму быхаўскія савецкія органы на чале з начальнікам Чырвонай абароны абвясьцілі ў павеце добраахвотны запіс у Чырвоную гвардыю.

На кожную вёску была вызначана орыентовачная лічба неабходных добраахвотнікаў. Чым кіраваліся пры ўстанаўленьні гэтай разьвёрсткі—невядома. Вядома толькі, што на кожную вёску дадзена была разьвёрстка „абраць" у Чырвоную гвардыю ад 1 да 10 чал.

Разьвёрстка гэтая і адозва аб ёй абгаварваліся на сельскіх сходах. У абсолютнай большасьці на гэта глядзелі як на закон, які па-

трабуе няўхільнага выкананьня. Таму вось у іх і „абіралі“ ў гвардыю, замест запісу добраахвотнікаў.

Але часьцей за ўсё на сходах адразу пасьля абвяшчэньня „папер з гораду“ запісвалася добраахвотна некаторая колькасьць людзей. Калі жадаючых ня было, сход ці адмаўляўся ад разгляду пытаньня (2-3 выпадкі ў раёне), ці формальна зразумеўшы адозву, абіраў вызначаную ў ёй колькасьць людзей, ня гледзячы на іхнія гады, матар'яльнае палажэньне, становішча здароўя і інш.

Ва ўсіх выпадках—і ў добраахвотным запісе і ў вызначэньні сходам быў надта важны недахоп. Запісваліся і запісвалі ў Чырвоную гвардыю, галоўным чынам, моладзь, якая яшчэ ня была ў войску і ня ўмела ўладаць зброяй, ці старых напоўінвалідаў. Гэроізму і самаахвяраваньня ў гэтым запісе не адчувалася зусім. Працягваць далей вайсковую службу былым салдатам не хацелася, ды і ня верылася ніяк, што прыдзецца яшчэ вайсковым парадкам абараняць рэволюцыю. Ішлі ў яе людзі зусім неваяўнічага характару, якія ніколі стрэльбы ў руках ня трымалі. Так з запісаўшыхся 6 чал. з м. Нова-Быхава—3 чал. мелі ад 45 да 55 г., 3 чал.—менш 18 год, і ніводзін з іх ніколі ў арміі ня быў.

Адсутнасьць у гэтую пару энтузыязму ў сялянства тлумачыцца яшчэ і іхнім няправільным разуменьнем задач Чырвонай гвардыі. У абсолютнай большасьці выпадкаў уяўлялі сабе апошнюю, як савецкую павятовую міліцыю, ці як „комэнданцкую каманду пры Савецкім воінскім начальніку“. Невядома адкуль узяліся такія думкі—але яны былі вельмі пашыраны. (Сам аўтар чуў такія погляды ў 2-х вёсках Быхаўшчыны).

Да сярэдзіны лютага 1918 г. у Быхаве сабралася чалавек 250-300 чырвонагвардзейцаў. Але-ж прадчуваньні сялян спраўдзіліся. Іх ня можна было, за выключэньнем некалькіх дзесяткаў чалавек, пасылаць на фронт. Яны запраўды сталі часткай—гарадзкімі міліцыянэрамі, часткай—гаспадарчай камандай штабу Чырвонай абароны (у будучым абоз быхаўскага партызанскага атраду), часткай—распушчаны дамоў.

Быхаўскі штаб прасіў дапамогі ад суседніх павятовых гарадоў (Магілева, Чэрыкава, Чавус). Але там была такая-ж гісторыя. Дапамогі на фронт пад Рагачэў дадзена ня было.

Вышэйпамянёныя часьці змагаліся з белапалякамі вельмі стойка і ўпарта. Але колькасьць перамагла. Увесь люты месяц ідуць бязупынныя бойкі на тэрыторыі між Рагачэвам і Тошчыцай. І ўрэшце здаюцца адна за аднэй (з бойкамі) вёскі Шчыбрын, Гадзілавічы, Званец. 25 лютага пачынаецца бойка на ст. Тошчыца.

Некалькі разоў станцыя пераходзіць з рук у рукі. Будынак вагзалу пабіты кулямі і снарадамі як рэшата. 27 лютага Тошчыца здана, і чырвоныя адступілі на в. Кашарычы з мэтай адтуль даць ворагу моцны адпор.

Здача Тошчыцы відавочна пацьвярджала вялізную небясьпеку. Гэта разумеў кожны. Станцыя была важным стратэгічным пунктам у барацьбе з белапалякамі і добра ўзмоцнена войскамі і ўдалай тактыкай абарончага разьмяшчэньня войск. З яе здачай быў адчынены для польскіх легіёнэраў шлях на Быхаў і далей. Вось з гэтага часу плоймы людзей—і моладзі і старых—паплылі ў чырвонагвардзейскія атрады.

Як ужо паміналася вышэй, цэнтрам партызанскага руху ў гэты час зрабіліся вёскі Нова-Быхаў і Лазаравічы. Знаходзяцца яны на беразе Дняпра, роўналежна ст. Тошчыцы. Бойка пад Тошчыцай яшчэ незалежна ад таго ці іншага яе выніку ставіла гэтыя вёскі пад непасрэдную пагрозу. Гэта прымушала дзейнічаць.

26 лютага ў вечары нова-быхаўская валасная ўправа атрымала з Быхава (ад штабу Чырвонай абароны) адозву, дзе каротка і выразна стаіць: „Таварышы! Вораг блізка! Ён хоча перашкодзіць спакойнай працы земляроба, ён імкнецца пазьдзеквацца над нашымі бацькамі, жонкамі, сёстрамі! Пішэцеся ў чырвоныя атрады абароны!“—і г. д.

Адозва зрабіла надзвычайнае ўражаньне. Ужо ў вечары-ж гэтага дня аб адозьве ведала ўся моладзь Н.-Быхава і нават суседніх Лазаравіч. Ноч для іх была бяссоннай. Назаўтра, 27 лютага, як толькі разьвіднела, па вуліцы Н.-Быхава ўсюды зьбіралася моладзь. Усхваляваныя твары, гарачыя вочы, трывожныя гутаркі. Па некалькі разоў чытаюць і перачытваюць расклееныя на будынку воласьці адозвы.

Унутры, у воласьці,—на „зборні“—поўна... З дыму махры ледзь відаць абрысы фігур і твараў... Пішуцца... За сталом матрос і... поп. Поп запісвае. Матрос выкрыквае потым у голас нумар і прозьвішча кожнага запісанага. Чым большы зачытваецца нумар, тым большае захапленьне прысутных.—№ 375. Мясцовы настаўнікі—матрос называе прозьвішча і з асаблівай гордасьцю дадае:

— Да нас і настаўнікі пішуцца!

Усяго з 2-х вёсак запісалася да 500 чал. На другі дзень у Быхаве яны абмундзіраваліся, узброіліся і атрымалі назву „1-я Нова-Быхаўская баявая рота“. З добраахвотнікаў усіх інш. вёсак стварылася 2-я рота. На чале ўсяго атраду быў комуніст Марозаў, Камандзір 1-й Нова-Быхаўскай баявой роты Нова-Быхаўскі-ж грамадзянін С. Дзергачоў (левы эс-эр). Разьбітыя на ўзводы роты рассыпаліся па вёсках былых Ст.-Быхаўскай і Чыгіранскай валасьцей для вартаўнічай (дазорнай) службы.

1 сакавіка палякі занялі в. Камарычы. Савецкі Быхаў, штабы, абоз перабіраліся за Дняпро. Сваечасова былі павадамлены ўсе дазорныя часткі, якія пашлі ўсьлед за імі. Быхаў быў заняты палякамі бяз ніводнага стрэлу. А ў тылу палякаў, у 15 вярстах ад Быхава, у в. Угон засталіся 2 ўзводы Нова-Быхаўскай баявой роты, якіх не пасьпелі папярэдзіць...

Толькі 2 сакавіка пачулі яны аб заняцьці Быхава. Паніка. Лаянка Кінулі тут-жа вінтоўкі. Пусьціліся бягом куды вочы глядзяць усьцяж па полі...

Але такіх мала. У большасьці расьце адвага. Небясьпека робіць энэргічнымі, сталёвымі. Зараз-жа і думка—з боем не праб'ёмся сваёй жменькай скрозь польскую навалу, так трэба прасьлізнуць за Дняпро, паціху, у пустым месцы. Быць гатовымі на выпадак чаго адбівацца ўсімі сіламі. Жывымі не здавацца...

Прынята... Яшчэ трошку агітуюць хістаючыхся найлепшыя гэроі, праявіўшыя сябе і ў будучых баёх.– І. Кармачоў, М. Полькін, Ф. Шылаў... Угаварылі.

Абгаварэньне адбылося на краю вёскі. Працягнулася хвілін 5. Яшчэ відаць ня так далёка па полі падбягаюць уцякаючыя. Угавораныя хапаюцца за вінтоўкі. 5-7 рулек наводзіцца на ўцякаючых.

— Братцы, ня трэба сваіх! Апамятайцеся!—крычыць той, што быў названы пры запісе „мясцовым настаўнікам“. Адгаварыў пры падтрыманьні іншых.

Атрадзіку ўдалася перабрацца за Дняпро. Польскі разьезд „пасеяў“ быў трошку ўдагонку з кулямёта, але нічога... не дастаў.

II.

За Дняпром быў рух і жыцьцё. Атрады арганізоўваліся з markнай колькасьці і якасьці. Усе ішлі на Рослаў, дзе і думалі канчаткова

аформіцца. Організаваных атрадаў, чалавек у 300 кожны, прайшло 6: 2 Магілеўскіх, 2 Чавускіх, 2 Быхаўскіх. Былі і маленькія атрады, якія часткай дайшлі да Рослава і там уліліся ў адзін з 7 організаваных атрадаў (7-ы зваўся Петраградзкім і запраўды меў у сабе ядро з ленінградзкіх рабочых). Большай-жа часткай такія атрадзікі да Рослава не дайшлі, туды і ня ішлі. Іх мэта была—парабаваць паноў, што яны і рабілі з даволі першабытнай дзікасьцю...

Вядомы хоць-бы такі прыклад. Уцёкшы з Угона атрадзік сустрэўся за Дняпром у аднэй вёсцы з атрадам чалавек у 120. Вельмі добра ўзброеныя, мелі бомбы і кулямёты. За імі ехаў даволі багаты абоз з хлебам, цукрам, консэрвамі і папяросамі. Камандзір атраду назваў свой атрад Вільчынскім (ёсьць такая вёска за Дняпром) і прапанаваў далучыцца да іх. З радасьцю далучыліся. У паўдня спыніліся ў аднэй вёсцы. Вільчынцы добра папалуднавалі з свайго абозу і нічога не далі быхаўцам, у якіх апрача вінтовак нічога ня было. Дарэмна ўгаварваў іх з іх-жа складу матрос пакарміць і быхаўцаў. Яго падняли на сьмех.

Папалуднаваўшы пайшлі далей. Спыніліся каля фальварку Галавенчыцы, дзе вільчынцы разграмілі ўсё, што было можна (фальварак быў яшчэ некрануты нікім), а быхаўцы і іхны матрос стаялі і глядзелі, бо адгаварыць ня было магчымасьці. Матрос-жа плакаў, што „людзі не разумеюць, чаго хоча рэволюцыя“.

З награбленага дабра вільчынцы троху харчоў далі і быхаўцам і свайму-ж матросу. Апошнія елі дадзенае з здавальненьнем. Але на ўсе ўгаворы пайсьці біць паноў яны не згадзіліся і той-жа ноччу атрад вільчынцаў нечакана ўцёк ад быхаўцаў.

Ёсьць і такія факты. Часта да атрадаў па дарозе далучаліся маленькія групы, чалавек у 5—10. Абвешаныя з ног да галавы бомбамі і рэвольвэрамі (бывалі выпадкі, што ў некаторых за поясам тарчала ў кабурах і бяз іх па 5 рэвольвэраў), яны з захапленьнем расказвалі ўсім жадаўшым слухаць аб „гэроічных“ учынках.

— Прышоў гэта я,—расказвае адзін з такіх, прыстаўшы да Быхаўскага атраду, — у фальварак (называе адзін з фальваркаў Чэрыкаўшчыны) і проста к пану... — Давай,—кажу,—грошы. Затросься ён, аддаў ключы мне ад камоду. А я—яму: „Станавіся на карачкі і паўзі ў дзьверы“. Стаў ён, папоўз. А я яму як улуплю ў патыліцу 6 куль адразу...“

Такія далучаліся да атрадаў ненадоўга—найбольш на 2 дні. Потым у ночы зьнікалі, а з імі, бывала, зьнікала 2-3 чалавекі з атраду.

Але гэткія тыпы ў атрады бадай што не варочаліся, а, нарабаваўшы ўсякага дабра, звычайна варочаліся дамоў. Тыя-ж, хто з іх выяўляўся ў Рославе як бандыт—заарыштоўваліся. Некаторыя, зьбегшы кары ў той час, былі выяўлены і пакараны сьмерцю ў 1920 г., як бандыт Пацёмкін, папулярны ў 1918 г. сваёй дзейнасьцю.

Ня дзіва, што такія „чырвонагвардзейцы“ наводзілі жах на насельніцтва. Таму і запраўдных чырвонаармейцаў сустракалі часам дрэнна. Так, прыкладам, пры праходзе атрадаў праз в. Вейну, жыхарства выносіла з хаты на вуліцу ўсякія харчы, абы,—як пасьля было высьветлена,—не заходзілі ў хату. У Яўрэйскай колёніі (каля Чавус) дарослае насяленьне ўсё разьбеглася. У Чэрыкаве рыхтавалася гарадзкая самаабарона не прапусьціць атрадаў праз горад, але перапалохаліся іх колькасьці. І трэба адзначыць—у гэтых асноўных атрадах ніколі ніводнага выпадку рабаваньня ня здарылася.

Сабраліся атрады ў Рослаў к 12 сакавіка. Некалькі дзён форміраваліся і 25 сакавіка былі разасланы па фронту. У Рославе толькі

застаўся „Штаб Камандуючага Магілеўскімі атрадамі Рослаўскай групы Заходняй Завесы“.

III.

Фронт „Рослаўскай групы“ працягваўся ад Копыся да Рагачэва па беразе Дняпра. Ён падзяляўся на 2 часткі—вучасткі Мсьціслаўскі і Чэрыкаўскі. У Мсьціславе і Чэрыкаве знаходзіліся штабы войск вучастку. Фронт між імі быў падзелены па лініі Быхаў—Ніканавічы—Прапойск (пазьней Званец-Прапойск). На Мсьціслаўскі вучастак і былі накіраваны атрады, сформаваныя ў Рославе.

1 і 2 Магілеўскія атрады з боем прайшлі лінію Масьціслаў-Шклоў і занялі тэрыторыю па Дняпры Копысь—Шклоў. 3 і 4 Чавускія атрады разьмясьціліся па Дняпры між Шкловам і Магілевам, 5 і 6 Быхаўскія між Магілевам і Быхавам.

Асабліва гэроічную барацьбу па ачышчэньні Задняпроўя ад ворагаў тэкінцаў і палякоў прышлося вытрымаць быхаўцам на вучастку Сухары—Асавец—Лупалава. У адным з такіх баёў (здаецца, пад Сухарамі) атрад, зьбіўшы з позыцыі тэкінцаў, каб дагнаць іх, разууўся (тады толькі што растаяў сьнег і ў ботах бегчы было немагчыма). Беглі за тэкінцамі вёрст 5 і... не дагналі, бо яны былі на конях.

На Чэрыкаўскім вучастку ўсё Задняпроўе было ачышчана ад ворагаў бадай што без баёў. Скончылася гэтая ачыстка артылерыйскім абстрэлам Нова-Быхава, дзе стаялі палякі, з-за Дняпра з в. Абідавіч. Пры гэтым, як перадавала тэлеграма з фронту ў Рослаўскі штаб, са званіцы быў зьбіты польскі кулямёт. Запраўды, як паказвае насяленьне, кулямёт зьбіты ня быў, а толькі палякі пакінулі акопы (каля царквы), паселі на коняй і выехалі ў канец мястэчка. Паводле слоў жыхарства, калі-б артылерыя чырвоных пастраляла яшчэ мінут 5, палякі выбраліся-б з Н.-Быхава.

З гэтага часу (14 красавіка) чырвонаармейцы ўжо выконвалі фактычна толькі пагранічную службу па Дняпры, не супакоіліся былі толькі яшчэ нейкі час быхаўцы і назалялі паляком. Так 6 Быхаўскі атрад (быўшая Н.-Быхаўская рота), падышоўшы адным узводам да Дняпроўскага маста ў ночы, даў з паўсотні залпаў, прычым камандзір (С. Дзергачоў) падаваў каманду—„батальён, плі!“. У гэты-ж час кідалі тут-жа ў воду бомбы. Ня толькі ў насельніцтва, але і ў палякоў склалася ўражаньне бомбардыроўкі гораду і наступленьня вялізнай масы войска. Цэлая дывізія (польская) выбралася з гораду і вярнулася назад толькі на трэці дзень.

Гэтым-жа атрадам праводзіліся вылазкі ў тыл палякоў за харчамі. Так, з фальв. Масток пераправілі за Дняпро да 70 панскіх кароў, тое-ж адбылося ў фальв. Сарочын. Пры дапамозе падпольнай Н.-Быхаўскай організацыі наладжана была надта гэроічная вылазка ў в. Лазаравічы, дзе паляком нанесены значныя страты. У іх забралі коні, забілі некаторых (хто не пасьпеў уцячы ў аднэй бялізьне ў суседні Н.-Быхаў).

З немцамі, якія занялі потым тэрыторыю Быхаўшчыны, перастрэлак, як і вылазак да іх, ня было.

У ліпні 1918 г. усе атрады (6) былага Мсьціслаўскага вучастку аформлены ў 5-ты Быхаўскі полк (камандаваньне атрадаў спэцыяльна хадайнічала аб такой яго назьве перад цэнтрам). У жніўні, калі ўжо аформілася поўнасьцю вайсковая сыстэма Савецкай Расіі, ён пераймянаваўся ў 152 стр. полк 17 дывізіі, атрады б. Чэрыкаўскага вучастку склалі 153 полк. Гэтыя 2 палкі пакінулі па сабе надта гэроічны сьлед, прайшоўшы ўсе этапы грамадзянскай вайны з белай Польшчай. Цьвёр-

дымі крокамі вымяралі яны ў баёх, адступаючы і наступаючы, багата разоў адлегласьць Гародня—Менск—Барысаў і назад. Толькі лік старых партызан Магілеўшчыны ў іх зьмяншаўся без канца. Так што, прыкладам, перад Варшаўскім наступленьнем усяго быхаўцаў у 152 палку было толькі чалавек 50. Загінулі некаторыя на франтох слаўнаю сьмерцю гэрояў рэволюцыянэраў (М. Каржоў з в. Камарычы, Быхаўскага р.), сталі інвалідамі (М. Пагодкін з м. Н.-Быхава), так ад розных хвароб і ран выбывалі з палка. І к канцу грамадзянскай вайны 152 і 153 палкі складаліся ўжо ў абсолютнай большасьці з мобілізаваных татар і чарамісаў.

IV.

Сваёй падпольнай рэволюцыйнай працай у часы панаваньня на правабярэжнай Магілеўшчыне палякоў і немцаў таксама з усяе Магілеўшчыны вызначаюцца Нова-Быхаў і Лазаравічы.

Таварышы, склаўшыя потым ядро падпольнай організацыі ў Н.-Быхаве ў часе заняцьця яго палякамі знаходзіліся ці ў арміі на франтох аўстрыяцкім і румынскім, ці на фабрыках і шахтах. Зьявіліся яны дамоў у пэрыод найбольшага абвайстрэньня зьдзекаў і паняверкі з боку палякоў і мясцовага насяленьня.

Нагледзеўшыся на ўсё гэта, моладзь Н.-Быхава стварыла сваю організацыю. Яна вывучала разьмяшчэньне польскіх войск, настрой насяленьня і польскіх салдат і перадавала гэтыя даведкі за Дняпро чырвоным. Віднейшыя дзеячы-падпольнікі: П. Дзергачоў (расстрэлены палякамі), К. Скобаў, С. Напрэенка, А. Тарасенка і інш. Была сувязь і з моладзьдзю інш. суседніх вёсак, як з Лазаравіч—Майсяйкоў, Лагун і г. д., з Замскай Слабады—Галіноўскі, з Віляхаўкі адзін хлапец, з Тайманава і інш. Рыхтавалася ўзброеньне на выпадак паўстаньня супроць палякоў. У в. Віляхаўцы захоўваўся кулямёт.

Здаровыя, зграбныя хлопцы кінуліся ў вочы паляком ў абязьлюдненым Н.-Быхаве. Сталі прычэпліваўцца без усялякай прычыны. Сустрэўшы, напр. аднаго з іх—К. Скобава—прымусілі яго „гусіным крокам“ пайсьці дамоў на даволі значную адлегласьць. Але злавіць іх не маглі. Выпытвалі аб іх ад старых сялян, але ніводзін не сказаў ні слова, хоць аб іхняй групе вельмі багата хто знаў. Урэшце, распытаўшыся ў суседніх вёсках, расстралялі П. Дзергачова „за партыйную прыналежнасьць“ і заарыштавалі К. Скобава. Яго таксама зьбіраліся забіць, але зьмяніў іхнюю пастанову нейкі прыежджы польскі начальнік. Астатнія хлопцы з організацыі, нават не пабаяўшыся помсты палякоў іхнім бацьком, паўцякалі за Дняпро.

У справе нарыхтаваньня сувязі між самімі падпольнікамі розных вёсак і падпольнікамі з чырвонымі значную ролю адыгралі жанчыны. Вядома, напрыклад, як выконваючы адно іх распараджэньне, гр-ка цёмнай веснавой ноччу хадзіла за 7 вёрст ад Быхава ў Віляхаўку. Яна-ж была перадатачным зьвяном між сялянствам і падпольнікамі. Яна-ж часьцей іншых жанчын, таксама зьвязаных з падпольнікамі, бывала патаемна і за Дняпром у чырвоных з весткамі ад організацыі.

Наогул жанчыны Н.-Быхава прынесьлі рэволюцыйнай справе вялікую карысьць. Н.-Быхаў і Лазаравічы ляжаць па адным беразеДняпра, а па другі бок яго ў в. Абідавічы стаяць чырвоныя. І вось жанчыны і дзяўчаты часта адпрашваюцца ў палякоў (пазьней у немцаў) перапраўіцца на той бок у луг „нарваць травы цялятам“. Іх часам, добра абшукаўшы (часьцей—проста „абшчупаўшы“) пускалі. А там у траве да іх падпаўзаў чырвонаармеец, якому яны і расказвалі ўсё, што ведалі.

Частка моладзі, галоўным чынам, жаніхі ці маладажоны, пайшлі ў Чырвоную армію з гэтых вёсак толькі паспрабаваўшы панскіх бізуноў. Усе яны ўступілі ў Рагачэўскі атрад, які стаяў у Абідавічах. І вось да іх маткі, жонкі і нявесты перабіраліся цераз Дняпро бадай што кожны дзень. І, зразумела, гаворачы з імі аб сваіх справах, таксама перадавалі чырвонаармейцам вельмі важныя зьвесткі.

Так змагалася за сваю зямлю і волю сялянства памянёных вёсак. Многа было такіх вёсак. Многа гэрояў стварыла на Беларусі эпоха грамадзянскай вайны. Працоўная Беларусь паўстала тады на крывавую барацьбу з сваімі адвечнымі ворагамі панамі, каб мець магчымасьць разам з іншымі працоўнымі СССР спакойна будаваць новае соцыялістычнае жыцьцё.

# Програмы, анкеты і інструкцыі.

## Програма для вывучэньня прадзеньня і ткацтва *).

### I.

Ніводнае з існуючых у БССР рамёстваў ня мае такога значнага пашырэньня, як прадзеньне і ткацтва. Іх можна сустрэць у кожнай сялянскай хаце. Амаль усё вясковае насельніцтва (асабліва па глухіх вёсках), носіць вопратку з матар'ялаў, якія зьяўляюцца продукцыяй свайго ўласнага прадзеньня і ткацтва. Наогул неабходна зазначыць, што гэтыя заняткі, як для сялянства, так і для гаспадаркі дзяржавы маюць вельмі вялікае значэньне, аднак-жа яны ў нас амаль зусім ня вывучаны. На Украіне і РСФСР гэтая галіна народнае гаспадаркі даўно ўжо зьяўляецца об'ектам дасьледваньня і вывучэньня. Вывучэньне прадзеньня і ткацтва дыктуецца ня толькі адзначанымі вышэй, альбо навукова-дасьледчымі мэтамі, але і інтарэсамі ўдасканаленьня тэхнікі вясковай вытворчасьці. Аб неабходнасьці такога ўдасканаленьня гаворыць тое, што прылады, якія ўжываюцца нашымі пральлямі і ткачыхамі, адзначаюцца прымітыўнасьцю, у працы захаваліся спосабы і прыёмы даўно забытых часоў.

З апісаньня прылад прадзеньня і ткацтва, а таксама і процэсаў працы на верацяне, самапрадцы, ставох мы і павінны пачаць свой досьлед і скончыць яго пытаньнямі экономікі. Выкананьне гэтага пляну можа адбыцца толькі ў тым выпадку, калі на гэтую працу адгукнуцца ўсе культурныя сілы мясцовага краю як настаўнікі, агрономы, коопэратары, мэдпрацаўнікі, музэйныя працаўнікі і нарэшце самі сяляне, увазе якіх у значнай меры і прызначаецца гэтая програма.

Максымум увагі павінен быць зьвернуты на апісаньне процэсаў прадзеньня і ткацтва, а таксама і на апісаньне прылад гэтага рамяства. Пажадана дадаваць па мажлівасьці малюнкі і зарысоўкі, хаця-б схэматычныя, прылад вытворчасьці, якія сустракаюцца ў данай мясцовасьці. Дзеля аблягчэньня працы ў сэнсе вывучэньня данага рамяства, дадаюцца ў програме малюнкі самапрадкі, ставоў і зарысоўкі тыповых тканін. Аднак карыстацца імі (рабіць на іх спасылкі, паказваць пад прыведзенымі лічбамі мясцовыя назвы (рэчаў і іх частак) пажадана толькі ў тым выпадку, калі яны маюць падабенства да мясцовых прылад прадзеньня і ткацтва. Прыведзеныя малюнкі бязумоўна ня вычэрп-

*) Програма зацьверджана Камісіяй па вывучэньні хатніх рамёстваў пры Інстытуце Беларускае Культуры.

ваюць усіх прылад данага рамяства, (лік апошніх досыць значны), але яны даюць мажлівасьць відавочна вызначаць якраз тыя часткі, якія маюць значэньне дзеля досьледу. Пры апісаньні і зарысоўках неабходна даваць памеры як саміх рэчаў, так і галоўных іх частак.

Мажліва, што ў час вывучэньня ўзьнікнуць новыя дадатковыя пытаньні, на іх таксама трэба даваць адказы. Такія пытаньні могуць выкрыць цікавыя асаблівасьці данага рамяства ў данай мясцовасьці і наогул шырэй высьвятляць гэтае пытаньне.

Вывучаючы экономіку гэтага рамяства, пажадана пачынаць з апісаньня палявых прац, зьвязаных з затратай часу на пасеў, догляд, уборку лёну і канапель і апісаньня падрыхтоўчых опэрацый да мачэньня, сланьня і г. д. і толькі пасьля гэтага перайсьці да вучоту часу, які затрачваецца на самае прадзеньне, тканьне і бяленьне палатна. Пры ўсіх выпадках патрэбна адзначаць звычайна час выкананьня работ, прыводзіць лічбы, якія-б адбівалі ў канцы канцоў затрачаны час на прыгатаваньне адзінкі палатна (аршыну, мэтру і інш.).

Пры апісаньні мясцовага прадзеньня і ткацтва, надзвычайна пажадана закрануць і бытавы бок гэтага рамяства. Кожнаму мясцоваму дасьледчыку можа зьявіцца шырокая мажлівасьць сабраць каштоўны апісальны матар'ял ад дзядоў і баб аб тым, як пралі і ткалі ў старыя гады, а таксама запісаць біографіі мясцовых, больш здатных, ткачоў і ткачых, дадаўшы, калі гэта мажліва, і фотографічныя здымкі і абавязкова запісаць паданьні, павер'і, прыкметы, пагаворкі, песьні, частушкі, казкі, якія зьвязаны з даным рамяством, альбо ў якіх яно адбіваецца, а разам з гэтым і абрады, напрыклад, пры навучаньні дзяўчат прадзеньню і г. д.

Сабраныя матар'ялы просьба прысылаць па адрасу: Менск, Рэволюцыйная, 21. Інстытут Беларускае Культуры—Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

Мал. 1.




Самапрадка (галанка.)

II.

**Агульныя веды.**

Назва вёскі, вурочышча і інш.

Адлегласьць ад адміністрацыйных цэнтраў (акругі, раёну, чыгуначнай станцыі, прыстані).

Галоўныя заняткі насельніцтва.

Якія промыслы пашыраны ў данай мясцовасьці.

Лік асоб, занятых прадзеньнем і ткацтвам.

Як даўно існуе данае рамяство.

Што прадуць: лён, пяньку, воўну і інш. Які з даных матар'ялаў больш ужываецца.

Увага. Усе мясцовыя назвы, як рэчаў, зьвязаных з прадзеньнем і ткацтвам, так і самых процэсаў, неабходна пісаць так, як іх вымаўляюць мясцовыя жыхары, прычым неабходна ў гэтых словах адзначаць націск.

III.

## Тэхніка і прылады прадзеньня і снаваньня.

Апішэце, мочаць ці сьцелюць лён і якія наконт гэтага існуюць тлумачэньні, як пазнаюць ці ў меру вылежаў, або вымак лён.

Адзначце, дзе сушаць і труць лён, а таксама ў якую пару.

Пры дапамозе якіх прылад труць лён. Апішэце ўсе віды церніц і іншых прылад, якія ўжываюцца ў вашай мясцовасьці для адлучэньня валакна ад кастрыцы.

Пералічэце ўсе адзінкі меры валакна (ручайка, кукла, павесма, дзесятак і інш.) і апішэце іх (дзьве жмені складаюць ручайку, 30 ручаек—куклу, 10 кукал—дзесятак і г. д.).

Апішэце парадак і тэхніку апрацоўкі валакна (трапаньне, драньне, часаньне, кудзеленьне) таксама і прылады, якія пры гэтым ужываюцца.

Дайце апісаньне гатункаў валакна, якія атрымоўваюцца ў выніку апрацоўкі яго (радно, галоўкі, атрэп'е, зрэб'е, пачасьсе, кужаль і інш.).

Назавеце і апішэце спосабы прадзеньня і прылады, якімі прадуць у вашай мясцовасьці. Пры апісаньні прылад неабходна паказаць назвы і памеры ўсіх іхніх частак. Пажадана прасачыць, які тып самапрадкі ўжываецца ў вашай мясцовасьці. Малюнак № 1.

Апішэце спосабы высушваньня пражы (адкідзіч, пачынак, матавіла і інш.). Пакажэце, як адбываецца перамотка пражы. Як потым пража захоўваецца да моманту снаваньня.

Па мажлівасьці апішэце спосабы снаваньня ў вашай мясцовасьці на сьцяну, на сноўкі і інш., а таксама і прылады, якія ўжываюцца пры снаваньні. Паступова, з моманту падрыхтоўкі пражы і ўстаноўкі прылад снаваньня, апішэце процэс снаваньня.

Адзначце, што робіцца для ўтварэньня будучага зева.

Апішэце процэсы, пры дапамозе якіх стараюцца зрабіць нітку больш гладкай і моцнай (апарваньне ў лугу, у адвару семя, выбіваньне кросен, высушваньне, захоўваньне іх да моманту навіваньня). Спынецеся на спосабах падрыхтоўкі лугу, адвару. Адзначце з якога дрэва бяруць попел для падрыхтоўкі лугу. Апішэце пасуду, у якой адбываюцца азначаныя процэсы (жлукта, цэбар і інш.).

IV.

## Прылады і тэхніка тканьня і бяленьня.

Апішэце падрабязна процэс навіваньня з адзначэньнем прылад, якія пры гэтым ужываюцца.

Дайце поўнае апісаньне ўсіх прылад тканьня, якія пашыраны ў вашай мясцовасьці з паказаньнем мясцовых назваў як саміх прылад, так і іх частак: ставоў, сошак, прылад для тканьня падвойнага палатна і сукна; прылад для тканьня паясоў. 1—навояў, 2—нітоў, 3—бёрдаў, 4—чапёлак, 5—набілак (набіліц), 6—чаўнакоў, 7—панажоў, 8—нацягіча, 9—дошчачак, 10—пругоў, 11—цэвак, 12—сукала і г. д.

У в а г а. У тым выпадку, калі бывае мажліва дадаць малюнкі розных прылад хоць-бы ў галоўных контурных рысах, дык гэта зьявілася-б найлепшым паказчыкам. Калі-ж немажліва самому зрабіць малюнак, дык просьба спасылацца на прыведзеныя ў програме малюнкі, калі яны падыходзяць да мясцовых ткацкіх прылад.

Калі ў вашай мясцовасьці сустракаецца некалькі тыпаў ткацкіх ставоў, дык неабходна адзначыць, чым яны адрозьніваюцца адзін ад другога; каторы з іх зьяўляецца самым старым, каторы сярэднім і ка-

торы навейшым. Неабходна адзначыць, якi з iх найбольш пашыраны сярод мясцовага насельнiцтва; з якога часу зьявiўся больш удасканалены тып ставоў. Малюнак № 2. Падрабязна апiшэце процэс настрайваньня кросен (кiданьне кросен у нiты i бёрда, замацаваньне канцоў нiтак, умацаваньне чапёлак, нiтоў, набiлак, парадніка, панажоў і інш).

Увага. Пажадана кожны раз вызначаць лiк патрачанага часу на процэс падрыхтоўкi кросен да тканьня.

Дайце поўнае апiсаньне процэсу тканьня: а) утварэньне зева, б) праца рук (пракiдваньне чаўнака i прыбiваньне ўточных нiтак бёр-

Мал. 2.



Ставы звычайныя

дам i набiлкамi), в) праца ног (кiраваньне нiтамi), г) ужываньне пругоў, д) спусканьне утку з задняга навою i навiваньне палатна, е) спосаб замацаваньня навояў.

Увага: Пры апiсаньнi процэсу тканьня неабходна вельмi падрабязна адзначаць функцыi асобных дробных частак, напрыклад: панажоў, нiтоў, набiлак, сабачак, блёкаў i iнш.

Пакажэце, як канчаецца процэс тканьня i як вымаецца палатно. Дзе яно захоўваецца да часу бяленьня.

Апiшэце мясцовыя спосабы бяленьня палатна i нiтак. Цi не вядомы мясцоваму насельнiцтву iншыя спосабы бяленьня.

Апiшэце, у якiм выглядзе ўжываецца палатно (беленае, фарбаванае).

Апiшэце падрабязна спосабы фарбаваньня: а) пры дапамозе мучана, iржы, б) альховай кары i iнш.

V.

## Мастацтва і быт у ткацтве.

Апішэце, якія існуюць у вашай мясцовасьці тыпы тканін (простая тканіна—малюнак № 3, тканіна ў рады—малюнак № 4, узорная тканіна, тканіна пупламі,ператыканьні—малюнак № 5 і інш.

Адзначце гатункі кожнага тыпу тканін з паказаньнем спосабу перапляценьня нітак (глядзі ўзорныя зарысоўкі).

Апішэце ўсе тэхнічныя спосабы, якія ўжываюцца для атрыманьня розных тыпаў і гатункаў тканін.

Лік нітоў і іх уплыў на дэсань.

Тэхнічна-мастацкія ўдасканаленьні, прыдуманыя самімі ткачамі.

Апішэце найбольш тыповыя і найбольш пашыраныя ўзоры тка-

Мал. 3.




нін у вашай мясцовасьці (па мажлівасьці прасачэце, адкуль пападаюць узоры ў вашу мясцовасьць, альбо хто іх прыдумвае).

Орнамэнт узораў (геомэтрычныя формы, лісты, кветкі і інш.).

Колер узораў, (якія найчасьцей сустракаюцца колеры і іх комбінацыі).

Па мажлівасьці апішэце ўсе аздабленьні, якія сустракаюцца на прыладах ткацтва і прадзеньня (прасьніцах, самапрадках, верацёнах, ставох, набілках і інш.).

Апішэце, якія ёсьць пра ткацтва ў мясцовага насельніцтва паданьні, павер'і, прыкметы, пагаворкі, песьні, казкі, частушкі, абрады і інш. Народны эпос у галіне ткацтва мае вялікае пашырэньне. У ім знайшоў адбітак амаль што кожны нават нязначны процэс прадзеньня і ткацтва, дзеля чаго пажадана сабраць усё, што яшчэ захавалася аб гэтым да нашых дзён. Разам з гэтым адзначце ўмовы, пры якіх адбываецца трэньне і прадзеньне лёну (талака, попрадкі, вячоркі, досьвіткі).

Адзначце ролю сумеснай працы ў жыцьці насельніцтва.

VI.

## Экономіка прадзеньня і ткацтва.

Адзначце, на якіх мясцовасьцях (раўніна, каля лесу, возера, ракі, балота, на дзірванох, у папары і інш.) сеюць лён і каноплі, на якой глебе. Якое месца даныя расьліны займаюць у севазвароце.

Пакажэце прыблізна, якая плошча зямлі апрацоўваецца пад лён бедняком, серадняком і заможным селянінам, а таксама колькі на гэтую працу затрачваецца часу, насеньня.

Увага. Плошчу неабходна паказваць у гэктарах. Пры вызначэньні лічбы неабходна браць сярэднія па социяльных групах.

Пакажэце час раньняй і позьняй сяўбы лёну, а таксама і валавую прыбытковасьць пры сярэднім ураджаі з гэктара. (Гэктар= 0,92 дзесяц.).

Колькі часу траціцца (лік працоўных дзён) на догляд за ростам лёну (полка), на рваньне лёну, абіваньне, мачэньне, сланьне, на адлучэньне валакна ад кастрыцы, трапаньне, драньне і часаньне лёну і канапель.

Мал. 4.



Чатырохнітнак тканіна ў радзе.

Пакажэце прыбытковасьць ад сяўбы лёну. Адзначце, у які час (месяц) пачынаюць прасьці кудзелю і калі канчаюць. У якія дні і перад якімі сьвятамі не прадуць. У якім узросьце пачынаюць навучаць прадзеньню.

Які ўдзел у працы прымаюць жанчыны, мужчыны і падросткі.

Вылічце даўжыню працоўнага дня пральлі (досьветкі, у дзень, у вечары).

Пакажэце, якія іншыя працы адрываюць пральлю ад прадзеньня.

Колькі напрадае (фунтаў, пасмаў, губак і інш.) адна пральля ў працягу сутак (льняной, пяньковай, воўны) і чым: самапрадкаю ці верацяном.

Увага: Неабходна адзначыць і іншыя адзінкі меры прадзева, калі такія ўжываюцца ў вашай мясцовасьці з поўным іх апісаньнем.

Колькі напрадае адна пральля ў працягу зімы,—ільняных нітак, пяньковых і воўны.

Вывучце продукцыйнасьць пральляў.

Адзначце, ці практыкуецца наём рабочых і здача на прадзеньне валакна.

Дасьледуйце, ці прадзе мясцовае насельніцтва на сябе, ці на продаж. Якія існуюць цэны на прадзева, куды і каму яно збываецца? Калі ёсьць скупшчыкі, дык падрабязна апішэце, якім парадкам адбываецца скупка.

Пакажэце ў мясцовых назвах (пасма, матавіла, фунты), які лік прадзева падрыхтоўваецца да моманту снаваньня. Колькі з яе ідзе на аснову і колькі на ўток.

Падлічэце агульны лік васьмігадзінных працоўных дзён за ўвесь час з моманту прадзеньня і да моманту кіданьня.

Адзначце, ці кожная гаспадарка мае ўласныя ставы. Калі не, дык пакажэце, на якіх умовах карыстаюцца чужымі ставамі.

Апішэце, адкуль здабываюць самапрадкі, верацёны, ставы і іншыя дробныя прылады ткацтва. Пакажэца іх кошт паасобку і кошт усіх прылад ткацтва разам. Пакажэце тэрмін іх службы.

Калі пачынаюць ткаць і калі канчаюць.

Вылічце, колькі выходзіць часу на выраб аднаго мэтра палатна, сукна, паўсукна. Які лік мэтраў ільлянага, пяньковага палатна і сукна вытыкае для ўласнага ўжытку сярэдняя сялянская сьм'я ў 5 душ і за які час.

Пакажэце, якія цэны існуюць на палатно мясцовага вырабу. Параўнайце цэны сучаснага часу з цэнамі 1915, 1920, 1925 г. г.

Прывядзеце ўсе мясцныя адзінак палатна, даўжыню іх, а таксама дайце шырыню мясцовага палатна.

Мал. 5.



Пературыканьне.

Адзначце—вырабляецца палатно для ўласнага ўжытку ці на продаж. Пакажэце, куды і каму яно прадаецца і які прыблізна °/о прадаецца.

Ці існуюць у вашай мясцовасьці скупшчыкі палатна. Адзначце іх ролю.

Ці не займаюцца ткацтвам арцелямі. Лік членаў арцелі, на якіх умовах прымаюць у арцель. Як прызначаюцца кіраўнікі арцелі. Як разьмяркоўваецца праца і прыбытак у арцелі. Чые ў іх ткацкія прылады.

Апішэце падрабязна, як ідзе разьвіцьцё ткацтва ў вашай мясцовасьці. Калі гэта рамяство занепадае, дык дзеля якіх прычын. Якія, на ваш погляд, патрэбны мерапрыемствы, каб дапамагчы разьвіцьцю ткацтва.

Высьветліць мажлівасьці мэханізацыі гэтага рамяства.

Прасачэце, на які капітал, у прыватнасьці ў арцелях, (уласны, дзяржаўны, паявы, прыватны і інш.) організуецца прадзеньне і ткацтва.

Рынкі збыту продуктаў льнаводзтва і ткацтва.

Прыбытковасьць гэтага рамяства, калі яно не дае прыбытку, дык чаму існуе.

Дайце наогул вашы меркаваньні наконт данага рамяства.

*Сакратар Камісіі па вывучэньні хатніх рамёстваў*

*Рыгор Рак.*

# ХРОНІКА.

## Што атрымала ЦБК у лютым і ў сакавіку месяцах.

Ад *П. Самцэвіча* (в. Унтальлянка, Барыс. р. 355 розн. нар. песень, 120 вясельных песень, 137 прыпевак, 20 замоў, 11 пагаворак і апісаньне хрэсьбін. Дакладна запісаныя цікавыя новыя матар'ялы.

Ад *М. Караленка* (в. Мокрае, Быхаўск. р.) вусная народная творчасьць в. Мокрага, вялікі сшытак на 114 стар. Старанныя дакладны запіс.

Ад *Мазырскага Акр. Т-ва Кр-ва*—сшытак № 12 з запісамі народн. творчасьці Мазыршчыны і Гомельшчыны. Сыстэматычны запіс.

Ад *А. Немцава* (Асіпавіцкі р.)—песьні, казкі, загадкі і інш. фолькл. матар'ял на 7 стар.

Ад *Краязн. гуртка Рагачэўскага Пэдтэхнікуму*—прыпевак 280, замоў 12, народных прымет 46, апісаньне 30 лекав. расьлін, народных песень 154 і тры апісаньні вясельля—на 101 старонцы.

Ад *гр. Бразоўскага* (Пухав. р.)—розныя народныя песьні на 20 стар.

Ад *гр. А. Бабіцкага* (Смаляв. р.)—песьні і казкі—на 9 стар.

Ад *гр. Вандзілы* (Межынск. р.)—запісы паданьняў на 5 стар.

Ад *Горацкага р. т. кр.*—народн. песень—35, і народныя рэцэпты ад яшчура—на 20 стар.

Ад *гр. Яфімца М.* (Астр. Гарад. р.)—10 хрэсьбінных песень.

Ад *гр. Казакова* (Дрыбінскі р.)—25 вясельных песень.

Ад *Уладзімірава* (г. Барысаў)—артыкул „Мэдыка-санітарны стан г. Барысава за апошні час".

Ад *М. Грынблята* (Ленінград)—артыкул „Матар'ялы да вывучэньня пастушаства Тураўшчыны".

Ад *Мікіціна* (Клічаўск. р.)—арт. „Вывучэньне вадахрыснага кірмашу ў м. Клічаве".

Ад *Мацьвяёнка* (Магілеў) артыкул—„З гісторыі партызаншчыны на Магілеўшчыне".

Ад *В. Самцэвіча* (Барысаў)—арт. „Краязнаўства ў працы профсаюзных арганізацый".

Ад *К. Швэдкі* (студ. Горацк. Акад.)—арт. „Яшчэ аб баброх у Дрыбінск. р.".

Ад *М. Лур'е* (г. Віцебск)—арт. „Экономіка Віцебск. акр.".

Ад *М. Сьмірнова* (Ленінград) арт. „Яшчэ пра біоклімат Беларусі".

Ад *Захар'іна* (Менск)—арт. „Апякунскае права ў XVI ст."

Ад *Андрэева* (Менск)—арт. „Санітарны стан х. Рамшыня Віц. акр."

Ад *Я. Цэхановіча* (Менск)—арт. „Да пытаньня аб навукова-археолёг. экспэдыцыях у краязн. працы".

Ад *В. Марыновіча* (Віцебск)—арт. „Зімовае жыцьцё вялікага стракатага дзятла ў Віцебшчыне".

Ад *16 розных мэтэоролёгічных пунктаў*—49 блянкаў мэтэор. нагляданьняў.

Ад *розн. фэнолёгічных пунктаў*—5 нагляданьняў.

Ад *розн. раён. т.*—5 запоўн. гідролёгічн. ведам.

На выстаўку краязнаўчых фотографій і зарысовак:

Ад *І. Фурмана* (Віцебск)—19 табліц каляровых зарысовак латыскіх народных орнамэнтаў на Віцебшчыне.

Ад фот. *З. Фурмана* (м. Ушач)—6 фотограф. здымкаў краявідаў і тыпаў.

Ад *Ляднянскага р. т.*—12 фотогр. здымк. з раённай выстаўкі.

Ад *Горацкага р. т.* кр.—10 фот. здым. прыроды і інш. экспо атаў.

## Краязнаўчая праца Яўрэйскага Сэктару Інбелкультуры.

Вышаў з друку том 2-3 навуковага зборніка Яўрэйскага Сэктару Інбелкультуры—„Цайтшрыфт". У зборніку зьмешчана шмат прац і матар'ялаў у галіне гісторыі, экономікі, літаратуры, мовазнаўства і этнографіі—да 85 друк. аркушоў. З прац краязнаўчага характару, якія тычацца яўрэйскай насельнасьці Беларусі, трэба адзначыць: проф. І. Сосіса—

„Яўрэйскі сойм у Літве на грунце яго протоколаў“; І. Угорскі—„Яўрэйская землеробства ў БССР“; А. Каз—„Яўрэйскія колектыўныя гаспадаркі ў БССР“; Г. Аляксандраў—„Яўрэйскае насельніцтва ў гарадох і мястэчках Беларусі“; Д. Эйнгорн—„Яўрэйская рабочая моладзь у БССР“. Апрача закончаных прац у зборніку апублікавана шмат архіўнага матар'ялу па гісторыі яўрэяў Беларусі (П. Кон, С. Ромбах, Г. Аляксандраў), па дыялектолёгіі (М. Вэйнгер), па этнографіі і фольклёры (з колекцыі Храпкоўскага, Купэршмідта, Ангяловіча) і інш.

Студэнт Ленінградзкага Географічнага Інстытуту І. Пульнер зрабіў абсьледваньне яўрэйскай коленіі Завярэжжа (Магіл. акр.) і вёскі Навасёлкі. І. Пульнер сабраў шмат матар'ялаў па народнай творчасьці і народнай мэдыцыне. Паміж іншым, дзякуючы географічнай блізкасьці паказаных мясцовасьцяй з розным нацыянальным складам, заўважваецца ўзаемны ўплыў абедзьвюх культур у мове і г. д. Яўрэйскі Сэктар ІБК пачаў перагаворы з Географічным Інстытутам аб магчымасьці выкарыстоўваньня гэтых матар'ялаў.

Этнографічная камісія Яўрэйскага Сэктару за апошні час наладзіла пастаянную сувязь з вялікай сеткай корэспондэнтаў (да 50) і атрымлівае ад апошніх шмат матар'ялаў, галоўным чынам па народнай творчасьці. Самым энэргічным зьбіральнікам выдаюцца прэміі—выданьні Яўсэктару Інбелкульту. Трэба адзначыць працу т.т. Бэрына (Гомель), Ангяловіча (Менск) і інш., якія сабралі значную колькасьць матар'ялаў па фольклёры, якія адносяцца да пасьлярэволюцыйнага пэрыоду.

У Яўрэйскай сэкцыі пры Краязнаўчым т-ве БДУ мае быць прачытаны ў хуткім часе шэраг дакладаў па гісторыі і экономіцы яўрэйскай насельнасьці БССР. Намечаны даклады т.т. М. Рэйнгольда (Аб рэкрутчыне), Залескага (з гісторыі яўрэйскага землеробства ў БССР) і інш.

## Віцебская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя.

9—11 лютага 1928 году адбылася IV Віцебская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя. У працы яе прымала ўдзел 65 дэлегатаў, з якіх было 22 з раёнаў, 1 з Воршы, 1 з Полацку, 1 з Менску і рэшта з Віцебску. Весткі аб сабе мандатнай камісіі далі 55 дэлегатаў, якіх было: 50 мужчын і 5 жанчын; 5 узростам да 18 год, 13—ад 18 да 30 год і 37—вышэй 30 год; 7 з ніжэйшай асьветай, 24—з сярэдняй і 24 з вышэйшай; настаўнікаў 35 і інш. профэсій—20; краязнаўцаў з пяцігадовым стажам—11; маюць свае працы—20, вывучаюць сваю мясцовасьць усебакова—25.

Апрача дэлегатаў, у працы конфэрэнцыі прымалі ўдзел госьці. Агулам на паседжаньнях прысутнічала ад 45 да 200 чал.

Першым быў заслуханы даклад М. І. Касьпяровіча аб краязнаўстве за граніцай, які выклікаў шмат запытаньняў і вялікую зацікаўленасьць да форм краязнаўчай працы за межамі. Пасьля дакладу выступаў хор акруговага таварыства краязнаўства пад кіраўніцтвам Анцава. Культурная гармонізацыя народных песень, сольныя выступленьні і ўдалае выкананьне ўсяго хору былі запраўднаю культурнаю асалодаю для прысутных. Хор заснаваўся ў траўні 1927 г., і гэта было яго трэцяе публічнае выступленьне. Праца хору зьяўляецца пачэснаю ганароваю дзейнасьцю членаў—хорыстых мясцовага таварыства краязнаўства.

Першым дакладам на другі дзень абмяркоўвалася:

### Організацыя вывучэньня раёну.

*(М. І. Касьпяровіча).*

Організаваньне ўсебаковага вывучэньня раёну належыць раённаму таварыству краязнаўства, якое плянуе ўсю краязнаўчую працу паасобных краязнаўцаў і гурткоў краязнаўства з організацыяй раённага цэнтру. Пляніраваньне ўсёй краязнаўчай працы на тэрыторыі раёну адбываецца на падставе падліку краязнаўчых сіл, устаноў і організацый, об'ектаў дасьледваньня, літаратуры аб мясцовым краі і матар'яльных магчымасьцяй. Вышэйпамянёны падлік павінен стаяць першым пунктам таго, што павінна зрабіць раённае таварыства краязнаўства ў справе вывучэньня раёну. Але пералік таго, што трэба зрабіць, ні ў якім разе не зьяўляецца плянам працы. Такім можа быць толькі разьмеркаваньне магчымай для выкананьня працы ў двох кірунках прастору (гурткоў на раёне і організацыі раённага цэнтру) і часу (гадавы, пяцігадовы плян). Паколькі краязнаўцы яшчэ не дасканала падрыхтаваны і паколькі немагчыма на сучасным узроўні дасьледванасьці раёнаў пачынаць усебаковае апісаньне раёну і прытым вялікім лікам працаўнікоў, пастолькі пляніраваньне зьбіральніцка-дасьледчай працы павінна быць тэматычным і пераважна з галіны сучаснасьці. Плянавы цэнтр раённай краязнаўчай працы—праўленьне раённага таварыства краязнаўства, грунтуючыся на аснове вышэйсказанага павінна з „Пляну працы раённага таварыства краязнаўства“ („Наш Край“ № 11, Менск, 1927, ст. 34) і рэкомэндаваных акруговым таварыствам краязнаўства і Цэнтральным Бюро Краязнаўства бягучых прац па вывучэньні раёну выбраць той мінімум пытаньняў і прац, якія могуць быць выкананы на працягу году. Вельмі карысна ўкласьці такі сьпіс пытаньняў на пяць год; гэта дасьць пэрспэктыву працы ў раёне. Такім мінімумам для раёну, дзе ёсьць доктар, статыстык, агроном, тэхнік, пошта, суд, хаты-чытальні (3), сямігодка (200 вучняў), коопэратывы—сельска-гаспадарчыя і спажывецкія (2), саюз паляўнічых, профсаюзы, пачатковыя школы (50,2000 вучняў), гурткі краязнаўства (3), краязнаўцы (100) і г. д., можа быць:

I.

а) выданьне 6 сшыткаў рукапіснага краязнаўчага часопісу і зьмяшчэньне ў друку 2 інформацый аб працы; б) правядзеньне I раённай краязнаўчай конфэрэнцыі і 5 сходаў організацыі раённага цэнтру; гурткі зьбіраюцца па сваім пляне; в) чытаньне 5 популярызацыйных дакладаў і 5 дакладаў для сувязі з організацыямі і ўстановамі; г) організаваньне 4 краязнаўчых вечарын; д) організаваньне музэю (шматгадовая праца); е) організаваньне 2 экскурсій па раёну і 1 за межы раёну (дальняй), э) організаваньне I выстаўкі.

II.

ё) чытаньне 4 інструкцыйных дакладаў для груп, якія выконваюць працу колектыўна.

III.

ж) укладаньне бібліографіі раёну і колекцыі выразак з газэт на тэмы аб раёне (сталая праца); з) мэтэоролёгічныя нагляданьні ў 1 пункце; і) фэнолёгічныя нагляданьні ў 2 пунктах; й) сьнегамерныя, дажджамерныя і гідролёгічныя нагляданьні ў 2 пунктах; к) запаўненьне 2 экз. 2 вялікіх програм аб асаблівасьцях мовы і інш. і 10 экз. 2 анкет (аб помніках і інш.); л) зьбіраньне 100 экспонатаў для музэю; м) зьбіраньне матар'ялаў для слоўніка мовы (2-гадовая праца) і географічнага слоўніка (2-гадовая праца) раёну; н) абсьледваньне раённага базару, о) напісаньне 12 пісьмовых дакладаў на розныя тэмы, якімі могуць быць: мэдычна-санітарнае апісаньне вёскі, або мястэчка ці раёну (доктар); чаму вучыць нас мінулая сельска-гаспадарчая выстаўка і сельска-гаспадарчая дасьледчая праца ў раёне (агроном); якія газэты і часопісы выпісваліся нашым раёнам на працягу мінулага году (паштар); цэны ў нашым раёне на працягу мінулага году (статыстык); сельска-гаспадарчая коопэрацыя ў нашым раёне (коопэратар); спажывецкая коопэрацыя ў нашым раёне (коопэратар); няпісьменасьць у нашым раёне за апошнія 5 год (ліквідатар няпісьменнасьці); злачынствы ў нашым раёне на працягу мінулага году па матар'ялах нарсуда (судзьдзя); пастановы раённых зьездаў саветаў за апошнія 5 год і значэньне іх у справе разьвіцьця раёну (адміністратар); апісаньне будынкаў вёскі або мястэчка ці раёну (тэхнік); грамадзкія організацыі нашага раёну і іх праца на працягу мінулага году (хатнік); піонэр. рух у раёне на працягу мінулага году (райорганізатар) і д. т. п.

Гэты мінімум не зьяўляецца ні прыкладным, ні ўзорным; ён прыведзены для паясьненьня думкі аб яго патрэбе і зьмесьце. Запраўдны мінімум можа быць укладзены толькі ў раёне, дзе конкрэтна вядомы пералічаныя вышэй умовы і жаданьні саміх краязнаўцаў, бо краязнаўчая праца цалкам дабравольная. Абраны мінімум павінен быць разьмеркаваны па тэрыторыі раёну (нагляданьні, зьбіраньне і інш.) і на працягу году ў каляндарным парадку (сходы, даклады, атрыманьне матар'ялаў і інш.). Трэба дамагацца, каб тое, што намечана, абавязкова выконвалася; у праціўным выпадку лепш не вызначаць працы, якая ня можа быць выканана. Апрацаваны такім парадкам плян не павінен мяняцца на працягу году. Дадатковыя пункты могуць уносіцца ў плян толькі тады, калі ёсьць упэўненасьць, што і новая праца будзе выканана. Каб мець магчымасьць кіраваць працай і дабіцца выкананьня пляну, праўленьне павінна зьбірацца на паседжаньні разы 2 у месяц, для чаго трэба мець свой каляндарны плян працы праўленьня.

Пасьля спрэчак былі зацьверджаны тэзісы дакладу для кіраўніцтва.

Чарговым дакладам абмяркоўвалася:

### Краязнаўства ў школе.

*(Аўхімень).*

Наша сучаснае савецкае краязнаўства павінна быць прыстасавана да патрэб жыцьця, а таму ў цэнтры краязнаўчай працы трэба ставіць чарговыя пытаньні гаспадарчага будаўніцтва. Краязнаўчай працы ад школы вымушаюць патрабаваньні пэдагогікі, сучасная школьная програма, неабходнасьць увязкі школы з жыцьцём, з грамадзкай карыснай працай, патрэба актыўна ўдзельнічаць у будаўніцтве соцыялізму. Навука таксама чакае ад школы і настаўніцтва краязнаўчых фактаў у масавым маштабе. Належна пастаўленае школьнае краязнаўства многа дасьць: а) для выхаваньня і адукацыі, б) для навакольнай грамады, в) для савецкага соцыялістычнага будаўніцтва, г) для навукі і д) паслужыць грунтам для ўтварэньня ў моладзі правільнай ідэолёгіі. Сучаснае краязнаўства павінна мець сваёй галоўнаю мэтаю вывучэньне вытворчых сіл раёну, не адкідаючы, аднак, і культурна-гістарычнага пазнаньня яго. Краязнаўчае дасьледваньне не абмяжоўваецца апісаньнем сучасных фактаў, а выяўляе прычыннасьць зьяў, іх зьмены і пэрспэктывы далейшага разьвіцьця, а таму трэба вывучаць факты ў іх сувязі ўзаемадзейнасьці і дынаміцы. Неабходна органічная ўвязка вытворчага краязнаўчага пляну працы з агульнаадукацыйнымі задачамі школы і матар'ялам. Краязнаўчая праца ў школе павінна быць сыстэматычнай, пераемнаю з году ў год, а не эпізодычнай. Кожнае краязнаўчае заданьне вытворчага пляну трэба ўвязаць з конкрэтнымі чарговымі мясцовымі задачамі і пытаньнямі і актыўна ўзьдзейнічаць на іх вырашэньне. Сучаснае савецкае краязнаўчае вывучэньне не зьяўляецца чыста акадэмічным вывучэньнем або пэдагогічным сродкам у школе, а запраўдным урастаньнем у вакольнае грамадзкае асяродзьдзе. Краязнаўчая праца школы можа адбывацца ў наступных організацыйных формах: а) праца школьнага колектыву ў процэсе навучальнай програмнай вучобы; у абавязковым парадку, б) праца краязнаўчага школьнага гуртка, у склад якога ўцягваюцца, акрамя настаўнікаў і жадаючых вучняў, рабочыя, сяляне, нявучнёўская моладзь і інш. грамадзяне, *калі ў даным паселішчы няма іншага краязнаўчага аб'яднаньня.*

Свой вытворчы плян і працу гурток цесна ўвязвае: а) у першую чаргу з плянам і

працай райтаварыства, а таксама інш. краязнаўчых організацый і ўстаноў; б) з вытворчым плянам і працай партыйных і профэсыйных організацый, савецкіх устаноў, а таксама паасобных мясцовых дзеячоў у галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Пры школе з гуртком організаваць краязнаўчыя бібліотэку, музэй, архіў і, дзе магчыма, лябораторыі.

Для аб'яднаньня і кіраўніцтва ўсяе школьнае краязнаўчай працы ў акруговым маштабе мэтазгодна організаваць пры Акрпраўленьні школьную краязнаўчую сэкцыю. Праца праводзіцца шляхам індывідуальных заданьняў, зьвеньнямі або цэлым колектывам. Зьмест, абыйма і плян школьнай краязнаўчай працы вызначаецца.: а) для школьнага колектыву навучальнай програмай і чарговымі запатрабаваньнямі вакольнага жыцьця;

б) для гуртка дапасаваньнем да запатрабаваньняў чарговых мясцовых патрэб, плянаў с/с гурткоў, раённых, акруговых т-ваў, ЦБК, а таксама і шк. програм.

Пасьля доўгіх і вельмі цікавых спрэчак тэзісы дакладу былі зацьверджаны і даручана праўленьню заснаваць сэкцыю школьнага краязнаўства, а таксама організаваць дыскусію аб школьным краязнаўстве.

Далей выдатны мясцовы краязнаўца-ботанік Нікольскі зрабіў даклад:

**Вывучэньне флёры Віцебшчыны.**

*(Л. Нікольскі).*

Плянамернае і ўсебаковае вывучэньне флёры Віцебшчыны складае неадкладную задачу таварыства краязнаўства, бо работы, зробленыя ў гэтай галіне асобнымі таварышамі, трэба прызнаць далёка невыстарчаючымі. Работа па вывучэньні флёры абавязкова павінна ісьці разам са зьбіраньнем мясцовых расьлін. Укладаньне гэрбарыя трэба рабіць згодна ўстаноўленых правіл адносна монтыроўкі расьлін, іх этыкетаваньня і інш., інакш работа ня будзе мець навуковага значэньня. Гэрбары павінен быць па магчымасьці поўным адбіткам мясцовай флёры, і таму ў яго ўключаюцца ўсе мясцовыя расьліны, незалежна ад таго, маюць яны якоенебудзь практычнае прыстасаваньне (у мэдыцыне, сельскай гаспадарцы і інш.), ці не. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на расьліны, што рэдка сустракаюцца, мясцовыя разнавіднасьці і ўхіляючыяся формы.

Раней, чым узяцца за справу, трэба вызначыць парадак, у якім будзе весьціся дасьледваньне флёры. Карысна прытрымлівацца наступных двух правіл: 1) досьледы пачынаць з бліжэйшай мясцовасьці, паступова пасоўваючыся, па меры зьмяншэньня матар'ялу, усё далей і далей ва ўсе бакі і 2) расьлінны сьвет для дасьледваньня падзяляецца на групы, што можна зрабіць па біолёгічным ці сыстэматычным прынцыпе. У першым выпадку расьліны вывучаюцца і гэрбарызуюцца па згуртаваньнях (лес, сенажаць, балота і інш.), а ў другім—па сем'ях, родах і г. д. Першы спосаб дае больш конкрэтную карціну флёры і лягчэйшы для пачынаючых.

Працу лепш за ўсё пачынаць з вясны. Яна павінна весьціся ня менш году, але гэта, разумеецца, самы кароткі час якога даволі толькі для надта вопытнага зьбіральніка на невялікім раёне. Для організацыі работы неабходна: 1) падрыхтаваныя працаўнікі на мясцох, 2) хоць-бы невялікія сродкі на набыцьцё матар'ялу (паперы, картак і інш.), популярнай і справачнай ботанічнай літаратуры (азначальнікі і інш.) і для аплаты работы тэхнічнага характару (сушка і монтыроўка расьлін) і 3) органы, якія-б інструктавалі, аб'ядналі і ўзгаднялі ўсю работу ў раёнах і акругах.

Пасьля спрэчак тэзісы дакладу былі прыняты для кіраўніцтва ў працы мясцовых краязнаўчых організацый.

Цікавым і каштоўным быў наступны даклад *Івановай* аб геолёгічным вывучэньні Віцебшчыны, у якім яна асабліва дакладна спынілася на пытаньні аб дасьледчых геолёгічных экспэдыцыях. Конфэрэнцыя даручыла праўленьню зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне геолёгіі Віцебшчыны.

Урэшце апошнім дакладам абмяркоўвалася:

**Справаздача Праўленьня Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства.**

*(Я. Бутар).*

Акруговая краязнаўчая сетка аб'ядноае 894 члены бяз гурткоў (горад 113 чал. і вёска 781 чал., з іх мужчын 65%, жанчын 35%). Па партыйнасьці: членаў КПБ 58 чал., КСМ 19, рэшта беспартыйныя. Па соцыяльным стане: рабочых 8 чал., сялян 6 чал., рэшта—настаўніцтва і савецкія служачыя, з іх пераважвае лік настаўніцтва.

Праўленьнем быў складзены плян працы гадовы і каляндарны. Трэба сказаць, што прэзыдыум і праўленьне працавалі ўвесь час па пляну. Пляны гэтыя своечасова былі дасланы раённым організацыям да ведама і выкананьня. Па часьці вывучэньня Сураскага раёну было зроблена наступнае: гарадзкія сэкцыі склалі спачатку схэматычныя пляны ўсебаковага вывучэньня ў разрэзах—культурна-гістарычным, экономічным і прыродазнаўчым, а потым дэталізавалі іх і ўвесь гэты матар'ял, у відзе інструкцый і анкет, для распаўсюджаньня быў дасланы ў Сураскі раён, а таксама ва ўсе астатнія раёны з тэй мэтай, калі-б які-небудзь захацеў вывучыць свой раён з аднаго якога-небудзь боку. Апрача гэтага Сураскаму раёну дадзена грашовая дапамога ў 40 руб. Старшыню т-ва выклікалі ў праўленьне для справаздачы аб тым, што таварыствам зроблена ў справе ўсебаковага вывучэньня раёну. Даваліся рады, як лепей наладзіць працу. Пра-

панавалася скласьці плян падарожы з мэтай вывучэньня прыроды і жывёльнага сьвету раёну. У гэтым павінны былі прыняць удзел спэцыялістыя гор. Віцебску. Для пашырэньня працы праўленьне ўжывала самыя рознастайныя спосабы, напрыклад: інструктаваньне і абсьледваньне ўсіх раёнаў, выклікі прадстаўнікоў раённых організацый для дакладаў аб праробленай працы, пасылка на месцы плянаў, інструкцый, указаньняў, протоколаў, лістоў і г. д. Вельмі вялікую надзею праўленьне ўскладала на пасылку членаў праўленьня ў раённыя т-вы для дапамогі ў працы, для інструктаваньня і абсьледваньня. Праўленяне доўга і сур'ёзна да гэтага рыхтавалася. Былі вызначаны конкрэтныя бакі працы, гэта—дапамагчы раённым т-вам выправіць географічную карту, скласьці археолёгічную, выправіць глебавую, апісаць помнікі прыроды, культуры, мастацтва і д. т. п.; прыняць удзел у экскурсіях і дэталёва пазнаёміцца з працай кожнага т-ва на месцы, каб выявіць хібы і дасягненьні, каб выявіць запраўдны стан працы кожнага т-ва. Вызначаныя таварышы некалькі разоў скліkaліся на інструкцыйныя сходы, дзе падрабязна абгаварваўся кожны від працы. Быў наладжаны даклад на тэму—„Як павялічваць і выпраўляць географічную карту". Былі скоп'яваны глебавыя карты для кожнага раёну, быў вызначаны тэрмін выезду кожнага і паведамлены аб гэтым усе раённыя т-вы. Гэтая праца не дала ніякіх вынікаў. Здарылася гэта з прычыны адсутнасьці практыкі, галоўным чынам, а таксама і таму, што да гэтай справы нясур'ёзна аднесьліся раённыя т-вы. Выезды т. т. адбыліся ў раёны ў той час, калі ўжо заняткі ў школах прыпыніліся і многія настаўнікі, якія складаюць большасьць сяброў раённых т-ваў, параз'яжджаліся на адпачынак. Раней выехаць немажліва было. Камандыраваныя т. т. часта зусім нікога не знаходзілі на месцы і не маглі правесьці ня толькі вызначаную працу, але і агульных сходаў сяброў т-ва, ці паседжаньняў праўленьня. Праўда, зусім бескарысна гэта не прайшло. Мы зараз ведаем, дзе што робіцца не на паперы, а запраўды. Гэта ў нашай працы мае таксама вялізарнае значэньне. І трэба сказаць, што карціна выявілася ня вельмі прыемная. На паседжаньнях праўленьня і прэзыдыуму былі выкліканы для дакладаў прадстаўнікі наступных раённых організацый: 1) Высачанскага, 2) Кузьняцоўскага, 3) Сураскага, 4) Гарадоцкага, 5) Сіроцінскага. Выклікаўся Чашніцкі, але ня прыехаў. Па пляну ўсе краязнаўчыя організацыі павінны былі зрабіць справаздачы на паседжаньнях прэзыдыуму ці праўленьня. Не адбылося гэта толькі таму, што ўлетку месяцы два краязнаўчыя організацыі зусім не працавалі і пасяджэньні прэзыдыуму і праўленьня ня скліkaліся.

Характарызаваць працу райтаварыстваў мы можам на аснове абсьледваньня, зробленага членамі акруговага праўленьня і на аснове прысланых справаздач т-ваў. Тут да рэчы адзначу, што ня ўсе райт-вы, ня глядзячы на шматразовыя просьбы і напаміны, прыслалі справаздачы. Такім зьяўляецца Сураскае, Межынскае, Сіроцінскае, Езерышчанскае. Аб працы Сураскага і Сіроцінскага т-ваў акруговаму праўленьню больш-менш вядома, бо прадстаўнікі іх у гэтым годзе рабілі справаздачу на пасяджэньні, акр. праўленьня, а аб працы Межынскага і Езерышчанскага—весткі ў нас старыя. Усе райтаварыствы выконвалі заданьні, дадзеныя акруговым праўленьнем і ЦБК, і амаль усе гэтыя заданьні, як відаць з справаздач, уключаны ў плян гэтай працы. Заданьні гэтыя такія: распачаць вывучэньне раёну ў якім-небудзь адным краязнаўчым напрамку, працягнуць працу на выпраўленьне географічнай карты трохвёрсткі, выправіць глебавую карту, укласьці археолёгічную карту, распачаць выяўленьне і апісаньне помнікаў старасьветчыны, мастацтва, прыроды (мінэральных выкапняў, торфу). Для большага ўяўленьня стану працы райтаварystваў скажам паасобку аб кожным:

а) *Сураскае* (86 чал.). Раён вылучаны акруговым праўленьнем як ударны, у сэнсе ўсебаковага яго вывучэньня. Што цяпер ужо зроблена, дакладна невядома. Ёсьць краёвы музэй. Гурткі ўтвараюцца пры Сураскай і Янавіцкай сямігодках, а таксама ёсьць некалькі сельсавецкіх гурткоў.

б) *Сеньненскае* (78 чал.). Т-ва вядзе вывучэньне г. Сянно з боку экономічнага і бытавога. Зроблена: абсьледваны тры кірмашы, гарадзкія саматужныя промыслы, сабраны ўспаміны аб 1905 г. і аб рэвруху за пэрыод 1905-1917 г. ў Сянно. Сабрана колекцыя кузурак, гэрбарый расьлін (400 экз.), узоры мясцовай тканіны і г. д., сабраны некаторыя весткі аб месцазнаходжаньні карысных выкапняў, сабраны некаторыя гістарычныя матар'ялы, часткова ёсьць матар'ял для ўкладаньня археолёгічнай карты, шмат сабрана фольклёрнага матар'ялу. Адбыліся 4 раённыя конфэрэнцыі, два сходы гарадзкія. Організуецца яўрэйская сэкцыя. Гурткі: адзін школьны і 5 сельсавецкіх. Ёсьць музэй. Матар'ялы т-ва друкаваліся ў „Нашым Краі".

в) *Віцебскае* (84). У сувязі з аб'яднаньнем Віцебскага і Кузьняцоўскага раёнаў, організацыя яшчэ аканчальна не аформілася. Зроблена: запоўнена анкета па вывучэньні хатніх рамёстваў зроблена выпраўленьне географічных назваў, запоўнены анкеты па вывучэньні прыродных фарбаў, што ўжываюць у раёне, запоўнены анкеты Ленінградзкага гідролёгічнага Інстытуту. Экскурсій ня было. Матар'ялы таварыства нідзе не друкаваліся. Музэю няма. Школьныя краязнаўчыя гурткі ёсьць пры Старасельскай, Астровенскай і Храпавіцкай сямігодках.

г) *Чашніцкае* (88). Праца разгорнута даволі шырака. Вядзецца праца па організацыі гурткоў у сельсаветах. Вучот помнікаў старасьветчыны, прыроды і мастацтва, зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу (яго ў Чашніках сабрана надта многа). Выпраўляюцца географічныя назвы паселішч, складаецца гэрбарый мясовых расьлін (ёсьць ужо больш 20), вядуцца мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні, вядзецца апісаньне паселішч і распрацаваны

даклады „Камуна і Чырвоны Барацьбіт“, „Геаграфія жывёлы ў Чашніцкім раёне“, „Гісторыя м. Чашнік“ і інш. Праца друкавалася ў „Нашым Краі“. Школьных гурткоў: 1 у Чашніках. Музэю няма, але экспанатаў ёсьць шмат.

д) *Гарадоцкае* (74). Ёсьць раённы музэй. З кастрычніка месяца наладжаны мэтэоролёгічныя назіраньні. Вядзецца ўкладаньне расьліннага гэрбарыя, вывучаюцца карысныя выкапні і глеба. Адбылася краязнаўчая экскурсія на р. Усысьць для азнаямленьня з яе характарам і цячэньнем, як рухавой сілы. Школьныя гурткі—два.

е) *Лёзьненскае* (71). Зьбіраецца фольклёрны матар'ял, выпраўляецца геаграфічная карта, апісваюцца помнікі прыроды, вядуцца мэтэоролёгічныя назіраньні, утвараецца музэй: экспонаты ёсьць і зьбіраюцца, але няма памяшканьня. Школьных краязнаўчых гурткоў—1 у Лёзьне пры сямігодцы.

э) *Бешанковіцкае* (88). Выяўляюцца мінэральныя багацьці, выпраўляецца геаграфічная карта, глебавая карта, зьбіраюцца і вывучаюцца лекавыя расьліны, зьбіраецца фольклёр, вядуцца мэтэоролёгічныя назіраньні, апісваюцца помнікі старасьветчыны. Пры сямігодцы ёсьць гурток і музэйчык. Няма зацікаўленасьці да працы з боку масы асьветнікаў.

ё) *Высачанскі* (29). Вядзецца вывучэньне асаблівасьцяй гаворак па програме Бузука і Некрашэвіча, укладваецца архэолёгічная карта, выпраўляецца глебавая карта. Музэю няма. Гурткоў таксама няма. Наогул тут праца стаіць слабей, чым у азначаных вышэй раёнах.

ж) *Езярышчанскае* (75). Дакладных вестак няма. Відаць, вядзецца тая-ж самая праца, што і іншымі т-вамі, згодна заданьняў акр. праўленьня. Музэю няма. У апошні час тут назіраецца заняпад працы.

з) *Межынскае* (93). Таксама дакладных вестак аб працы няма. Тут было такое здарэньне, што ў восень ня было ніводнага члена б. праўленьня—усе разьехаліся. Была ў восень конфэрэнцыя, але і пасьля яе ніякіх вестак ад новага праўленьня пакуль што ня чуваць. Музэю няма.

і) *Сіроцінскае* (45). Увесь час праца кульгала ў організацыйным напрамку, толькі ў апошні час пачала наладжвацца. Ёсьць два школьныя гурткі і 6 у сельсавеце. Гурткі пакуль што рэальных вынікаў працы не далі. Толькі запоўнілі геаграфічныя карткі. Вядзецца і выпраўляецца геаграфічная карта. Ёсьць апісаньне 4-х садоў і таксама апісаньне экономічнага стану раёну. Музэю няма.

Агулам аб працы раённых т-ваў можна сказаць наступнае: Сураскае, Сеньненскае, Чашніцкае, Гарадоцкае, Віцебскае, Лёзьненскае, Бешанковіцкае больш здавальняюча вядуць працу; у іх ёсьць ужо або музэі, або пачаткі іх. Езярышчанскае, Высачанскае, Сіроцінскае, Межынскае працуюць слабей. Справа організацый сельсавецкіх гурткоў яшчэ не разгарнулася належным чынам. Ня ўсе райтаварыствы маюць рэальныя пляны сваёй дзейнасьці. Сувязь з партыйнымі і савецкімі організацыямі наладжана ўсюды. Популярызатарска-асьветная праца вядзецца ўсімі, але яшчэ ня ў выстарчаючай меры.

Перашкодай у працы ўсіх т-ваў зьяўляецца: перагружанасьць актыву іншай працай, адсутнасьць належнай падрыхтоўкі для дасьледчай краязнаўчай працы. У іншых мясцох ня зусім спагадныя адносіны да краязнаўчай працы з боку грамадзкіх організацый з прычыны несьвядомасьці апошніх, адсутнасьць зацікаўленасьці шырокіх колаў і г. д.

Адносіны раённых краязнаўчых організацый да кіраўніцтва акруговага праўленьня нельга назваць нормальнымі. Вельмі часта рай-твы зусім не адказваюць на паперы праўленьня.

Ніхто ня прыслаў ніякага сабранага ці распрацованага матар'ялу,выключаючы аднаго Сеньненскага рай-тва. Ніхто ня даў матар'ялу ў другі том Віцебшчыны. Хоць-бы паведамлялі—куды і які матар'ял накіраваны, як аб гэтым кожны год умаўляемся. Ніякай магчымасьці няма для дакладнага падліку працы.

У горадзе працавалі наступныя організацыі:

1) Экономічная сэкцыя, 2) Прыродазнаўчая, 3) Культурна-гістарычная, 4) Яурэйская сэкцыя, 5) Сьветазнаўчая, 6) Бібліографічная камісія, 7) Архэолёгічная камісія, 8) Т-ва пры Вэтінстытуце, 9) Гурток пры ботанічным садзе, 10) Гурток пры Белпэдтэхнікуме, 11) Гурток пры мастацкім тэхнікуме і 12) Гурток пры чыгуначных школах.

Праўленьне імкнулася надаць сэкцыям і камісіям характар кіраўніцтва працай адпаведных галін у раёнах, зрабіць іх сваеасаблівымі навуковымі лябораторыямі. Адначасова яны маглі-б весьці працу па вывучэньні гораду, гісторыі, экономікі і культуры і зусім самастойна незалежна ад працы кіраўніцтва ў раёнах. Трэба сказаць, што з сэкцыямі справа была таксама дрэнная.

*Культурна-гістарычная сэкцыя* плянавай працы амаль што не вяла. Праўленьне імкнулася наладзіць агульныя сходы сэкцыі, але посьпехаў ня мела. Члены сэкцыі працавалі паасобку. Кіраўнік сэкцыі, здаецца, хадзіў да кожнага члена і такім чынам адбывалася кіраўніцтва працай. Праўленьне прапанавала кіраўніку скласьці сьпіс тэм і раздаць членам для распрацоўкі, значыць, практыкаваліся індывідуальныя заданьні. Ня вельмі даўно сэкцыя ўзмацнілася новымі членамі, перавыбрана бюро сэкцыі. Трэба спадзявацца, што праца ажывіцца. а) усяго сэкцыяй склікана два-тры сходы, б) зроблены даклады: 1) вывучэньне гораду, 2) гісторыя Віцебску, з) складзены схэмы для вывучэньня раёну, в) членамі ў розных мясцох прачытана прыблізна каля 10 дакладаў на розныя тэмы, г) праведзена некалькі экскурсій па гораду з служачымі і чырвонаармейцамі і д) дадзены некаторыя матар'ялы для зборніка 2-га тому Віцебшчыны.

*Прыродазнаўчая сэкцыя* працавала таксама як і культурна-гістарычная. Яе нарэшце перамог і праглынуў прыродазнаўчы гурток пры ботанічным садзе, які, дзякуючы надзвычайнай энэргіі і зацікаўленасьці ў працы кі-

раўніка, увесь час адцягваў сілы ад гэтай сэкцыі. Прыродазнаўчая сэкцыя таксама некалькі пераорганізавана, выбрана новае бюро, але пакуль вынікаў асаблівых у працы не назіраецца. Новаму праўленьню трэба будзе зьвярнуць на гэта ўвагу. Членамі сэкцыі дадзена некалькі прац у зборнік.

*Экономічная сэкцыя* была самай працавітай. Адбываліся агульныя сходы хоць і ня часта. Рабіліся даклады. Працавала па спосабу індывідуальных заданьняў. Другі том Віцебшчыны будзе складзены пераважна з прац гэтай сэкцыі. Абмеркавана 4-5 дакладаў: а) Аб кірмашох на Віцебшчыне, б) Фонды зямлякарыстаньня на Віцебшчыне, в) Рыбацтва на Віцебшчыне, г) Садоўніцтва на Віцебшчыне, д) Гандаль на В-не, в) Саўхозы на В-не, э) Бюджэт селяніна, ё) Мясцовыя промыслы і інш.

*Яўрэйская сэкцыя* спачатку працавала проста ўзорна. Склікаліся агульныя сходы. Заслухоўваліся даклады, вырашаліся агульныя пытаньні, нарэшце разыходзіліся па сэкцыях, дзе ўжо адбывалася спэцыяльная праца кожнай сэкцыі. Але гэта толькі да лета. Пасьля гэтага праца сьцішылася і цяпер пакуль што ня можа наладзіцца. Хоць, трэба адзначыць, працуе лепей за некаторых іншых; ёсьць сабраныя песьні, прачытана некалькі дакладаў па гісторыі рабочага руху на Віцебшчыне, трымаецца сувязь з мястэчкамі, вывучана яўрэйскае вясельле, удзел яўрэяў у мясцовых саматужных промыслах.

*Сьветазнаўчая сэкцыя* працавала слаба з тае прычыны, што моладзь, якая пераважна складала гэтую сэкцыю, выехала з Віцебску. Зроблена агульных сходаў 23, прачытана дакладаў 28 і 1 лекцыя.

*Бібліографічная камісія*: адбылося 4 пасяджэньні, складзены карткавы каталёг Віцебшчыны, які мае друкавацца ў зборніку і вядзецца альбом краязнаўчых выразак з друку.

*Гурток пры ботанічным садзе* працаваў вельмі добра, асобнымі членамі сабрана многа кузурак, жукоў і інш. Вывучалася расьліна. Ставіліся навуковыя даклады ў клюбах.

У працягу працоўнага году быў выдадзены „Віцебскі Краёвы Слоўнік“ і падрыхтаваны для друку 2-гі том Віцебшчыны. Матар'ял і клішэ ўжо гатовы і зборнік хутка будзе здадзены ў друк. Будуць прадстаўлены аддзелы: культурна-гістарычны (слаба), прыродазнаўчы (слаба), экономічны (добра), бібліографічны. Усяго будзе каля 10 друкаваных аркушоў. Друкаваньне будзе каштаваць з усімі выдаткамі 150 рублёў за аркуш.

Праўленьне імкнулася шырака разгарнуць культасьветную працу ў горадзе. З гэтай прычыны яно зьвязалася з лекцыйным бюро, якое існавала пры доме працасьветы. Дало тэмы і вызначыла дакладчыкаў. Быў заклітканы на пасяджэньне прэзыдыуму старшыня лекцыйнага бюро, дзе ставілася пытаньне аб ажыўленьні працы бюро і ўдзеле краязнаўцаў у ім. Апрача гэтага прэзыдыум даслаў сьпіс тэм і дакладчыкаў і ў ОСПС з просьбай організаваць даклады на вызначаныя тэмы ў клюбах гораду. Нарэшце прэзыдыум зрабіў так: прапанаваў дакладчыкам асабова дагаварыцца з клюбамі аб часе дакладаў, указаныя тэмы і дакладчыкі. Вынікі ўсяго гэтага—бюро лекцыйнае прыпыніла зусім сваю працу. ОСПС нічога не зрабіў. Некаторыя толькі клюбы запрасілі дакладчыкаў. Такім чынам зроблена каля 10-15 дакладаў на розныя тэмы і галоўным чынам па гісторыі і культуры Беларусі. Наладжаны быў вечар ушанаваньня 20 гадовай літаратурна-мастацкай працы Якуба Коласа і зьмешчана каля 5 артыкулаў у газэтах.

Сувязь увесь час падтрымлівалася з Музэем, Акрплянам, Акружкомам, Акрвыканкомам і інш. Адносна музэю трэба сказаць, што паміж ім і краязнаўствам павінна быць самая цесная органічная сувязь. Гэта значыць—працаўнікі музэю павінны быць самымі актыўнымі працаўнікамі краязнаўства. Гэта пакуль што не заўсёды назіралася.

Пасьля даўгіх спрэчак, у якіх прымала ўдзел большасьць дэлегатаў, конфэрэнцыя прыняла падрабязную рэзолюцыю аб працы ў будучыне, вызначыўшы, што: акруговыя конфэрэнцыі павінны склікацца раз у 2 гады; Дзяржаўны Музэй павінен стаць асяродкам усёй краязнаўчай працы, а на мясцох павінны ўпарта будавацца свае музэі; неабходна больш популярызаваць краязнаўства ў акруговай газэце і пашырыць падпіску на „Наш Край“ і г. д.

Адначасна з прыёмам гэтай рэзолюцыі конфэрэнцыя з жалем адзначыла, што прадстаўнікі мясцовай сэкцыі навуковых працаўнікоў і мясцовай вышэйшай школы ня прымалі ўдзелу ў працы, ня гледзячы на тое, што запрашаліся, і даручыла будучаму праўленьню ўсё-ж прыцягнуць іх да працы. Разам з тым конфэрэнцыя даручыла праўленьню прыняць меры для ператварэньня ботанічнага саду ў навуковы абапорны пункт вывучэньня флёры краю, а таксама—да аховы б. колекцый Плюшчыка-Плюшчэўскага.

Наогул конфэрэнцыя адлюстроўвала вялікую краязнаўчую працу на акрузе, важнае палітычнае значэньне якой і падкрэсьліваў прадстаўнік АПА АК КП(б)Б т. *Некрашэвіч*.

## Барысаўскае раённае т-ва краязнаўства.

Барысаўскае раённае т-ва краязнаўства ўтварылася пасьля ліквідацыі акругі: былі злучаны ў адно гарадзкая краязнаўчая організацыя і б. раённае т-ва. Рэорганізацыя адбылася ў верасьні м-цы 1927 г.

Т-ва працуе згодна статуту, як самастойная організацыя, пад кіраўніцтвам акруговага т-ва.

У склад т-ва ўваходзіць усяго 55 чалавек, якія разьмяркоўваюцца наступным чынам: у горадзе 46 чалавек і раёне 9; мужчын—33 чал., жанчын—22; па нацыянальнасьці—беларусаў—44, яўрэяў—11 чал., па профэсіі: настаўнікаў 51 чал., савецкіх і партыйных працаўнікоў—4; па партыйнасьці;—сяброў КПБ—6 чалавек, сяброў ЛКСМ—2 чал., беспартыйных—47 чал.

Праўленьне складаецца з 7 асоб: 1) Самцэвіч (старшыня), Нікіфаровіч (сакратар), 3) Мазінг, 4) Рыжыкаў, 5) Сячко, 6) Рамановіч і 7) Вусьцін і 2 кандыдаты.

З часу рэорганізацыі т-ва адбылося 8 пасяджэньняў праўленьня, на якіх разгледжана 27 пытаньняў. Праведзена адна вучнёўская краязнаўчая конфэрэнцыя 29 лістапада 1927 г. і адна сяброў т-ва (сумесна з мясцкомамі працаўнікоў асьветы); зроблены даклады „Краязнаўства ў школьнай працы", „Як весьці фэнолёгічныя назіраньні" і „Тэмы краязнаўчай працы на вёсцы".

Фактычны ўдзел у краязнаўчай працы прыймае нязначны лік сяброў. У організацыйна-кіраўнічай—6 чалавек і ў дасьледчай, па зьбіраньні розных матар'ялаў – 13 чалавек.

З часу рэорганізацыі т-ва продукцыя вытворчасьці сяброў т-ва выявілася ў наступным: 3 артыкулы зьмешчаны ў часопісу „Наш Край", 9 артыкулаў у раённым краязнаўчым часопісу „Наш Раён". Сябрам П. Самцэвічам сабрана і адаслана ў фольклёрную камісію больш 500 запісаў вуснай народнай творчасьці, ім-жа вядзецца праца па зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу. Прыслына два апісаньні ад настаўнікаў раёну.

У сьнежні м-цы адчынены краязнаўчы гурток (пры 2 школе); у кутку зьмешчаны рэчы, якія засталіся ад былога акруговага музэю. Працы ў музэі амаль што не вядзецца з прычыны адсутнасьці ахвотнікаў бясплатна працаваць, адсутнасьці сродкаў на абсталяваньне і нават на ацяпленьне.

З мэтай рэалізацыі продукцыі дасьледчай працы краязнаўчых організацый (гурткоў) і паасобных сяброў праўленьню ў студзені м-цы з надзвычайнымі цяжкасьцямі ўдалося выдаць першы нумар раённага краязнаўчага часопісу „Наш Раён" (у 100 паасобніках на шапірографе). Выданьне далейшых нумароў будзе залежаць ад сродкаў і ўдзелу сяброў т-ва.

Наогул-жа трэба адзначыць слабую зацікаўленасьць працай школ, настаўніцтва, мэдычных і інш. працаўнікоў.

З гурткоў працуюць толькі 2: пры Пэдтэхнікуме гурток натуралістых і пры 7 школе сямігодцы. Гурток натуралістых існуе 3 гады. Праца яго наступная: 1) вядуцца мэтэоролёгічныя назіраньні на Мэтстанцыі пры Тэхнікуме, 2) вядуцца фэнолёгічныя назіраньні, 3) вывучаюцца мясцовыя птушкі (іх жыцьцё, карысьць) 4) складаюцца гэрбарыі мясцовых расьлін, 5) сабраны энтолёгічныя колекцыі (жукі, матылі). Гурток пры 7 школе вядзе абсьледваньне прадпрыемстваў Нова-Барысава, зьбірае лекавыя расьліны народнай мэдыцыны.

Кіраўніцтва і дапамога з боку акруговага т-ва вельмі слабая (лепш з боку ЦТК); сувязь гурткоў з раённым таварыствам нездавальняючая. Досыць цесная сувязь з Барысаўскім Раённым Выканаўчым Камітэтам. На пасяджэньні Гарадзкога Савету быў зроблены даклад у пачатку працы т-ва.

Грашовыя сродкі складаліся з сяброўскіх узносаў (24 р. 10 кап.), нявыкарыстаных сродкаў б. акруговага т-ва (51 р. 84 кап.), усяго 75 р. 94 кап. Выдаткована 64 р. 72 кап., застаецца на 5 лютага 1928 г. 11 р. 22 кап.

Па каштарысу ніякіх сродкаў не адпушчана, з прычыны чаго зусім немагчыма разгарнуць працы. Няма тэхнічнага працаўніка ў музэі, няма сродкаў на папаўненьне бібліотэкі, музэю, на выдавецкую справу і г. д.

Для паляпшэньня працы неабходна неадкладная матар'яльная дапамога з боку Гарсавету і РВК, большая фактычная зацікаўленасьць з боку Савецкіх, Саюзных і грамадзкіх організацый, разгрузка ад іншых абавязкаў тых сяброў Т-ва, якія ўжо вядуць і хочуць весьці краязнаўчую працу.

**В. С.**

## III. Полацкая акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя.

*(11-12 лютага 1928 г.).*

Праца конфэрэнцыі пачалася пры ўдзеле 7 дэлегатаў ад раёнаў і 73—з гораду. Пераважную большасьць дэлегатаў складалі вучні гарадзкіх школ. Наогул паседжаньні конфэрэнцыі адбываліся пры ўдзеле ня менш 40 дэлегатаў.

Першым быў заслуханы даклад „15 зьезд ВКПБ(б) і культурная рэволюцыя" т. *Масевіча.* Пасьля яго выступіў т. *Мялешка* з інформацыяй аб судовых процэсах—расправах над беларусамі ў Заходняй Беларусі. Па дакладу была прынята рэзолюцыя, а па інформацыі—выпрацаваны камісіяй протэст.

На другі дзень былі абмеркаваны наступныя даклады: „Організацыя вывучэньня раёну"—т. *Касьпяровіча,* „Краязнаўства і школа"—т. *Дробуша* і „Справаздача праўленьня акруговага таварыства краязнаўства"—т. *Мікуліча.*

З апошняга дакладу відаць, што краязнаўства ў Полаччыне разгарнулася: ёсьць 9 раённых таварыстваў краязнаўства, 6 гурткоў пры сельсаветах, 9 гурткоў школьных і 2—пры тэхнікумах, а таксама 4 раённых музэі і 1 у Полацку. Практычным вынікам краязнаўчай працы, а ўласна—дасьледаваньне Вушацкіх крыніц, зьяўляецца пабудова ў Вушачы санаторыі ўсесаюзнага значэньня. За год адбылося 13 паседжаньняў праўленьня, на якіх абмяркована 37 пытаньняў. Адбыліся 4 агульнагарадзкіх краязнаўчых сходы ў Полацку, на якіх бывала 30—60% членаў таварыства. Грамадзка-экономічная сэкцыя мела 4 сходы, культурна-гістарычная—10. Прыродна-географічная сэкцыя сабрала шмат расьлін, зрабіла моноліты глеб і дасьледвала вусьце р. Полаты. Значныя вынікі дала вучнёўская агульна-гарадзкая краязнаўчая конфэрэнцыя. Выстаўка дзесяцігодзьдзя Кастрычніка ўзята ў музэй таварыства. Укладаецца археолёгічная карта акругі і апісаны помнікі старасьветчыны. Організавана некалькі экскурсій. Таварыства мае 1000 руб субсыдыі, 53 руб. сяброўскіх узносаў і 31 р. 40 к. за ўваход у музэй. Амаль усе сродкі ідуць на музэй, у якім налічваецца каля 1000 экспонатаў. З апошніх асабліва цікавыя курсы лекцый б. профэсароў б. Полацкай акадэміі

карціны, некаторыя фотографіі і тканіны. Музэй зьмяшчаецца ў будынку б. сабору, сырым і неадпаведным для музэю. У апошні час у музэі парушыўся парадак, але праўленьне яго наладжвае. Для дапамогі мясцом адбыліся 4 выезды на раёны. Таварыства дапамагала мясцовым установам у іх працы. Адмоўным бокам працы зьяўляецца адсутнасьць належнага грамадзкага зданьня навокал яе.

Прадстаўнікі з месц дапоўнілі даклад весткамі аб сваёй працы.

У выніку доўгіх спрэчак конфэрэнцыя прыняла рэзолюцыю, у якой падрабязна вызначаны далейшыя задачы, працы на Полаччыне, дзе ёсьць поўныя магчымасьці яе разьвіцьця.

## Праца Магілеўскага акруг. т-ва.

### РЭЗОЛЮЦЫІ

*III-е Магілеўскае акруговае краязнаўчае конфэрэнцыі 10—12 студзеня 1927 г. у гор. Магілеве.*

**I. Рэзолыцыя па дакладу ЦБК.**

Заслухаўшы даклад т. Шашалевіча аб дзейнасьці ЦБК за мінулы год і чарговых задачах краязнаўчых організацый Беларусі, III-я Магілеўская акруговая краязнаўчая канфэрэнцыя адзначае наступнае:

1) На працягу мінулага году ЦБК правяло вельмі значную працу па організацыі і аформленьні краязнаўчага руху Беларусі;

2) За пэрыод пасьля II Ўсебеларускага краязнаўчага зьезду краязнаўчыя організацыі Беларусі, а таксама і Магілеўшчыны, зрабіліся досыць прыкметнымі культасьветнымі організацыямі. Гэтаму спрыяла тое, што ЦБК вельмі актыўна трымала сувязь з краязнаўчымі організацыямі, шырака дапамагала ім літаратурай, мэтодычнымі парадамі, інструкцыйнымі лістамі і жывым (інструктарскім) наведваньнем.

3) Конфэрэнцыя лічыць, што інструкцыйна-пісьмовую і жывую сувязь ЦБК з краязнаўчымі організацыямі неабходна больш узмацніць, а таксама ЦБК зьвярнуць увагу на вельмі слабую сувязь раённых таварыстваў краязнаўства з акруговым таварыствам і зрабіць усё неабходнае, каб узмацніць гэтую сувязь.

4) Прымаючы пад увагу, што па раёнах дасьледчая краязнаўчая праца вядзецца слаба з прычыны непадрыхтаванасьці краязнаўчага актыву, неабходна ЦБК зрабіць заходы да організацыі курсаў па падрыхтоўцы краязнаўцаў.

5) У мэтах пашырэньня краязнаўчай працы ЦБК павінна дагаварыцца з адпаведнымі органамі аб разгрузцы краязнаўчага актыву ад іншай грамадзкай працы. Побач з гэтым дабіцца, каб краязнаўчая праца залічалася, як вельмі важная грамадзкая праца.

6) У далейшым для нормальнай і бесьперабойнай працы краязнаўчых організацый неабходна, каб яны былі забясьпечаны мінімальнымі сродкамі на гэтую працу. Конфэрэнцыя лічыць неабходным, каб ЦБК дабівалася ў цэнтры гэтых сродкаў па рэспубліканскім бюджэце, бо гэта дасьць магчымасьць рэгуляваць іх, наладзіць плянавую працу і мець у акрузе і раёнах хоць аднаго мінімальна аплачваемага працаўніка.

**II. Рэзолюцыя па дакладах Акруговага Праўленьня, Рэвізійнай Камісіі і 5 раённых таварыстваў краязнаўства.**

III-я Акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя адзначае, што, пры здавальняючай у агульнай пастаноўцы працы, наглядаецца некаторае ахаладжэньне да яе з боку краязнаўчых мас.

У краязнаўчай працы Акруговага т-ва маюцца за год значныя дасягненьні, якія выражаюцца:

1) У прадаўжэньні навукова-дасьледчай працы мінулых гадоў і рэалізацыі ўсіх досьледаў за час існаваньня т-ва ў зборніку „Магілеўшчына“.

2) У пэўным напрамку працы на масавасьць і перанясеньні цэнтру цяжару яе на сэкцыі.

3) У пашырэньні новых мэтодаў краязнаўчай працы—экспэдыцыі і краязнаўчых вечарынак.

4) У даволі шырокім вывучэньні сіламі Акруговага т-ва вылучанага для працы яго Быхаўскага раёну.

5) У зусім здавальняючай апрацоўцы сырых матар'ялаў ад раёнаў, што перасылаліся праз праўленьне ў ЦБК і ІБК (як слоўнікавыя матар'ялы).

6) У жыцьцёвасьці тэм, якія падбіраюцца для апрацоўкі.

7) Праўленьне таксама імкнулася зблізіцца з іншымі організацыямі і ўстановамі, праўда, не заўсёды з посьпехам.

Побач з гэтым маюцца і недахопы, якія праўленьню гэты год трэба зьнішчыць:

1) Вельмі аднабокі з боку профэсыйнага і нацыянальнага склад таварыства.

2) Адсутнасьць колькаснага і якаснага вучоту сяброў таварыства на акрузе.

3) Праўленьне ня мела свайго працапарату—прэзыдыуму.

4) Не своечасова пачата праца па складаньні бюджэту і аформленьні свайго бюджэтнага палажэньня.

5) Не рэгулярна зьбіраліся сяброўскія ўзносы.

6) Не наладжана сыстэматычная пісьмов. сувязь з раёнамі.

7) Адсутнасьць у апошні час заданьня для раёнаў.

8) Вельмі мала дасьледвалася эконом. і санітарнае палажэньне гораду і вёскі.

9) Няўдалы курс на стварэньне новага актыву ў сэкцыях, дзякуючы пераўвялічэньню сіл сяброў сэкцый.

10) Ня было колектыўнага абгаварэньня спрэчных краязнаўчых досьледаў у форме дыскусій.

11) Адсутнасьць экскурсій па гораду, і

12) Даволі вялае і бяссыстэмнае кіраваньне школьнымі краязнаўчымі гурткамі.

На падставе гэтага III-я акруговая края-

знаўчая канфэрэнцыя прапаноўвае будучаму праўленьню правесьці наступныя меры:

1. Дабіцца ўцягненьня ў краязнаўчае таварыства сяброў іншых профсаюзаў. партыйцаў і комсамольцаў і нацменшасьці.

2. Стварыць у праўленьні прэзыдыум, які-б рэгулярна працаваў, і пленум, які-б зьбіраўся раз у месяц.

3. На пленумах павінны вырашацца пытаньні прынцыповага характару і, па магчымасьці, заслухоўвацца справаздачы раённых таварыстваў.

4. Наладзіць сувязь з раёнамі і мэтодычнае інструктаваньне іх.

5. У раённыя праўленьні пажадана ўвесьці прадстаўнікоў Райкомаў КПБ і ЛКСМБ і райкультаддзелу.

6. У праўленьнях падзяліць між сабой працу між іх сябрамі.

7. Пераглядзець пытаньні аб сяброўскіх узносах.

8. Раёнам даваць конкрэтныя заданьні кожныя тры месяцы, кіруючыся акруговым плянам працы.

9. Скласьці плян працы на год, орыентуючыся на вывучэньні за год экономічнага і санітарнага стану вёскі, гісторыі Магілеўшчыны ў XVI—XVIII стагодзьдзях і з 1905 па 1928 г., прыродазнаўчых і этнографічных досьледаў па меры іх практычнай неабходнасьці.

10) Падрыхтаваць і выдаць школьны краязнаўчы зборнік.

11. Стварыць новы актыў дачай сябром сэкцый маленькіх практычных заданьняў.

12. Больш ужываць экскурсій і краязнаўчых вечарынак.

13. Перабудаваць програму і мэты заняткаў студ. гурткоў.

14. Узяць напрамак на мэтод. і мэтодолёгічную спэцыялізацыю асноўнага актыву.

15. Краязнаўчую справу сконцэнтраваць пры Музэі і чытальні пры ім, перанёсшы туды ўсю дасьледчую справу.

16. Заснаваць з гэтай установай раённыя музэі.

17. Стварыць працаздольныя камісіі—слоўнікавую і па вывучэньні мястэчак. Пры патрэбнасьці хуткага вывучэньня якой-колечы тэмы стварыць эпізодычна працуючыя камісіі.

18. Дабіцца ад Акрана уключэньня ў парадак дня раённых настаўніцкіх конфэрэнцый краязнаўчых пытаньняў.

### III. Рэзолюцыя па дакладу Профэсара Беларускай Дзяржаўн. Акадэміі П. Т. Салаўёва.

Аб'яднаны сход дэлегатаў III Магілеўскай акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі і прадстаўнікоў профсаюзаў: працаўнікоў асьветы, мэдсанпрацы, рабземлесу, паляўнічых заслухаўшы даклад т. Салаўёва, шчыра вітае мерапрыемства Горацкага Навуковага Таварыства і ўсёй с.-г. Акадэміі па вывучэньні Беларусі, накіраваньня да прыбліжэньня навукі да працоўных мас. Конфэрэнцыя асабліва адзначае важнасьць і грамадз. карысьць таго, што навуковыя працаўнікі, сябры таварыства ідуць у масы шляхам навукова-популярных лекцый, дакладаў і перадаюць масам свае веды.

Конфэрэнцыя заклікае ўсіх краязнаўцаў больш энэргічна заняцца вывучэньнем прыроды сваёй мясцовасьці, у прыватнасьці організацыяй фэнолёгічных назіраньняў для належных практычных вывадаў на мясцох і для зьбіраньня сырога матар'ялу для далейшай навуковай апрацоўкі.

### IV. Рэзолюцыя па дакладу т. Сушынскага аб мэтодах выкананьня орыентовачнага пляну ЦБК вывучэньня раёну.

Конфэрэнцыя, заслухаўшы даклад т. Сушынскага, адзначае:

1) Плян вывучэньня раёну, складзены ЦБК, ахоплівае ўсе бакі і здавальняе запатрабаваньні мясцовых краязнаўцаў.

2) Чарговымі задачамі выкананьня пляну конфэрэнцыя лічыць: а) утварэньне раённых музэяў, б) зьбіраньне матар'ялаў шляхам індывідуальных заданьняў для складаньня апісаньня раёну, в) наладзіць санітарнае дасьледаваньне вёскі згодна інструкцыі ЦБК., г) Організаваць працу вывучэньня мястэчак і наладзіць у кожным раёне фэнолёгічныя назіраньні.

3) Узяць сталы напрамак на вывучэньне ўжо дасланай краязнаўчай літаратуры і на папаўненьне краязнаўчых бібліотэчак.

### V. Рэзолюцыя па дакладах загадчыкаў—Магілеўскага Дзяржаўн. Музэю т. Вянюкова і Магілеўскага Дзярж. Архіву тав. Гараніна.

Заслухаўшы даклады т.т. Вянюкова і Гараніна, III-я акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя адзначае:

1) Буйнае пашырэньне Музэю за апошні год і як дасягненьне—пераход Музэю да сталай навукова-дасьледчай працы над сабранымі матар'яламі.

2) Наглядаецца пэўны краязнаўчы ўхіл у працы Музэю па вывучэньні ў поўным ахапленьні тэй тэрыторыі, з якой складаецца Музэй.

4) Ухваліць мерапрыемствы Музэю, накіраваныя да сувязі і дапамогі раённым краязнаўчым музэям.

Акрамя вышэйадзначанага конфэрэнцыя пастанаўляе:

1) Лічыць неабходным згрунтаваньне неапрацованага краязнаўчага матар'ялу ў Дзяржаўным Музэі, які ў раённых музэях па незалежных ад іх прычын ня можа быць апрацованы, для апрацоўкі і перасылкі Цэнтральн. Навук. Інстытуцыі.

2) Прапанаваць раённым таварыствам і музэям з свайго боку падтрымліваць сувязь з Дзяржаўным Музэем і Архівам, своечасова паведамляць і па магчымасьці дасылаць адпаведны архіўны матар'ял, які выяўляецца на мясцох.

3) Лічыць неабходным організацыю раённых музэяў пры кожным раённым таварыстве, для чаго даручыць Дзяржаўнаму Музэю і Акруговаму Праўленьню краязнаўчага

т-ва хадайнічаць перад адпаведнымі дзяржаўнымі органамі аб водпуску памяшканьня для памянёных музэяў і аказаньні ім магчымай грашовай дапамогі.

## Краязнаўства ў суседніх савецкіх рэспубліках.

Вялізная колькасьць насельніцтва і тэрыторыі суседніх расійскай і украінскай савецкіх соцыялістычных рэспублік дазваляе ім мець самыя розныя тыпы краязнаўчых устаноў і організацый: гурткі, таварыствы, інстытуты, станцыі, бюро і д. т. п. для дасьледваньня мясцовага краю. Уласна краязнаўчы масавы рух пачаўся, праўда, тамака ня так даўно.

У Расійскай Савецкай Соцыялістычнай Фэдэрацыйнай Рэспубліцы ў апошні час налічвалася 152 краязнаўчых ячэйкі, 178 валасных організацый, 293—павятовыя і акруговыя і 191—краёвых і губэрскіх, а ўсіх 814. З іх—да 1917 г. існавала 58, за час 1917—1921 г. заснавалася 72, з 1922 да 1924 г.—169, у 1925 г. 72 і ў 1926 г. 58; аб часе заснаваньня рэшты вестак няма. Ва ўсіх гэтых організацыях, час заснаваньня якіх паказаны, налічвалася 27.945 членаў. Пераважны лік організацый, а ўласна—234, мае толькі па 11—50 членаў. Па характары дзейнасьці найбольшы лік (117) організацый комплексных. Экспэдыцый па тэрыторыі РСФСР адбылося 633. Экскурсыйную працу вялі толькі 224 краязнаўчых організацыі. Свае выданьні маюць 226 організацый. Свой бюджэт ад малой сумы да 100.000 руб. маюць 358 організацый. Зразумела, што вялізныя дасягненьні краязнаўчай працы ў РСФСР перавышаюць гэтыя магчымасьці. Падлічвае краязнаўчыя організацыі, аб'яднае іх і кіруе іх дзейнасьцю Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, організацыйны цэнтр якога знаходзіцца ў Маскве, а навукова-мэтодычны—у Ленінградзе. У складзе другога ў апошні час працавалі камісіі: бібліографічная, школьна-краязнаўчая, студэнцкая, і экскурсійна-даведачнае бюро. Яны прарабілі значную працу ў сваіх галінах. У апошні час узьнята пытаньне аб утварэньні навукова-мэтодычнага краязнаўчага інстытуту. Сваімі часопісамі „Краеведение" і „Известия Центрального Бюро Краеведения", Цэнтральнае Бюро абслугоўвала краязнаўчую сетку РСФСР мэтодычнымі матар'яламі і адлюстроўвала мясцовую працу і яе дасягненьні. Апрача часопісаў бюро выдала некалькі програм і новае выданьне даведачніка „Краеведные учреждения".

Некатораю перашкодаю разьвіцьцю краязнаўчага руху ў РСФСР зьяўляецца пэўная нявыразнасьць організацыйных форм руху і застарэласьць нормальных статутаў гуртка і таварыства краязнаўства з іх ганаровымі і неганаровымі членамі *), аўтоматычным залічэньнем у члены гуртка ўсіх выбарных асоб воласьці **) і д. т. п. У аўтономных рэспубліках ёсьць свае краязнаўчыя цэнтры, якія вядуць вельмі пасьпяховую працу.

У Украінскай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы налічваецца каля 100 уласна краязнаўчых організацый. Пераважная большасьць іх таксама заснавана пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Значны лік іх маюць свае каштоўныя выданьні. Дзейнасьць організацый, як і лік іх, знаходзяцца яшчэ ў кругабезе інтэнсыўнага росту і павялічэньня. Згодна нормальнаму статуту мэтаю мясцовых таварыстваў краязнаўства зьяўляецца:

а) усебаковая дапамога савецкаму будаўніцтву шляхам выяўленьня і навуковай апрацоўкі даных, што тычацца продукцыйных сіл акругі (раёну) у шырокім сэнсе гэтага слова;

б) пашырэньне адпаведных ведаў пра свой край і

в) абуджэньне зацікаўленасьці да яго.

Членам краязнаўчай організацыі можа быць кожны грамадзянін, не маладзей 18 год, які выявіў сваё жаданьне працаваць над вывучэньнем краю.

Працу мясцовых краязнаўчых організацый падлічвае і аб'ядная Украінскі Камітэт Краязнаўства ў Харкаве. Ён-жа дае і кіраўнічыя матар'ялы для дзейнасьці мясцовых організацый. Камітэт адпаведна сваім задачам выдае вельмі цікавы штомесячнік „Краєзнавство".

Падрабязныя даныя аб бягучай працы краязнаўчай сеткі РСФСР і УССР можна знайсьці ў памянёных часопісах цэнтральных краязнаўчых устаноў гэтых рэспублік, якія наогул могуць быць вельмі карыснымі для ўдасканаленьня працы нашага краязнаўцы.

*) „Краеведение", Пгр., 1923, № 2, ст. 212.
**) Н. Байсутов. Начатки краеведной работы, М. 1926, ст. 85.

# Бібліографія.

**„Наш Раён“.** *Часопіс Барысаўскага Таварыства Краязнаўства—г. Барысаў 1928, 21 стар.*

Выданьне рукапісных мясцовых журналаў зьяўляецца адным з лепшых спосабаў пашырэньня краязнаўчых ведаў на мясцох і паглыбленьня зацікаўленасьці да краязнаўчай працы. Дзеля гэтага трэба вітаць ініцыятыву нашых барысаўскіх таварышоў, якія выпусьцілі першы нумар свайго журналу „з мэтай выяўленьня практычна краязнаўчай працы, кіраўніцтва гэтай працай і дапамогі пачынаючым краязнаўцам“.

У часопісе зьмешчаны такія працы: В. Самцэвіч—„Краязнаўчая праца і Савецкае будаўніцтва“; С. Нікіфаровіч—„фэнолёгічныя назіраньні ў гор. Барысаве за 1925-27 г. г.“; С. Нікіфаровіч „Восень 1927 г.“; У. Уладзіміраў—„Сярніковая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна“ ў Нова-Барысаве“, П. Стрыгуцкі і Б. Самцэвіч—„Папяровая фабрыка „Профінтэрн“ у Нова-Барысаве“. Апрача памянёных артыкулаў зьмешчаны інструкцыйны матар'ял („Інструкцыя і програма фэнолёгічных назіраньняў“, „Анкета для абсьледваньня прамысловага прадпрыемства“), хроніка і інформацыі.

Пералік артыкулаў паказвае на аднастайнасьць матар'ялу—2 працы па фэнолёгіі і 2 працы па абсьледваньні мясцовай прамысловасьці. Мясцовы часопіс, які павінен выпускацца пэрыодычна, павінен быў зьмяшчаць больш рознастайны матар'ял. Галіна краязнаўства вельмі шырокая—трэба было зьмяшчаць адначасова працы па матар'яльнай, духоўнай культуры, фольклёры і інш. Такая рознастайнасьць прыцягнула-б да часопісу большы лік супрацоўнікаў. Бясспрэчна, праца т. т. Стрыгуцкага і В. Самцэвіча, ужо надрукаваная ў „Нашым Краі“ (№ 8-9 за 1927 г.), не павінна была тут быць перадрукавана, ды яшчэ ў скарочаным выглядзе. Больш мэтазгодна якраз адваротнае—у мясцовых журналах павінны быць такія падрабязныя працы, якія, дзякуючы сваёй лёкальнасьці, ня могуць знайсьці месца на старонках цэнтральнага органу.

Што тычыцца зьмяшчэньня інструкцыйнага матар'ялу, трэба адзначыць, што пры наяўнасьці кіраўнічага цэнтральнага краязнаўчага органу трэба было-б месцам адмовіцца ад самастойнага складаньня новых анкет і програм, якія па сутнасьці ўносяць мала новага. Неабходна выкарыстоўваць ужо досыць распрацаваныя анкеты і програмы для мясцовых досьледаў, што павялічыць нашы веды аб краі.

У першым нумары яшчэ не адчуваецца сувязь паміж раённым цэнтрам і пэрыфэрыяй, на што неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Друк (на шклопісе) больш-менш здавальняючы; неабходна, каб лічбы (галоўным чынам у артыкулах аб фэнолёгічных нагляданьнях) былі больш чытэльныя.

Мы пэўны, што „Наш Раён“ будзе пашырацца сярод мясцовых краязнаўцаў і паслужыць добрым прыкладам для іншых організацый у справе выпуску такіх-жа часопісаў.

**Г. С—ч.**

---

**Організаванае вывучэньне Беларусі.**
*(Бібліографічны паказчык).* *)

М. Б.
1924 — Праца Пэдагогічнай сэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры.
„Асьвета“, Менск 1924, № 2, ст. 132-133.

[ . . .
1924 — Статут Інстытуту Беларускае Культуры.
„Асьвета“, Менск 1924, № 2, ст. 156-158.

Баліцкі.
1924—Інстытут Беларускае Культуры.
„Асьвета“, Менск 1924, № 3, ст. 6-9.

С-ков, С.
1924—Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры ІБК.
„Асьвета“, Менск 1924, № 2, ст. 133-134.

Азбукін.
1925—Краязнаўчыя організацыі БССР.
„Наш Край“, Менск 1925, № 1, ст. 6-10.

[ . . .
1925—Ажыўленьне краязнаўчай працы ў вучэбных установах Менску.
„Наш Край“, Менск 1925, № 1, ст. 67.

---

*) Пачатак гл. „Наш Край“, Менск, 1928, № 1.

[ . . .
1925-1927—Краязнаўчая справа пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце.
„Наш Край", Менск 1925-1927 г. г.
Зьмест: 1925: у Б. Дз. У. (II, 58-59)*); 1927: краязнаўчая праца і студэнт-мэдык (II, 62-63); Мэдсэкцыя пры Краязнаўчым Таварыстве Б. Дз. У. (III, 66); краязнаўчае т-ва пры БДУ (VI-VII, 111-112); краязнаўчае навукова - дасьледчае таварыства БДУ (VIII-IX, 85-88).

[ . . .
1925-1927—Дзейнасьць Інстытуту Беларускае Культуры.
„Наш Край", Менск, 1925-1927 г.г.
Зьмест: 1925: I (59-65); 1926 г.: I (54-59); II—(88-90); IV-V (83-86); VIII-IX (77-78); XI (76); XII—(75-76); 1927: IV (67); XI(51-52).

Цьвікевіч, А. І.
1926—Інстытут Беларускае Культуры. ...торыя ўзьнікненьня. Сучасная структу... Навукова-дасьледчая дзейнасьць.
Менск 1926, ст. 118.

Азбукін, М. В.
1926—(Белоруссия) доклад о краеведче...й работе в Белоруссии на VI сессии ЦВК ...ФСР.
„Известия Центрального Бюро Краеведения", Лнгр. 1926, № 1, ст. 12.

Спицин, А.
1926—Краеведение в Белоруссии.
„Известия Центральнаго Бюро Краеведения", Лнгр. 1926, № 3, ст. 81-82.

[ . . .
1926—Минск (краязнаўчая праца на Беларусі).
„Известия Центрального Бюро Краеведения", Лнгр. 1926, № 7, ст. 233.

[ . . .
1926—(Рэзолюцыя) на даклад тав. Ігнаскага—„Інбелкульт і настаўніцтва". (II ...беларускага настаўніцкага зьезду).
„Асьвета", Менск,1926, № 4, ст. 137-138.

[ . . .
1926—Рэзолюцыі па дакладах на І-м ...беларускім Краязнаўчым Зьезьдзе.
„Працы І-га Ўсебел. Краяз. Зьезьдзу", Менск 1926, ст. 72-81.

[ . . .
1926—Праца навуковага т-ва па вывучэньні Беларусі пры Бел. С.-Г. Акадэміі ў Горках
„Наш Край, Менск 1926, № 8-9, ст. 80-81.

[ . . .
1926—Праца беларускага навукова-дасьледчага гуртка ў Ленінградзе.
„Наш Край", Менск 1926, № 6-7. ст. 77.

[ . . .
1926—Гурток па дасьладваньні Беларусі ...ры Ленінградзкім Унівэрсытэце.
„Наш Край", Менск 1926, № 4-5, ст. 95.

[ . . .
1926—Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд.
„Наш Край", Менск 1926, № 2-3, ст. 81—86.

Васілеўскі, Д.
1926—Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі.
„Наш Край", Менск 1926, № 2-3, ст. 3-14.

[ . . .
1926—Працы Першага Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду 7-II-га лютага 1926 г.
Менск 1926, ст. 84.
Зьмест: Інформацыя аб дзейнасьці Інбелкульту (12-13); справаздача Цэнтральнага Бюро Краязнаўства (13-21); справаздача Аршанскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (21-22); справаздача Бабруйскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (22-26); справаздача Барысаўскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (25-29); справазадача Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (29-30); справаздача Калінінскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (30-32); справаздача Магілеўскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (32-37); справаздача Мазырскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (37-38); справаздача Полацкага Акруговага Таварыства Краязнаўства (38); справаздача Слуцкага Акруговага Таварыства Краязнаўства (39-41); справаздача Лельчыцкага Раённага Таварыства Краязнаўства (41); справаздача Ляднянскага Раённага Таварыства Краязнаўства (42); справаздача Сеньненскага Раённага Таварыства Краязнаўства (43); справаздача гуртка краязнаўства пры Хоцімскай сямігодцы (43); інформацыя аб краязнаўчай працы на Гомельшчыне (43-44); спрэчкі па дакладах з месц (44-45) і інш.

[ . . .
1926. Дзейнасьць Цэнтральнага Бюро Краязнаўства (хроніка паседжаньняў).
„Наш Край", Менск 1926.
Зьмест: 1926: X-XI (63-64); 1927—I (74-79); VIII-IX (82-85); XI (42-50); XII (71-72).

[ . . .
1926-1927. Дзейнасьць Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.
„Наш Край". Менск 1926.
Зьмест: 1926: пэрспэктыўны плян працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства (IV-V; 80-81); спробнае краязнаўчае абсьледваньне тыповага раёну БССР (IV-V, 81-83); у ЦБК (VI-VII, 70); пашыраны пленум Цэнтральнага Бюро Краязнаўства (VI-VII, 65-77); гісторыя краязнаўчага руху на Беларусі (X-XI. 78); 1927—дзейнасьць яўрэйскай сэкцыі пры ЦБК (V, 64-65).

———

*) Рымская лічба паказвае нумар, арабская старонку часопісу

Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры.
Рэдактар—З. Бядуля.
Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.

# ЗЬМЕСТ.

*Стар.*


**В. С.**—Краязнаўчыя экскурсіі ў выхаваньні моладзі . . . . 3
**Мік. П. Сьмірноў.**—Асноўныя элемэнты біоклімату Беларусі . 5
**Зьм. Даўгяла.**—Стары Менск . . . . . . . . 10
**А. Шлюбскі.**—Другі год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу . 19


## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.


**Мікіцінскі, Р. Пяцэвіч, П. Ажэўскі.**—Падарож на Случчыне . 28
**Мацьвяёнак.**—З гісторыі партызаншчыны на Магілеўшчыне . 37


## ПРОГРАМЫ, АНКЕТЫ І ІНСТРУКЦЫІ.


Програма для вывучэньня прадзева і ткацтва . . . . 44


## ХРОНІКА.


Што атрымала ЦБК у лютым і ў сакавіку месяцах . . . 51
Краязнаўчая праца Яўрэйскага Сэктару Інбелкульту . . . —
Віцебская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя . . . . 52
Барысаўскае раённае т-ва краязнаўства . . . . . 57
III Полацкая акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя . . . 58
Праца Магілеўскага акруг. т-ва . . . . . . 59
Краязнаўства ў суседніх савецкіх рэспубліках. . . . 61


## БІБЛІОГРАФІЯ.


**„Наш Раён“.** Часопіс Барысаўскага Т-ва Краязнаўства . . 62
Організаванае вывучэньне Беларусі (бібліографічны паказчык) . —

ДА ПАДПІШЧЫКАЎ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“

# З 1-га СТУДЗЕНЯ 1928 ГОДУ

ПЕРАЙШЛО ДА ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“ ПЕРАЙШЛО

# ВЫДАНЬНЕ ЧАСОПІСІ „МАЛАДНЯК“

**У 1928 ГОДЗЕ** „Маладняк“ выходзіць значна рэарганізаваным і павялічаным у нумары да 7-мі друкаваных аркушоў, на лепшай паперы. Рэгулярны штомесячны выпуск часопісі ГАРАНТУЕЦЦА. На 1928 год БУДУЦЬ ДАДЗЕНЫ ДАРМОВЫЯ ДАДАТКІ.

**ГАДАВЫМ ПАДПІШЧЫКАМ:**

1) Комплект „Маладняка“ за 1927 год або
2) Бібліотэчка Маладнякоўскае кніжніцы на 3 руб.

**ПАЎГАДАВЫМ:**

Бібліотэчка Маладнякоўскае кніжніцы на суму 1 руб. 50 кап.

НА ПРАЦЯГУ ГОДУ БУДУЦЬ ДРУКАВАЦЦА Ў ЧАСОПІСІ ня толькі творы сяброў „Маладняка“, але шэраг перакладаў твораў пролетарскіх пісьменьнікаў інша-нацыянальных літаратур.

Для супрацоўніцтва ў аддзеле крытыкі запрошаны лепшыя беларускія крытыкі. Будзе таксама зьмешчаны шэраг артыкулаў агляду літаратур саюзных рэспублік і замежных краін.

У грамадзка-палітычным аддзеле будуць надрукаваны артыкулы аб культурнай рэволюцыі, літаратуры, мастацтве і т. п.

Даецца штомесячна багаты кнігапіс і хроніка беларускага культурнага жыцьця і культурнага жыцьця саюзных рэспублік.

**Умовы падпіскі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На год | 6 руб. | На 3 месяцы | 1 р. 50 к. |
| „ паўгода | 3 „ | „ 1 месяц | — 50 к. |

Цана асобнага нумару 60 кап.

Гадавым падпішчыкам даецца рассрочка: пры падпісцы 2 рублі і праз кожныя два месяцы па 2 рублі. Паўгадавыя падпішчыкі плацяць пры падпісцы 1 руб. 50 кап. і праз два месяцы 1 руб. 50 кап. Дармовыя дадаткі высылаюцца падпішчыкам у рассрочку пасьля атрыманьня апошняга ўзносу.

**Падпіска прымаецца:** кантораю Выдавецтва ЦК ЛКСМК „Чырвоная Зьмена“—Менск; Комсамольская, 25, усімі паштовымі аддзяленьнямі, усімі аддзяленьнямі БДВ і спэцыяльнымі ўпаўнаважнымі і агентамі Выдавецта „Чырвоная Зьмена“.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, клюб Карла Мркса, пакой № 29.**

298

Цана 50 кап.